ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

13 чэрвеня 1997 г. № 24/3900 Кошт 3 000 руб.









Вобразы беларускага замежжа

# *Мітрапаліт Мікалай*

Амаль трыццаць гадоў назад архімандрыт Мікалай быў харатанізаваны ў епіскапа. З таго часу менавіта ён — Першы Іерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў замежжы. Па-ранейшаму служыць у адным з нешматлікіх беларускіх прыходаў Канады. Апошнія гады мітрапаліт надзвычай захоплена працуе над перакладам Бібліі на беларускую мову.

Ён жа — старшыня Фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Агульнавядома, што фонд перадаў з Амерыкі і Канады для дзіцячых клінік Беларусі лекі, вітаміны і цацкі на дзесяткі мільёнаў долараў.

Малое паселішча пад назваю Слуцак, якое час ад часу наведвае мітрапаліт, — лепшы куток для роздуму, адпачынку і малітвы.

**Анатоль КЛЯШЧУК**



## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Падыміце рукі ўсе, хто сумняваўся, што дагавор і Статут Саюза Беларусі і Расіі будуць ратыфікаваны... Не бачу... І сапраўды — ніхто ні хвіліны не сумняваўся ў гэтым. Якія могуць быць сумненні, калі такая воля абодвух народаў... У беларускім Нацыянальным сходзе рашэнне было прынята аднагалосна. У расійскай Думе фракцыя "Яблоко" паспрабавала было загаварыць пра нелегітымнасць беларускага парламента ды неабходнасць новых, дэмакратычных, выбараў, але і там вынікі галасавання былі прадвызначаныя. 10 чэрвеня кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў Расіі і Беларусі абмяняліся ратыфікацыйнымі граматамі. Такім чынам, цяпер ужо законна мы жывем у новым Саюзе. І, адпаведна, да нашых застарэлых праблем дадаліся новыя. Мажліва, гэта і выпадковасць, але менавіта ў чэрвені абвастрылася ў нас хранічная расійская хвароба — несвоечасовая выплата заробкаў. Страйкі па гэтай прычыне на прадпрыемствах і ў калгасах і ёсць першы плён Саюза? Вядома, не. Аднак нават простае часавае супадзенне падзей прымушае людзей шукаць паралелі...***

### *ПАЗІЦЫЯ ТЫДНЯ*

На першым сумесным пасяджэнні Міжпарламенцкай асамблеі краін СНД і ПАСЕ, што адбылася ў Санкт-Пецярбурзе, размова ішла і пра ўзаемаадносіны Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы і Беларусі.

Нагадаем, што Беларусь не толькі засталася фактычна адзінай дзяржавай на еўрапейскім кантыненце, якая не ўваходзіць у гэтую ўплывовую міжнародную арганізацыю, але і пасля апошняга рэферэндуму была пазбаўлена статуса спецыяльна запрошанага... Пазіцыя ПАСЕ засталася нязменнай: непрызнанне новага беларускага заканадаўчага сходу, члены якога прызначаны прэзідэнтам, а не абраны дэмакратычным шляхам. Прэзідэнт ПАСЕ сп. Лені Фішэр сказала: гэта зусім не азначае, што ПАСЕ парвала ўсялякія сувязі з Беларуссю і не будзе шукаць шляхі прымірэння і выхаду з крызісу...

Спроба прымірэння можа адбыцца на чарговай летняй сесіі ПАСЕ, што пачнецца 23 чэрвеня ў Страсбургу, куды ад Беларусі запрошаны па 4 прадстаўнікі "ад парламенцкіх фракцый, якія выступаюць за і супраць Канстытуцыі прэзідэнта Лукашэнкі". Сакратарыят Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання ўжо назваў сваіх прадстаўнікоў. Гэта П. Краўчанка, С. Калякін, М. Грыб, А. Лябедзька.

### *НОВАЎТВАРЭННЕ ТЫДНЯ*

Некалькі "гучных" судовых спраў супраць грамадскіх фондаў, што займаліся распаўсюджваннем гуманітарнай дапамогі на Беларусі, атрымалі на мінулым тыдні лагічнае завяршэнне. Прэзідэнт краіны падпісаў указ "Аб назначэнні У. Ф. Кучынскага дырэктарам дэпартамента па гуманітарнай дапамозе пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь". Мэты наваствoранага дэпартамента самыя высакародныя: "абараніць інтарэсы грамадзян пры атрыманні гуманітарнай дапамогі і забяспечыць у гэтай справе законнасць, правапарадак..." Невядома толькі, на чым трымаецца ўпэўненасць, што гуманітарная дапамога будзе паступаць на Беларусь па-ранейшаму. Замежныя фонды, якія займаюцца дабрачыннай дзейнасцю, як правіла, недзяржаўныя і супрацоўнічаюць звычайна з недзяржаўнымі арганізацыямі. Гэта дае падставы некаторым каментатарам сцвярджаць, што і без таго тонкі апошнім часам ручаёк гуманітарнай дапамогі грамадзянам Беларусі можа і зусім перасохнуць.

### *СТРАЙКІ ТЫДНЯ*

Чарговы выхад беларускіх прадпрыемстваў на "бязмежны расійскі рынак" можа стаць чарговым крахам для іх. Так было ўжо і пры Кебічы, і пры Чыгіры: кіраўнікі нашых прадпрыемстваў разгружалі свае затаварaныя склады ў Расію і, у задавальненні паціраючы рукі, сядзелі ў чаканні грошай. Некаторыя і па сёння чакаюць... Прычынай страйкаў на мінулым тыдні на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній і на вытворчым аб'яднанні "Белвар" стала нявыплата заробку за некалькі месяцаў. А прычына нявыплаты — нядобрасумленнасць расійскіх партнёраў, якія прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў бяруць, прадаюць ад Калінінграда да Сахаліна, а грошы плаціць не спяшаюцца.

### *ЛІЧБА ТЫДНЯ*

У 2 мільярды рублёў ацэньваюцца страты, што нанесены навакольнаму асяроддзю ў выніку выбуху на газаправодзе Таржок—Мінск—Івацэвічы. Менавіта такія грошы павінна будзе заплаціць арганізацыя, вінаватая ў аварыі. Праўда, каму будзе выстаўлены іск на гэткую суму, пакуль невядома. Следства працягваецца.

### *ЗНАХОДЛІВАСЦЬ ТЫДНЯ*

"Знайдзіце хоць адну фразу, дзе я пагардліва адазваўся пра беларускую мову. Знайдзіце і пакажыце. Не знойдзеце. Я заплачу мільён долараў. Знайдзіце і мне дашліце. Ніколі не было гэтага. Гэта зноў выдумкі апазіцыі", — сказаў А. Лукашэнка ў інтэрв'ю маскоўскай "Независимой газете" (29 траўня г.г.). Першай на прапанову прэзідэнта адгукнулася газета "Имя" і нагадала ягоныя словы, што прагучалі колькі гадоў таму ў Гомелі: "Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, не змогуць зрабіць нічога, акрамя як размаўляць на беларускай мове, таму што па-беларуску нельга выказаць нешта вялікае. Беларуская мова — бедная мова. У свеце існуе толькі дзве вялікія мовы — руская і англійская..." Журналісты газеты "Имя" знаходлівыя, але будуць цяпер у іх галовы балець — на што патраціць паабяцаны мільён... Немалыя грошы...

### *АБСУРД ТЫДНЯ*

Пасля заканчэння нядзельнага футбольнага матча паміж зборнымі Беларусі і Шатландыі міліцыя затрымала больш за дзесяць заўзятараў. За што? Толькі за тое, што яны размахвалі на стадыёне гістарычнымі бел-чырвона-белымі сцягамі... Шатландцаў, якія махалі не толькі бела-блакітнымі сцягамі, але і жоўтымі з нейкім гербам, ды яшчэ трэслі нацыянальнымі спадніцамі, наша доблесная міліцыя не затрымлівала.

### *НАМЕР ТЫДНЯ*

Прэзідэнт Расіі Б. Ельцын усур'ёз надумаў "ачысціць Красную плошчу ад могілкавага налёту". Мажліва, ужо гэтай восенню ў Расіі пройдзе ўсенародны рэферэндум пра лёс маўзалея Леніна і шматлікіх магіл пры крамлёўскай сцяне. Цела Леніна, лічыць Б. Ельцын, павінна быць пахавана ў Санкт-Пецярбурзе побач з магілай маці... Расійскія камуністы — у шоку. Але сваю апошнюю цытадэль без бою здаваць не збіраюцца.

ВЫСТАВЫ

# Небам Адзіным



Дзесяць гадоў таму ўвесь свет, акрамя Беларусі і яшчэ, здаецца, Чылі (там панаваў Пінaчэт), адзначыў стагоддзе з дня нараджэння вялікага мастака Беларусі Марка Шагала. У іншых частках СССР стагоддзе мэтра было сяк-так адзначана, былі мерапрыемствы, імпрэзы ў Маскве. Толькі Беларусь, якая мае на Шагала правоў болей чым хто, аказалася за бортам падзеі. Яно і зразумела: тое, што было дазволена цэнтру, правінцыі было забаронена. Асабліва такой правінцыі, як БССР. Усё зразумела. І ўсё ж калі я прыгадваю тагачасную "дыскусію" ў беларускай прэсе, калі адносна Шагала з бальшавіцкай самаўпэўненасцю выказваліся людзі, якія ўпершыню пра яго даведаліся з газет "Советская Белоруссия" і "Вечерний Минск" — органаў ЦК і гаркама КПБ (можна ўявіць, што там было напісана!), — дык становіцца брыдка. Дзякуй Богу, што гэта — ужо гісторыя, а не сённяшні дзень. Хоць, шчыра кажучы, і сёння, пры афіцыйнай арыентацыі на "славянскія каштоўнасці", стаўленне беларускай улады да асобы Шагала і ягонай творчай спадчыны — нейкае двухсэнсоўнае...

Так, выставы Марка Шагала на радзіме мы чакалі дзесяць гадоў. Выстава адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі на мінулым тыдні ў чацвер і будзе працаваць да 29 чэрвеня. На ёй экспануецца 59 літаграфій з фондаў Нацыянальнага музея Марка Шагала "Біблейскае пасланне" ў Ніцы, а таксама 8 гуашаў і 4 акварэлі, што належаць сям'і мастака.

Каб выстава адбылася, спатрэбіліся агульныя намаганні шэрагу ўрадавых устаноў Францыі і Беларусі, добрая воля спадчыннікаў Марка Захаравіча, фінансавая і матэрыяльная дапамога шэрагу спонсараў, найперш — фірмы "Філіп Морыс".

У экспазіцыі — творы так званага Міжземнаморскага перыяду творчасці Шагала, з 1949 па 1985 год. Апошні, заключны перыяд жыцця мастака. Тыя, хто бачыў міжземнаморскае ўзбярэжжа Францыі, кажуць, што гэта — рай зямны. У гэтых райскіх мясцінах творчасць Шагала дасягнула філасофскай дасканаласці, тут скончыўся ягоны зямны шлях. Шлях, які 110 гадоў назад распачаўся ў Беларусі, у Віцебску.

У сённяшнім вяртанні мастака на радзіму ёсць нешта сімвалічнае...

Немалая частка твораў экспазіцыі прысвечана Бібліі — Старому і Новаму Запаветам. Гэта цалкам лагічная з'ява для мастака такога маштабу, якім быў Шагал. Якімі шляхамі ні ішоў сапраўдны творца, рана ці позна ён прыходзіць да Бога, да простай ісціны вялікіх рэлігій. Бо ў рэлігійных канонах, як у дасканалых матэматычных формулах, занатаваны тысячагадовы маральны досвед чалавецтва. Гэта, здаецца, так проста: не забівай, не крадзі, не хлусі, шануй бліжняга... Так проста на словах, так цяжка на справе.

Да творчасці Шагала нельга падыходзіць з крытэрыямі кшталту: "падабаецца — не падабаецца". Трэба зразумець ягоны (і, дарэчы, наш) час, і ўжо ў гэтым кантэксце асэнсоўваць зробленае мастаком. Калі ў пакутах, праз крывавыя рэвалюцыі і сусветныя войны нараджаецца, так бы мовіць, новая рэальнасць і новая вера, трэба, каб нехта нагадаў людзям пра "старыя" каштоўнасці. Працэс разбурэння соцыуму не можа абысці бокам мастацтва. Знікаюць старыя формы, з'яўляюцца новыя, нязвыклыя. Шагал, на маю думку, і быў сярод тых, хто ў новых формах, народжаных новым часам, гаварыў людзям пра "старыя", адвечныя каштоўнасці. Пікасо з ягонай "Гернікай", Малевіч з ягоным "Чорным квадратам" былі вялікімі разбуральнікамі старой, традыцыйнай мастацкай формы. Яны ўвасобілі "час раскідання камянёў". Шагал — іншы чалавек, ён будаўнік, ён "збіраў камяні". Сваімі творамі, нібыта намаляванымі няўпэўненай рукою дзіцяці, ён сцвярджаў, ва ўсе часы ёсць толькі адна сапраўдная каштоўнасць — любоў. На гэтым стаіць свет. Зрэшты, нічога новага. Амаль дзве тысячы гадоў таму гэта ж самае гаварыў Хрыстос. І да Хрыста гэта было вядома...

На вернісажы амбасадар Францыі ў Беларусі спадар Жаліф гаварыў, што народжаны ў Беларусі, прыналежны да габрэйскай абшчыны, спадкаемец расійскай культуры Марк Шагал праз Францыю належыць усяму чалавецтву. Ці можна да гэтага нешта дадаць? Бадай, што не. Калісьці расійскі паэт Андрэй Вазнясенскі сказаў пра тое ж, толькі іншымі словамі. Разважаючы ў вершы "Васількі Шагала" аб загадкавасці сіняга колеру на палотнах майстра, ён пісаў:

***Радзімы розныя — неба адзінае.***
***Небам адзіным жывы чалавек!***

Так, Шагал непадзельна належыць чалавецтву.

**В. БОГУШ**

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# Скарб мастака

Да 110-годдзя з дня нараджэння Марка Шагала

*Час доўга забываў*
*пра гэты кут,*
*Хоць гаспадар*
*у ім пражыў нямала.*
*І без яго кляновым лісцем тут*
*Амаль стагоддзе цэлае апала.*

*Над мастаком паставіў*
*хтосьці крыж,*
*Нічога не пакінуўшы на памяць,*
*Сцвярджаў нахабна:*
*"З'ехаў у Парыж*
*І там жыццё густою*
*фарбай пляміць".*

*Ніхто не бачыў*
*з нас тады карцін,*
*З якіх свяцілі нашы небасхілы.*
*Мы ведам — у час той не адзін*
*Ён пакідаў радзімы кут свой мілы...*

*Гляджу на домік,*
*што ў густой траве*
*Хавае нейкую цяжкую долю.*
*А над Дзвіною воблака плыве,*
*У якім мастак жыццё*
*заўважыць здолеў.*

*Не шкадаваў ён фарбаў, у якіх*
*Зліліся неба светлае з зямлёю.*
*З яго карцін,*
*Як з гістарычных кніг,*
*Ты свет увесь убачыш*
*прад сабою.*

*Ты ў тое верыў,*
*што агонь з Дзвіны*
*На бераг цінай выплеснецца*
*пеннай.*
*І Марк Шагал без ніякой віны*
*Духоўны скарб свой*
*Нам аддасць бясцэнны.*

ФЕСТЫВАЛІ

# Звіняць цымбалы і гармонік!

Свята для цымбалаў, гармонікаў, для многіх іншых адмысловых музычных інструментаў і, вядома, — для многіх шчырых таленавітых людзей зноў прайшло ў Паставах. Сёлетні фестываль, дзесяты па ліку, другі раз прайшоў як міжнародны. На думку відавочцаў, ён быў лепшы з усіх праведзеных фэстаў народнай музыкі, вядомых пад назваю "Звіняць цымбалы і гармонік". На думку арганізатараў, ён атрымаўся такі, якім яго і планавалі: больш за 400 удзельнікаў, дзесяткі канцэртаў, імпрэз, сустрэч...

Якім жа атрымаўся традыцыйны пастаўскі фестываль? Развагі з нагоды гэтага папулярнага свята чытайце ў наступным нумары "ЛіМа".

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*



ВІНШУЕМ!

# Лаўрэаты літаратурных прэмій

***4 чэрвеня 1997 года прэзідыум рады Саюза беларускіх пісьменнікаў прысудзіў літаратурныя прэміі за кнігі, выдадзеныя ў 1996 годзе:***

**прэмія імя А. Куляшова**



Міколу КУПРЭЕВУ за кнігу паэзіі "Правінцыйныя фантазіі";

**прэмія імя У. Калесніка**



Алесю МАРЦІНОВІЧУ за кнігу "Дзе ж ты, храм праўды?";

**прэмія імя І. Мележа**



Віктару СУПРУНЧУКУ за кнігу прозы "Баю-бай, мой генерал";

**прэмія імя Я. Маўра**



Артуру ВОЛЬСКАМУ за кнігу вершаў для дзяцей "Карусель".

***Віншуем лаўрэатаў з высокай ацэнкай іх творчасці, зычым ім новых поспехаў!***

НАПАМІН

# "Для простых людзей..."

Дзень 10 чэрвеня прайшоў як быццам непрыкметна. Ва ўсякім разе на яго не была звернута пільная ўвага нашай грамадскасці. А шкада, бо ён звязаны з датай, якая мае самае непасрэднае дачыненне да нашага нацыянальнага Адраджэння. Менавіта 10 чэрвеня, далёкага 1562 года пабачыла свет першая кніга на старабеларускай мове, якая была надрукавана не за межамі Бацькаўшчыны, а на тэрыторыі самой Беларусі. Кніга гэта — славуты "Катихисисъ, то есть наука стародавная хрістіаньская Святогъ Писма, для простых людей языка рускогo, въ пытаніахъ і отказехъ събрана" Сымона Буднага. Выданне цікавае тым, што і па сённяшні дзень здзіўляе шырынёй тых праблем, якія ўзнімаліся і асэнсоўваліся ў ім. У "Катэхізісе", у прыватнасці, знайшлі адлюстраванне многія погляды С. Буднага. Прынамсі, у прадмове ён заклікаў Радзівілаў шанаваць родную мову, настойваў, каб тыя "не только в чужеземскіх языцех кохалі, але бы ся теж... и того здавна славного языка словеньского розмиловати и оным ся бавити рачили..." Вялікія спадзяванні С. Будны ускладаў на асвету, дзякуючы якой, на яго думку, можна ўзняцца да вышынь цывілізацыі.

**А.М.**

НОВАЕ

# Першая абарона

Афіцыйнае наданне Акадэміі навук статуса Нацыянальнай азнаменавалася і першай абаронай доктарскай дысертацыі. Падзея адбылася ў акадэмічным Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы. Яе "віноўнікам" стаўся загадчык аддзела сучаснай беларускай літаратуры інстытута Сцяпан Лаўшук, які прадставіў савету па абароне дысертацый тэму "Беларуская драматургія XX стагоддзя: асноўныя праблемы развіцця".

Гэтая ёмістая, у 210 старонак праца ўяўляе сабой паспяховую (згодна з дадатным вынікам абароны) спробу даць на аснове вялікага фактычнага матэрыялу, з улікам новых даследчых падыходаў шырокую навукова-эстэтычную панараму развіцця беларускай драматургіі на працягу нашага стагоддзя, вырашаючы пры гэтым шэраг прыватных задач. Іх квінтэсенцыя — у вызначэнні асноўных заканамернасцей фарміравання айчыннай драматургіі, асэнсаванні цяжкасцей, супярэчнасцей і перашкод, пераадоленых ёю амаль за сто гадоў свайго станаўлення.

Работа змяшчае шэраг элементаў навізны літаратуразнаўчага, эстэтычнага характару, што знайшлі сваё ўвасабленне ў матэрыялах, значная частка якіх упершыню ўводзіцца ў навуковы ўжытак.

Сцяпан Сцяпанавіч Лаўшук — нястомны даследчык беларускай драматургіі. Ён аўтар арыгінальных кніг і ўкладальнік шэрагу зборнікаў твораў вядомых на бацькаўшчыне і за яе межамі беларускіх драматургаў, член Саюза пісьменнікаў.

Першага новага ва ўжо Нацыянальнай АНБ доктара навук цёпла павіншавалі новыя прэзідэнт акадэміі Алесь Вайтовіч і віцэ-прэзідэнт Ігар Валатоўскі.

**Раальд ЛЕВІН**

ЭКСЛІБРЫС

# Круглы год

*Хоку беларускіх паэтаў. "Літаратура". Менск.-1996.*

**Як піша У. Адамчык у прадмове да зборніка вершаваных трохрадкоўяў, "кніга хоку беларускіх паэтаў была падрыхтаваная яшчэ ў 1986 годзе". Але з'явілася на свет толькі праз дзесяць гадоў. Для сучаснай беларускай паэзіі — гэта немалы час. І, можа, таму, у параўнанні з паэтычнымі хітамі бумбамлітаўцаў, гэты зборнік нагадвае стары і добры рок-н-рол. Урэшце, ён для майго пакалення стары і добры, а для старэйшых, узгадаваных на класічным ямбе і харэі, гэткая паэзія ў беларускай літаратуры — дзіва дзіўнае.**

**Але прадбачлівы У. Адамчык, каб падкрэсліць пераемнасць і даўнюю мадэрновасць беларускай паэзіі для неабазнаных, пачынае зборнік з хоку М. Танка. Добры мадэрн, які ўсё дваццатае стагоддзе не можа зачапіцца за выпетраную сацрэалізмам беларускую паэтычную глебу... Каб панізіць яго яшчэ на адно пакаленне, згадаю М. Багдановіча: "Мілая, згадай, Веяла цёплай вясной, І вішні цвілі..."**

**Ох, гэтая вішня. У японцаў — гэта вобраз, за якім схаваны цэлы пласт японскай культуры. І таму М. Багдановіч пазначае свае вершы: "з японскага", а М. Танк згадвае яе ў кантэксце японскіх рэаліяў: "Над Фудзіямай — драконы бліскавіцаў. Цвіце сакура". А вось ужо ўсе астатнія спрабуюць механічна прышчапіць вобраз вішні на беларускую глебу, забываючы на тое, што ў нас ёсць толькі адна вядомая "зялёная вішня", якая "з-пад кораня выйшла".**

**"Пялёсткі вішняў Пралятталі па рачулцы З майго дзяцінства", — піша У. Арлоў; "Сад занядбаны, Дол у пялёстках вішань. Ветраны вечар", — уторыць У. Сіўчыкаў; "Белая вішня. Узляцела сініца. Сыплецца шэрань", — працягвае В. Шніп.**

**А. Глёбус спрабуе свядома пазбегнуць "вішнёвай" тэмы ў сваіх найбольш шматлікіх у зборніку хоку, дарэчы, на маю думку, найбольш адметных і цікавых. І нават калі першы радок аднаго з ягоных хоку пачынаецца з асацыятыўнага: "Квітнее сліва". Дык ужо ў наступных радках ён перапрашае: "О, не-не — падалося... Навокал шэрань". Шэрань, шэры — любімы колер у хоку А. Глёбуса і гэта надае ім нацыянальны каларыт. Хаця, часам і А. Глёбус зводзіць тонкі пачуццёвы свет хоку да звычайнага беларускага: "Сліва на стале, Побач востры нож ляжыць; Зараз сліву з'ем..."**

**Гэтаксама, як і вішню, любяць беларускія аўтары хоку вобразы ракавінкі, слімака, матылька, кветкі, лісця і дрэваў. Тэма ўзаемадачыненняў з прыродаю — адна з асноўных тэмаў гэтых хоку, пра што, зрэшты, ніколі не стамляешся чытаць.**

**Для адкрытай і непасрэднай душы беларуса-славяніна, якая звыкла не стрымліваць свае эмоцыі, лаканічныя і змястоўныя хоку выклікаюць напачатку пэўнае неўразуменне. Што і пра што ж там чытаць у гэтых трох радках на семнаццаць складоў? Але потым, калі яму патлумачыць правілы гульні, як гэта робіць у прадмове У. Адамчык, ён сцішваецца, углядаецца, прыслухоўваецца і пачынае смакаваць.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

НАДЗЁННАЕ

# Пратэставаць дазволена... Моўчкі і на задворках

Высокая мэта робіць людзей асабліва прыгожымі. У гэтым яшчэ раз мог пераканацца кожны, хто бачыў у Мінску ўдзельнікаў пікетаў у абарону мовы карэнных насельнікаў краіны — беларусаў. Адухоўленыя, рашучыя твары падлеткаў, хлопцаў і дзяўчат, людзей сярэдняга ўзросту і ветэранаў з многімі дзяржаўнымі ордэнамі і медалямі на грудзях. Людзей самых розных прафесій. А пятай гадзіне, пасля вучобы ці працы яны самаходзь па чацвяргах з канца травеня прыходзілі сюды, у гэты прыцемнены, змрочны завулак, станавіліся ўздоўж лесвічнага марша, разгортвалі самаробныя просценькія плакацікі і транспаранты. Іх тэксты — гэта сучасная сапраўды народная творчасць, дзе ўтрымліваюцца шчымліва-лапідарныя звесткі пра тое, што зараз вырабляюць у нас з нацыянальнай школай. Вось афарызмы: "Толькі здраднік аплёўвае сваю мову", "Кожная мова ад Бога. Не эканомце на беларускіх дзецях", "Знявага мовы — знявага народа". Паведамленні: "У судзе абараняе сваё права вучыць па-беларуску дачку гарадзенец Юрый Мацко". Пытанні і заклікі: "Мэр Ярмошын, дзе ў сталіцы хоць адна беларуская школа?", "Прарасійскае чыноўніцтва! Не адбірайце будучыню ў нашых дзяцей!" Плакацікі з канкрэтнымі лічбамі, якія ашаламляюць: зусім нядаўна ў Мінску было за сотню беларускамоўных школ, цяпер... — чытай зварот да мэра Ярмошына. Ці зварот да начальніка гарадскога ўпраўлення адукацыі сп. Варыводы. Дарэчы, у асяродку пікетчыкаў можна пачуць пра гэтага таварыша наступныя звесткі: да нядаўняга часу ўзначальваў аддзел адукацыі Савецкага раёна сталіцы — самы прарасійскі па настроях, які атрымаў першынство ў спаборніцтве за поўную ліквідацыю беларускіх школ. Відаць, і за гэтыя заслугі атрымаў павышэнне па службе — зараз адпаведны раённы вопыт пераносіць на прастору ўсёй беларускай сталіцы.

Не лепей справы з адукацыяй на беларускай мове і ў іншых месцах нашай краіны.

— Паўсюдна адбываецца бязлітасная дыскрымінацыя беларускамоўнага насельніцтва, — гаворыць намеснік старшыні рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы, універсітэцкая выкладчыца філалогіі Людміла Дзіцэвіч. — У верасні 1995 года яшчэ хоць крыху дыпламатычна падыходзілі да ліквідацыі беларускамоўных класаў: апытвалі бацькоў, прапаноўвалі ім пісаць заявы, пераконвалі, што так, маўляў, будзе лепей для іхніх дзяцей, бо нібыта і выкладчыкаў падрыхтаваных не хапае, і падручнікаў беларускамоўных, а ў гэтым годзе наступ на беларускасць вядзецца ўвогуле беспардонна нахабны і цынічны. Збіраюць бацькоў на сход і абвяшчаюць: з наступнага года такія і такія класы будуць рускамоўнымі. Сродкі, кажуць, трэба эканоміць. А калі каго гэта не задавальняе, кажуць, можаце пераводзіць сваіх дзяцей у іншую школу.

Лёгка сказаць — у іншую. Гэта значыць, вазіць штодзённа дзяцей некуды ці не праз увесь горад. Гэта разрыў ранейшых школьных сувязей. Гэта, урэшце, дзіцячыя пакуты, слёзы, нервовыя зрывы, стрэс.

Але чаму такая доля ўгатавана чыноўнікамі менавіта беларускім дзецям? Беларусі!?

Калі раней на рашучы пратэст адважваліся невялікія групкі бацькоў, то цяпер іх колькасць пастаянна расце. Яны пішуць лісты калектыўнага пратэсту ў Міністэрства адукацыі і навукі, а паколькі там спрабуюць адмаўчацца, шукаюць адрас Беларускага Хельсінкскага камітэта па абароне правоў чалавека, прыходзяць у сакратарыят Таварыства беларускай мовы з прапановай арганізаваць пікет пратэсту супраць дыскрымінацыі беларускамоўнага школьніцтва. Кіраўніцтва ТБМ у выніку падало заяўку ў гарсавет на пікетаванне. Прасілі дазволу ўстанавіць пікет ля ўваходу ў памяшканне Міністэрства адукацыі.

— Улады палічылі, што гэта ўжо занадта, — кажа Людміла Дзіцэвіч, — бо побач жа знаходзіцца Савет Міністраў, іншыя адміністратыўныя ўстановы краіны. Урэшце для пікета вызначылі месцейка ў завулку Ленінградскім, на задворках гарсавета і бліз плошчы Незалежнасці. Пікетчыкі стараюцца па прыступках узняцца бліжэй да плошчы Незалежнасці, а міліцыянты, якім даручана за пратэстантамі назіраць, патрабуюць спускацца як мага ніжэй, на задворкі.

Да пікетаваўшых увесь час падыходзілі людзі, якія нейкім чынам дазнаваліся, дзе гэты Ленінградскі завулак знаходзіцца. Амаль кожны расказвае сваю гісторыю здзеку чыноўнікаў ад адукацыі з нацыянальнай годнасці патрыётаў-беларусаў. Самы просценькі, але па-ранейшаму эфектыўны прыём: бацькоў ці маці ў індывідуальным парадку пераконваюць, што адны яны такія засталіся "нецывілізаваныя", што хочуць, каб іх дзеці вучыліся па-беларуску, усе астатнія "одумались". А паколькі звестак пра сапраўднае становішча атрымаць няма адкуль (раней хоць раз на тыдзень нешта паведамляла газета "Наша слова"), выстаяць людзям ад псіхалагічнага ўціску няпроста. Бывае, некаторыя і здаюцца, ламаюцца.

Уражвае цынізм тых, хто зачыняе беларускамоўныя класы. Старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі Яўген Лаўрэль расказвае, як па просьбе бацькоў беларускамоўных вучняў ён са старшынёй Мінскай гарадской рады ТБМ прафесарам Эканамічнага універсітэта Міколам Савіцкім прыйшлі на сход у сярэднюю школу N 23 (знаходзіцца на праспекце Скарыны каля плошчы Я. Коласа). Школа адной з першых у свой час стала беларускай, а цяпер вось, згодна новым, прарасійскім павевам, тут спрабуюць ліквідаваць ажно ўсе беларускамоўныя класы — ад першых да восьмага. Гэта пры тым, што сюды ўжо возяць дзяцей бацькі з тых мікрараёнаў, дзе навучанне ў школах толькі рускамоўнае. І вось дырэктрыса паведамляе: "Тем, кто будет настаивать на продолжении обучения своих детей "па-беларуску", районо предлагает перевести их в 27 среднюю школу на бульваре Шевченко"...

Значыць, там прадугледжана стварыць рэзервацыю для малалетніх беларусаў? Што ім наносіцца моцная псіхалагічная траўма, увогуле пад увагу не бярэцца. Чыноўнікі націскаюць на "эканамічную", бачыце, мэтазгоднасць такой пертурбацыі. Маўляў, беларускамоўныя класы "малалікія", недзе па 12-20 чалавек.

Але ж такім па колькасці і павінен быць сучасны клас, лічыць Я. Лаўрэль, а з ім згодная і Людміла Дзіцэвіч, і яшчэ адна вопытная універсітэцкая выкладчыца філалогіі Вольга Кузьміч, і многія іншыя спецыялісты. А паўнавартасны педагагічны працэс, грунтоўная адукацыя беларускіх дзяцей — гэта будучае сапраўднае нацыянальнае багацце краіны! Гэта даражэй за любыя карысныя радовішчы.

**Эрнест ЯЛУГІН**

НАВІНЫ З БРЭСТЧЫНЫ

## У гонар Рыгора Шырмы



**У рамках абласнога фестывалю акадэмічных спеваў адбылося адкрыццё бюста Рыгору Раманавічу Шырме. Урачыстасць адбылася ў Пружанах, каля школы мастацтваў яго імені. Ля прыкрытага белым пакрывалам помніка сабраліся самадзейныя артысты, а таксама жыхары горада. Да прысутных звярнуліся старшыня Пружанскага райвыканкама С. Тарасевіч, унук Рыгора Раманавіча — Расціслаў Шырма, дырэктар школы мастацтваў Я. Малайчук. Усе выступленні прanізваў адзін лейтматыў: каб вечнай была памяць пра гэтага чалавека, каб гучалі яго песні, каб нашы душы былі такімі ж добрымі, адкрытымі і шчырымі, як песні Рыгора Раманавіча.**

**А. ХАДАРОВІЧ**

**Фота А. МЕЛЕША**

## "З дзецьмі працаваць складаней..."

**Івацэвіцкі дзіцячы драматычны калектыў паставіў спектакль па казцы Зінаіды Дудзюк "Сінязорка". Сінязорка — гэта чароўная птушка і адначасова назва зборніка п'ес, які стаў ці не апошнім выданнем "Навукі і тэхнікі". Рэжысёр Валянціна Кулецкая сказала так:**

**— Я прапанавала дзецям некалькі п'ес на выбар. Яны выбралі "Сінязорку". Магчыма, таму, што ў п'есе ёсць дынаміка, сутыкненне сіл, насычанасць падзеямі. Спектакль падрыхтаваны сумесна з харэаграфічнай групай нашага Дома культуры. Галоўную ролю — караля — выконвае пяцікласнік Алег Молаш. Такіх таленавітых артыстаў, як ён, прызнаюся, у мяне яшчэ не было. Любую сцэну іграе напоўнена, з душуўнай аддачай... З дзецьмі працаваць складаней: патрабуецца шмат цярпення. Але, мабыць, і цікавей...**

## Пачуць душу

**Гарадскі метадычны цэнтр Брэста (дырэктар А. Нярода) у розных залах горада ўжо другі год праводзіць вечарыны "Мелодыя душы". Да ўдзелу ў іх запрашаюцца самадзейныя кампазітары, спевакі, музычныя калектывы, таленавітыя музыканты. Мэта такіх імпрэз — паказаць чалавека і з творчага боку, і як асобу. Гасцямі іх былі Віктар Фяцісаў — кіраўнік народнага хору, кампазітар, Сяргей Любчук — кіраўнік папулярнага ансамбля "Бярэсце", вакальна-інструментальны ансамбль "Мушкецёры", квартэт ГДК "Мілавіца", народная харавая капэла настаўнікаў. Гледачы адзначалі надзвычай цёплую атмасферу гэтых вечарын. У іншых умовах чалавек проста не раскрыецца, і "мелодыя душы" застанецца непачутай...**

**Г. К.**

АНОНС

## Запрашае "Змена"

**17 чэрвеня ў 18 гадзін 30 хвілін у кінатэатры "Змена" адбудзецца рэтраспектыўны паказ кінафільмаў рэжысёра Ларысы Шапіцькі на IV Міжнародным фестывалі жаночага кіно. Можна будзе паглядзець мастацкі фільм "Узыходжанне" паводле аповесці Васіля Быкава "Сотнікаў" і дакументальны фільм рэжысёра Элема Клімава "Ларыса" пра Ларысу Шапіцькю. На сустрэчу з кінагледачамі прыйдуць навукоўцы Алесь Рагуля і Вячаслаў Чамярыцкі, а таксама кінакрытык Вольга Мядзведзева.**

МЕРКАВАННЕ

# Каб далей ад граху...

У вестыбюлі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" прачытаў словы Петруся Броўкі: "Стварыць энцыклапедыю — гэта пісаць біяграфію свайго народа...". З выказваннем першага галоўнага рэдактара выдавецтва, здавалася, пагадзіўся і цяперашні яго кіраўнік Генадзь Пашкоў, калі даваў інтэрв'ю пасля свайго прызначэння на адказную пасаду (гл. "Звязду" за 18 мая 1996 г.). Прынамсі, ён адмоўна паставіўся і да "паловы праўды", і да выкладвання матэрыялаў "ва ўгоду палітычнай кан'юнктуры". Затое "праўдзе" і "аб'ектыўнасці" даў на словах зялёнае святло. А як на справе?

Выйшла ўжо тры (з васемнаццаці запланаваных) тамы новай універсальнай "Беларускай энцыклапедыі", падпісаныя ў свет Г. Пашковым. Можна шмат гаварыць пра іх вартасці, але нельга свядома не заўважаць і недахопы. Не буду кранаць асвятленне мінулага Бацькаўшчыны, а што тычыцца нашага сягоняшняга жыцця, дык асабіста мне кінуліся ў вочы такія заганы, як замоўчванне фактаў і з'яў, нявыгадных для цяперашніх уладатрымальнікаў.

Напрыклад, у артыкуле "Адміністрацыйна-камандная сістэма" (т. 1) слушна сказана пра яе "негатыўныя вынікі" і ўзнікненне пасля аб'яўлення незалежнасці Беларусі "аб'ектыўных перадумоў" для іх "ліквідацыі". Чытачы, аднак, застаюцца ў шчаслівым няведанні наконт таго, як выкарыстоўваюцца тыя перадумовы. Ці ў нас паступова ўсталёўваецца "дэмакратычная сістэма кіравання сацыяльнымі працэсамі" ці, можа, адбываецца нешта процілеглае — вяртанне ва ўсіх формах і відах старой сістэмы, якая, паводле энцыклапедыі, характэрна для краін, дзе "пануе практыка палітычнага ўладарання"? Сказаўшы А, аўтар, як бачна, не сказаў Б — агульныя звесткі аб адміністрацыйна-каманднай сістэме падаў без усялякай сувязі з рэчаіснасцю сучаснай Беларусі. А гэта супярэчыць таму, што дэкларавана не толькі ў інтэрв'ю галоўнага рэдактара, але і ў прадмове, змешчанай у 1-м томе.

Або чытаю ў артыкуле "Аўтарытарызм" (т. 2): "Аўтарытарныя метады кіраўніцтва праяўляюцца ў тых постсацыялістычных краінах Усходняй Еўропы і былога СССР, дзе неэфектыўна дзейнічаюць дэмакратычныя механізмы дзяржаўнай улады, дзе пашыраны сацыяльная дэмагогія, масавая апеляцыя да "моцнай" улады і "моцнага" лідэра". Фразу не назавеш кароткай, але ў ёй, далібог праўда, усё ж нестае двух слоў — "уключаючы Беларусь", — якія былі б да месца пасля "былога СССР".

Марна шукаць на старонках даведніка і што-небудзь пра цяперашні стан мовы, на якой яна выдаецца. Праўда, у 3-м томе (с. 42), дзе гаворыцца пра асвету на Беларусі, ёсць некалькі лічбаў, але яны датычаць 1994/95 навучальнага года. Катастрафічныя ж наступствы рэферэндуму-95 для нацыянальнай школы і ўвогуле для роднай мовы стваральнікі выдання поўнасцю праігнаравалі.

(Характэрны штрых. У адной з мінскіх кнігарняў вывесілі ксеракопію ўрадавага распараджэння (ці проста ліста?) N 05/311-52 ад 20 сакавіка г. г., падпісанага нам. прэм'ер-міністра краіны У. Русакевічам. Сутнасць яго: "Беларуская энцыклапедыя" "должна быть" у кожным міністэрстве, ведамстве, дзяржаўнай установе, не кажучы ўжо пра бібліятэкі, ВНУ, школы... Усё гэта, зразумела, няблага. Незразумела іншае: чаму дакумент "О приобретении и проведении подписки на Белорусскую энциклопедию" напісаны, уключаючы і назву выдання, на рускай мове? Калі Уладзімір Васілевіч, які сам, дарэчы, нязмушана выказваецца на роднай мове, не ўпэўнены, што дзяржаўныя чыноўнікі, да якіх адрасуецца віцэ-прэм'ер, здольныя прачытаць па-беларуску колькі радкоў пісьма, дык як, на яго думку, яны будуць "использовать в служебных целях" шматтомную "Белорусскую энциклопедию"? Дадам яшчэ: яе наклад у два з паловай разы меншы, чым наклад 12-томнай БелСЭ, выдадзенай амаль чвэрць стагоддзя таму).

Залішне казаць: простыя людзі штодзень на саміх сабе зведваюць незайздросную становішча ці не ва ўсіх сферах жыццядзейнасці нашага грамадства. Цяжэй або, як у выпадку з мовай, зусім нельга дазнацца пра гэта з энцыклапедыі. Прычым апошнія статыстычныя і іншыя звесткі не заўсёды трапляюць у асобныя артыкулы не столькі па тэхнічных, колькі па палітыка-кан'юнктурных прычынах. Варта падумаць хаця б над такім фактам. З артыкула "Беспрацоўе", змешчаным у 3-м томе, які падпісаны да друку 30 кастрычніка мінулага года, можна даведацца пра колькасць зарэгістраваных у нас "лішніх" людзей толькі на пачатак 1994 г. (вялікае скрытае беспрацоўе ў рэспубліцы наогул замоўчваецца). А колькасць усяго насельніцтва (і паасобна — гарадскога і сельскага, як і іншыя даныя аб ім) выдаўцы паспелі падаць у тым жа томе ўжо па стане на пачатак 1996 г. (с. 12, 18, 19).

Чым жа тлумачыцца, так бы мовіць, дыскрымінацыя беспрацоўных на старонках энцыклапедыі? За два гады (1994—1995) іх стала ўдвая болей, што, безумоўна, кідае цень на сённяшняе кіраўніцтва краіны. І каб далей ад граху, непажаданыя лічбы, мусіць, проста схавалі ад цікаўнага чытача.

Дужа ўражвае ні з чым не параўнальная спрытнасць, праяўленая пры падрыхтоўцы тых раздзелаў артыкула "Беларусь" (т. 3), дзе адлюстроўваецца палажэнні "Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 (са змяненнямі і дапаўненнямі)", прынятай, як двойчы падкрэсліваецца аўтарамі, на рэферэндуме 24 лістапада 1996 г. Галоўная штука ў тым, што том падпісаны за 11 дзён да з'яўлення на божы свет канчатковага тэксту праекта памянёнай Канстытуцыі (гл. спецвыпуск "Советской Белоруссии" ад 10 лістапада) і аж за 25 дзён да афіцыйнай даты ўсенароднага галасавання! (Гэта нешта накшталт таго, як у часы адміністрацыйна-каманднай сістэмы ў кабінетах ЦК рыхтавалі "вынікі" выбараў у Вярхоўны Савет задоўга да іх правядзення). А яшчэ кажуць, нібы вышэй пят не падскочыш... І ўсё ж, відаць, у спешцы да сяго-таго рукі не дайшлі: у прыватнасці, азначэнне статуса рускай мовы ў тым жа артыкуле дадзена паводле не апошняга рэферэндуму, а майскага 1995 г. (с. 12, 29).

Можа, камусьці ўявіцца, што аўтар нататкі разменьваецца на дробязі. Не, гэта не дробязі: у даведачнай літаратуры, а тым больш ва універсальнай энцыклапедыі — біяграфіі народа! — усё вартае ўвагі. Як, зрэшты, і ў біяграфіі чалавека.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

ДЫЯСПАРА

# Ці будзе паразуменне?

Здарылася так, што ў Латвіі, нягледзячы на адносна невялікія памеры краіны, у часы развалу СССР стварыліся ажно тры суполкі тамтэйшых беларусаў — "Світанак", "Прамень" і "Уздым". Атрымалася гэтак хутчэй не з прычыны нейкіх палітычных разыходжанняў, а таму што людзі перш-наперш аб'ядноўваліся "па знаёмстве". Затым дзякуючы канцэртным праграмам, вечарынам і сродкам масавай інфармацыі Латвіі кантакты паміж суполкамі значна ўзраслі, чаму спрыяла і выданне газеты беларусаў Латвіі "Прамень", развіццю якой на першым часе дружна садзейнічалі ўсе. Што справа гэта надзвычай важная, выразна адзначыла жыхарка Балдарэі (як на ранейшае вымаўленне — Булдуры) Галіна Гладун, выступаючы на справаздачным сходзе суполкі "Прамень". Беларусаў у Латвіі многа, сказала яна, толькі мала хто з іх ведае пра суполкі сваіх землякоў. Вось і я не ведала, а толькі як атрымала газету "Прамень" з аб'явaю пра справаздачны сход, прыйшла да вас. У нас жа, у Балдарэі, як і ва ўсім Усць-Дзвінску, амаль кожны пяты жыхар — беларус. Яны не маюць інфармацыі, хто вы, дзе знаходзіцеся... Каб у такіх жылых масівах, як, скажам, наш, была наладжана беларуская прапаганда, то ў гэты пакой, дзе мы зараз засядаем, нельга было б уціснуцца. Мы рады беларусам, хочам чуць сваю родную мову. Нават на вуліцы, пачуўшы знаёмы говар, хочацца кінуцца на шыю таму чалавеку.

Паміж тым здарылася так, што ў кіраўніцтве суполкі "Прамень", зазначае адзін з актывістаў беларускага культурнага руху ў Латвіі мастак Вячка Целеш, цяпер знаходзяцца людзі, якія ў большасці захавалі яшчэ бээсэсэраўскі стэрэатып у поглядах на нацыянальнае беларускае. Ім здаецца, што дастаткова недзе прыляпіць бірку з нацыянальным арнаментам або праспяваць адну-дзве беларускія песенькі — і гэтага досыць дзеля адраджэння беларускай нацыі, яе мовы і культуры. Погляды світанкаўцаў — у больш рашучых захадах у адстойванні сваёй нацыянальнай адметнасці. Але для нас нармальна, калі нехта лічыць інакш, бо менавіта дэмакратыя прызнае іншадумства і дазваляе жыць побач і супрацоўнічаць людзям і нават арганізацыям з рознымі палітычнымі праграмамі. Ды нельга змірыцца, калі нашы апаненты адзіную газету беларускай дыяспары Латвіі пачалі выкарыстоўваць не проста дзеля самаўсхвалення, але і каб пасеяць у чытачоў непрыязь да світанкаўцаў. У той жа час газета "Прамень" стала друкаваць аднабаковую інфармацыю пра падзеі ў самой Беларусі — толькі тую, якую распаўсюджвае афіцыйнае Беларускае тэлеграфнае агенцтва. А ў выніку пра тое, што сапраўды адбываецца на Бацькаўшчыне, мы вымушаныя даведвацца з мясцовых расійскамоўных і латышскіх газет. Нават пра выніку апошняга рэферэндуму газета ўмудрылася надрукаваць адно афіцыёзныя звесткі, ні словам не згадаўшы пра стаўленне да падзеяў у Беларусі хаця б той жа Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, якая ахарактарызавала рэферэндум як "незаконны". Тым не меней, падкрэсліў Вячка Целеш, мы пра такую пазіцыю газеты нідзе публічна не выказваліся — ні афіцыйна ў прэсе, ні нават на сваіх сходах. А што ў адказ?

Тут нельга не пагадзіцца з Вячкам Целешам, што "Прамень" і сапраўды паказаў "Світанак" у даволі прыкрым асвятленні. Аднабакова, бо крытыка вялася чамусьці на сходах прамянёўцаў — справядлівая ці не, — але без удзелу світанкаўцаў. Газета змясціла ажно два вялікія рэпартажы з тых сходаў, цытуючы крытычныя выказванні на адрас апошніх. Не мінаючы і чыста эмацыянальныя, накштальт: мы, прамянёўцы, займаемся добрымі справамі, мову вывучаем, спяваем песні, пішам у газету, "а вы, інтэлігенты, усё світаеце ды дэбатуеце", "мы на віду... а вось вы дык усё скрываецеся" (?), "нідзе пра вас нічога не пішацца, мо вас ужо няма як суполкі?" і г. д.

Зразумела, што ў адказ світанкаўцы пажадалі аспрэчыць падобныя выказванні, а заадно і паведаміць пра свае справы. Напісалі адпаведны ліст у рэдакцыю газеты "Прамень", дзе згадалі і пра не падтрымку, і пра Беларускую мастацкую студыю "Вясёлка", і пра рыжскую беларускую пачатковую ды пра нядзельную школы, праграму "Світанак" на Латвійскім радыё, публікацыі матэрыялаў пра беларусаў Латвіі ў газетах "Рыгас Балс", "СМ-сегодня", "Голас Радзімы", "Літаратура і мастацтва" ды іншых. Але рэдакцыя газеты "Прамень", па словах В. Целеша, гэты ліст ад світанкаўцаў не прыняла. Вось і вырашыла рада суполкі накіраваць яго ў сродкі масавай інфармацыі Беларусі.

На сходзе прамянёўцаў кіраўніцтву было з залы зададзена такое пытанне (Таіса Шабан): "У Рызе ёсць "Світанак" і ёсць "Прамень". У іх што, розныя ідэалагічныя напрамкі? Чаму мы не разам, мы ж адзіная беларуская нацыя". Два таварыствы сапраўды прытрымліваюцца розных палітычных поглядаў, прызнаў адзін з кіраўнікоў "Праменя" Алесь Карповіч, але гэта не страшна, запэўніў ён, вунь колькі ў зале людзей і кожны мае свае думкі, меркаванні...

Выходзіць, лідэры і адной, і другой беларускай суполкі ў Латвіі прытрымліваюцца дэмакратычных поглядаў на вырашэнне спрэчных пытанняў і таму спадзяёмся, што ўрэшце знойдуць яны паразуменне. Гэтак лічыць і кіраўнік Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач і спадзяецца, што на Другі з'езд беларусаў свету дэлегаты латышскіх беларусаў прыедуць з адзінай узгодненай праграмай. З'езд, як вядома, адбудзецца 26—27 ліпеня. На пасяджэнні аргкамітэта, дарэчы, вырашана, што выходзячы з існуючых цяпер абмежаваных магчымасцей ЗБС, колькасць дэлегатаў давядзецца строга рэгламентаваць — па аднаму прадстаўніку ад кожнай беларускай суполкі ў замежжы. Астатнія змогуць атрымаць статус госця.

**У. АСІНАВЕЦ**

ШЛЯХІ

# "Багацце й хараство тваё прыроды"

Аляксей РАГУЛЯ

## РАЗВАГІ І ДУМКІ ПРА МОВУ І КУЛЬТУРУ

ПАЧЫНАЮЧЫ з эпохі Адраджэння, філасофія і мастацкая культура засяродзілі сваю ўвагу на праблемах гарманічнага ўзаемадзеяння важнейшых кампанентаў свядомасці — розуму і маралі. У цеснай сувязі з гэтай праблематыкай даследуюцца і функцыі мовы. Глыбока разумеючы значэнне нацыянальнай мовы ў гомінізацыі асобы і грамадства, беларускі мысліцель Францішак Скарына ў ліку першых пераклаў і на беларускі лад вытлумачыў на карысць паспалітага люду Біблію. У дзейнасці Ф. Скарыны быў матэрыялізаваны высокі ўзлёт беларускай маральнай філасофіі. Мысліцель зразумеў, што мёртвыя мовы, вельмі дасканалыя і прыстасаваныя для абстрактнага мыслення, свой творчы патэнцыял вычарпалі. Скарына дакладна фармуляваў мэты сваёй дзейнасці: "Да совершен будеть человек божий и на всяко дело добро угатован..." Мысліцель, такім чынам, імкнуўся сфарміраваць якасць, якую сучасная фенаменалогія кваліфікуе як палярэднюю н а к і р а в а н а с ц ь асобы на актыўную пазнаваўча-творчую дзейнасць. Скарына быў перакананы, што духоўнае ўзвышэнне чалавека ажыццяўляецца ў працэсе моўных зносін. Яго этапы таксама замацоўваюцца ў жывой мове. Перакладаючы Біблію, Скарына адначасова вядзе дыялог з чытачом, тлумачыць змест і сюжэтабудову кніг святога пісання, мяняе кананічны парадак іх выхаду. Яго вытлумачэнне Бібліі вытрымана ў святле парадыгмы **гаспадара** — своеасаблівай мадэлі культурнага героя, якая ў эпоху Рэнесанса ў Беларусі фактычна прыйшла на змену культу **месіі**. Скарына не толькі па-свойму тлумачыў топасы Бібліі, але і сам ствараў адпаведны катэгарыяльны апарат. Уведзеныя ім ва ўжытак паняцці "паспалітае добрае" (грамадская карысць) і "опатреность" (абачлівасць) сведчаць аб тым, што беларускі мысліцель не прыняў хіліясцкага рэвалюцыянарызму ідэолага сялянскай вайны Томаса Мюнцэра. Моватворчая дзейнасць Скарыны адлюстроўвае і заадно фарміруе нацыянальны менталітэт беларускай нацыі.

У эпоху Асветніцтва вялікую ролю маўлення ў развіцці філасофскага мыслення раскрылі нямецкія мысліцелі. І. Гердэр у працы "Ідэі да філасофіі гісторыі чалавецтва" (1784) адзначаў ролю мовы ў абуджэнні не толькі розуму, але ўсіх духоўных сіл асобы: "Дзякуючы гаворцы, зрок, слых, усе пачуцці зліваюцца ў творчую думку, і рукам, гэтай прыладзе чалавечага мастацтва, усім іншым членам цела застаецца толькі пакарыцца мыслі". Звяртае на сябе ўвагу цікавасць Гердэра да самога працэсу маўлення — неабходнай умовы нараджэння думкі, станаўлення новага этапу філасофскага мыслення на аснове моўнага развіцця нацыі.

Сярод найбольш значных адкрыццяў нямецкага мовазнаўцы і філосафа Вільгельма Гумбальта з'яўляецца яго вучэнне аб унутранай форме мовы, яе "незвычайна духоўнай сіле" — захаванай у мове крыніцы энергіі, якая забяспечвае цывілізацыйнае развіццё індывідуальнага і калектыўнага суб'екта культуры і з'яўляецца найбольш характэрным паказчыкам стваральнага духу нацыі. "Уварванне глыбіннай духоўнай сілы" ў ход сусветных падзей В. Гумбальт расцэньваў як "сапраўдны стваральны пачатак у схаваным і як бы паступальным развіцці чалавецтва, якое ў пэўным сэнсе супрацьстаіць развіццю яўнаму, змацаванаму бачнымі прычынна-выніковымі сувязямі". Незвычайная духоўная сіла складае самабытнасць нацыянальнага духу. Яе ўтварэнні з'яўляюцца "не проста фундаментам, на якім можна прадоўжыць будаўніцтва, але нясуць у сабе яшчэ і натхненне, якое спарадзіла іх". Такое "ўварванне" стваральнай сілы этнасу В. Гумбальт бачыў ва ўзнікненні егіпецкага пластычнага мастацтва з яго арганічным засяроджаннем прапорцыяў. Да гэтага ж раду мысліцель адносіў з'яўленне індыйскай паэзіі і філасофіі, класічнай антычнасці, рымскага тыпу мыслення, вылучэнне з абдымкаў лацінскай мовы нацыянальных культур еўрапейскага Захаду. Гэты рад сёння можна прадоўжыць карцінамі "ўварвання" ў культурнае жыццё краін, якія аднаўляюць сваю дзяржаўнасць на прасторах разабраных цывілізаваным спосабам ці па-варварску разрабаваных поліэтнічных імперый. Сярод новых дзяржаў і культур сёння імкнецца замацаваць сваё месца і Беларусь.

Сіла "светазарных ідэй, якія скіраваны на мову і пранізваюць яе сваім святлом і цяплом", — гэта, адзначае В. Гумбальт, і ёсць "унутраны бок мовы". Ён і складае ўласна мову. "Але не толькі ў інтэлектуальным змесце мовы яе энергія. Ёсць яшчэ ў мове сілы, якія нельга вымераць з дапамогай гэтых паняццяў і разважання: "фантазія і пачуццё спараджаюць індывідуальныя ўтварэнні (gestaltungen), у якіх адлюстроўваецца індывідуальны характар нацыі і ў якіх, як ва ўсім індывідуальным, разнастайнасць спосабаў, з дапамогай якіх дадзенае (nemliche) можа праяўляцца ва ўсё новых і новых азначэннях, даходзіць да бясконцасці".

"Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства" (К. Чорны) закладзеных у нацыянальнай мове магчымасцяў культуры яшчэ больш выразна выказана ў філасофіі 20-га стагоддзя. Сучасная фенаменалогія даследуе і адлюстроўвае заканамернасць арганічнай залежнасці прадуктыўнага філасофскага мыслення ад ступені вербалізацыі нацыянальных культур. Традыцыйныя катэгорыі і тыпы філасофскага мыслення сёння ўжо не валодаюць патэнцыялам, дастатковым для спасціжэння сучаснай глабалістыкі ў яе шматгранных рэальных з'явах. Развіццё філасофскай думкі скоўваецца таксама імперскай заангажаванасцю мовы "старэйшых братоў" — сучасных звышдзяржаў. Працэс моўных зносін і, значыць, спасціжэнне глыбіні анталагічнай праблематыкі таксама стрымліваецца ўзмоцненай фармалізацыяй мовы навукі. Арганічнае развіццё сацыяльнай рэчаіснасці ўсё больш падмяняецца яе "састаўленнем" з загадзя нарыхтаваных блокаў, прыдуманых структур ("супольнасцяў"), што вядзе да парушэння раўнавагі ва ўзаемаадносінах соцыуму з космасам.

Марцін Хайдэгер, адзін з буйнейшых мысліцеляў 20-га стагоддзя, вырашэнне праблем станаўлення новага тыпу мыслення ставіў у непасрэдную сувязь з экзістэнцыялам **"тут-быцця"** (dasein), семантычна блізкага да паняццяў **"вось-быццё"** і **"наяўнае-быццё"**. Такі тып мыслення адлюстроўвае працэс пераадолення свядомасцю імперскага сіндрому, згодна з якім цэнтрам сусвету з'яўляецца сталіца імперыі: там усё "цэнтральнае" і "галоўнае", нават навагодняя ёлка ў Крамлі — "галоўная", і дзеці вакол яе, трэба думаць, вартнейшыя за іншых, не кажучы ўжо пра "малодшых братоў" ды "чукчаў".

М. Хайдэгер — філосаф крызіснай эпохі. Ён шукаў стылявую формулу павышанай ёмкасці, якая б змагла паказаць сілу і слабасць чалавечага духу, тупікі і рэсурсы вяртання на чалавечы "прасёлак" — дарогу да свайго дому, да сябе: "Мова, усё роўна, ці гавораць на ёй, ці маўчаць на ёй, гэта першае і самае шырокае ачалавечванне існага. Але іменна яна ж і найпершапачатковае абесчалавечванне чалавека ў якасці наяўна жывой істоты, "суб'екта" і ўсяго, што бывала дагэтуль".

Сярод найбольш небяспечных форм абясцэньвання і абесчалавечвання М. Хайдэгер называў гітлераўскую "балбатню". Будучы нейкі час рэктарам універсітэта, ён меў магчымасць пазнаць знутры фашысцкую тэхналогію ачмурэння плебеяў і інтэлектуалаў.

Прыведзеныя вышэй назіранні, зразумела, не могуць прэтэндаваць на нейкую тэарэтычную паўнату ці закончанасць, але пэўную тэндэнцыю яны ўсё ж адлюстроўваюць — рух еўрапейскага тэарэтычнага мовазнаўства да стварэння філасофіі мовы. Гэтая галіна філасофскага ведання складвалася ў Еўропе амаль аднначасова з фарміраваннем філасофіі чалавека, філасофіі гісторыі, філасофіі культуры. Развіццё філасофскай думкі ў гэтым напрамку закончылася стварэннем фенаменалогіі, якая даследуе магчымасці чалавека ў накіраванасці яго выбару найбольш аптымальнага варыянта **"тут-быцця"** — на Зямлі, у сваёй дзяржаве, у сваёй хаце. Філасофія мовы раскрывае ролю мовы як своеасаблівага "суб'екта" гомінізацыі асобы і этнасу.

Адным з найменш распрацаваных пытанняў беларускай грамадскай думкі з'яўляецца пытанне аб нацыянальнай філасофіі мовы. Зрэшты, гэта і не дзіўна. Афіцыёз на працягу апошніх двухсот гадоў цікавіўся беларускім "тут-буццём" толькі тады, калі імперыі патрэбны былі рэкруты ці калі "тутэйшыя" спрабавалі бунтаваць.

Беларуская думка наогул складвалася па-за афіцыёзам.

Пытанне аб наяўнасці беларускай філасофіі мовы, як і іншых нацыянальных "філасофій", застаецца адкрытым. Усё ж, відаць, будзе больш справядлівым гаварыць не пра адсутнасць, а пра неаформленасць беларускай філасофіі мовы. Афіцыйная навука мінулых гадоў свядома была арыентавана на фрагментарнасць ці апісальнасць у даследаванні беларускай культуры, хоць ужо даўно ёсць матэрыял для культурасофскіх абагульненняў: літаратурная публіцыстыка і мастацкая культура.

Адметную рысу беларускага культурнага працэсу складае шматвяковая культурная экспансія — вынік дэградацыі кіруючага стану. Дэнацыяналізацыя вярхоў і "зацікаўленасць" у суседзяў сталі прычынай маруднага пераадолення білінгвізму на побытавым узроўні. У афіцыйнай навуцы замацавалася іншанацыянальная мова.

Інакш выглядае справа ў мастацкай творчасці. Інструментам і матэрыялам беларускай літаратуры стала беларуская мова. У канцы 19-га стагоддзя яна выцесніла з літаратурнага жыцця іншанацыянальныя мовы. Іх патэнцыял у "ачалавечванні існага" — у вербалізацыі беларускага жыцця і культуры — к гэтаму часу быў ужо вычарпаны. Беларуская нацыяналістычна настроеная інтэлігенцыя добра ведала, як ставіцца "брат з рукамі крывавымі" (Купала) да тутэйшага "суб'екта" і "ўсяго, што бывала дагэтуль": ён ставіцца беспрычынна варожа. Іншанацыянальныя мовы ў Беларусі сталі сродкам "абесчалавечвання чалавека ў якасці наяўна жывой істоты".

Беларуская культура развівалася ў 19 ст. як культура "катакомбная". Зразумела, у такім жа стане была і мова. Яна жыла не на паверхні, а ў сацыяльных нізах, "як мужыцкая", але ў гэтым быў яе і ратунак, там яна "маўчала", там узмацнялася яе імунная сістэма: "Я не для вас...". "Мова, — піша М. Хайдэгер, — засноўваецца ўнутры маўчання. Маўчанне — вось самае схаванае вымерванне меры".

Беларуская мова "вымаўчала" свае ўласныя меркі рэчаіснасці. Ужо ў 19 ст. В. Дунін-Марцінкевіч выступіў як мастак-філосаф. У "Пінскай шляхце" ён паказаў слоўнае шумавінне расійскіх імперскіх законаў. Судовая "Найяснейшая карона" Кручкоў не мае патрэбы ні ў веданні, ні ў прымяненні законаў. Такая норма, і ў імперыі гэта ўсе ведаюць. А. Баршчэўскі ў "Шляхціцы Завальні" выказаў думку, што ў Беларусі чэрці расплоджваюцца. Жыццё пацвердзіла, што Гарлахвацкія і аматары прымераць "Найяснейшую карону" тут не звяліся. Канец 19 — пачатак 20-га стагоддзяў быў "уварваннем" беларускай мовы на прасторы "Северо-западного края" Расійскай імперыі. Яно закончылася ўтварэннем беларускай культурасофіі. Яна жыве пакуль што ў мастацкіх вобразах, якія яшчэ не знайшлі паняццевага эквіваленту ў згвалтаванай афіцыёзам філасофіі.

Беларуская мастацкая філасофія стварыла яркі вобраз крызіснай эпохі — д'ябаліяды, у якой выразна бачацца рубяжы сучаснага апакаліпсісу: дзвюх сусветных войнаў, рассяляньвання ў час калектывізацыі, замбіравання ператворанай гвалтоўна ў масавае грамадства ўжо без'языкай, а значыць, і бяздумнай сялянскай масы. Сёння на прасторах беларускага **тут-быцця** ўзвышаюцца "акамянелыя волаты" (М. Танк). Аднак у яго глыбінях ляжаць "пласты народнай жыццяздольнасці" (К. Чорны). Менавіта там сёння "вымоўчваецца" новае беларускае слова: следам за паэзіяй ідзе філасофія, яна таксама дае з'явам найменне, устанаўлівае чалавечае наяўнае быццё.

Калі апераваць катэгорыямі вобразнага мыслення, то можна сказаць, што беларуская мастацкая культура далісвае канцэптуальную карціну еўрапейскай соцыякультурнай сітуацыі, у гісторыі пазнання якой можна вылучыць тры стадыі: **Праметэй-сітуацыя, Іоў-сітуацыя і Сам-сітуацыя.** Сам — яшчэ мала вядомы не толькі за межамі Беларусі персанаж з філасофскай трагедыі Купалы "Сон на кургане". Беларускія літаратуразнаўцы не без падставы разглядалі гэты твор Купалы ў адным шэрагу з творамі С. Пшыбышэўскага і Л. Андрэева. Вытокі гэтага раду — у творах Эсхіла, Сафокла, Шэкспіра, Гётэ, Ібсена.

Беларуская культура слова даўно мае патрэбу ў філасофскім яе асэнсаванні. Да апошняга часу не толькі ўжытковыя, але і фундаментальныя даследаванні кіраваліся метадалагічным прынцыпам: мова — найважнейшы сродак зносін. Ісціна, вядома, бясспрэчная. Бяда ў тым, што гэтыя "зносіны" разумеюцца як бытавыя. Стваральны патэнцыял беларускай мовы застаецца ўсё яшчэ па-за тэарэтычным даследаваннем. І таму сёння будзе карысным спыніцца на некаторых экзістэнцыялах беларускай філасофіі мовы.

Філасофская публіцыстыка на беларускай мове пасля Буднага і Цяпінскага ажыла толькі ў 19 ст. Ф. Багушэвіч уздымаўся на руінах вызваленчага руху 1863 года. У "Прадмове" да "Дудкі беларускай" пісьменнік жыццё мовы паставіў у цесную сувязь з існаваннем суб'екта. Я. Колас і М. Багдановіч русіфікацыю разумелі як разбурэнне псіхікі народа. "Такім спосабам, — пісаў Я. Колас у артыкуле "Беларуская мова ў казённай школе", — засяваецца нянавісць у душу будучага інтэлігента-беларуса к роднай мове, звычаям, парадкам". Уся сістэма адукацыі пры царызме была "скіравана на тое, каб чалавеку забіць мазгі", "адным словам, выпусціць у свет балванчыка". У савецкі час Я. Колас папярэджваў ад гвалту над мовай у творчасці: "Мова для пісьменніка — гэта асноўная канва, на якой будуе ён сваю мастацкую творчасць".

Стваральную сілу мовы М. Багдановіч разумеў як дзеянне асацыяцый, звёнаў у ланцугу думак-"згадак", якія абуджаюць у сэрцы ўсё, што "ляжала цёмнай залежжу, пластом": "Разварушце ж, мае вершы, гэты пласт: хай згадка згадку кліча, цягне, хай чытач мой зноў былое пражыве!". Сам М. Багдановіч не толькі ўзбагаціў беларускую мову новай семантыкай — ён стварыў вобразы, якія ўжо сталі архетыпамі беларускага адраджэння. Гэта вобразы студняў — "душаў са слязамі", васілька — сімвала радзімы, пагоні — сімвала грамадзянскага сумлення і шэраг іншых.

М. Багдановіч памёр у юначым узросце, але за кароткае жыццё ён паспеў зрабіць вельмі многа для Бацькаўшчыны. Актуальным і павучальным з'яўляюцца яго погляды на "білінгвізм" — прычыну ўсялякіх пачвараў — і этымалагічных, і сінтаксічных, і слоўных: "Мяркуецца, што ўзамен будзе дадзена руская гаворка. На справе можна атрымаць толькі агідны жаргон, які можа быць базісам для чаго хочаш, але не для культурнага будаўніцтва, не для росту духоўных каштоўнасцяў".

У нататцы "Голас з Беларусі" М. Багдановіч з абурэннем і болем у сэрцы пісаў пра шкоду русіфікатарства: "выганяючы беларускую мову са школы, мы вядзем да растраты вынікаў вялікай, шматвяковай работы цэлага народа, збіваем думку дзіцяці з прывычных псіхалагічных сцежак і груба ўразаем яго душэўны свет, уводзячы ж мову рускую, мы ставім на яго шляху шэраг перашкодаў, засяляем яго псіхіку вобразамі мёртвымі, няяснымі і ў многіх выпадках зусім недарэчнымі. Пры такім умовах карыстацца вялікарускай мовай замест беларускай можна толькі на шкоду дзіцяці, што асабліва можна сказаць пра перашапачтковыя ступені навучання". Двухсотгадовы вопыт русіфікацыі можа пацвердзіць правільнасць думкі М. Багдановіча: зрусіфікаваныя слаі ў Беларусі страцілі здольнасць да творчай дзейнасці ў культуры: мастацкія шэдэўры на рускай мове ў Беларусі так і не з'явіліся.

На антрапалагічным аспекце заўсёды спыняўся ў сваёй працы і В. Ластоўскі. У факце "ўварвання" жывой беларускай мовы ў літаратуру новага часу ён бачыў вялікую перамогу беларускага руху — прарыў з нябыту і выхад на натуральны шлях тварэння дасканалага, вартага чалавека жыцця. Слова, на думку В. Ластоўскага, "знаходзіцца ў цесным звязку з народным бытам, яго светаглядам, гісторыяй, звычаямі і абычаямі, а дзеля гэтага мова ёсць вялікай нацыянальнай легендай і скарбніцай, святой спадчынай, каторая пераходзіць з пакалення ў пакаленне, з дзядоў на ўнукаў. Увесь светагляд і паэзія нашых прадзедаў замыкаліся ў мове".

*(Працяг на стар. 15)*

## Ушанаванне майстра



**Лаўрэату Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа Сяргею Грахоўскаму з нагоды 70-й гадавіны першага выступлення ў друку прысвячаўся чарговы літаратурны вечар у музеі народнага песняра. Шаноўнага госця павіншавала дырэктар музея З. Камароўская, затым рэй павёў супрацоўнік І. Курбека.**

**Літаратуразнавец Л. Гарэлік запыніла ўвагу слухачоў на творчых набытках юбіляра, на адметнасці яго таленту. Прыязныя словы ў адрас старэйшага калегі выказаў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа Г. Далідовіч. Пра свайго суседа па мінскім бытаванні гаварыў І. Кудраўцаў.**

**Перагарнула старонкі паэтычных зборнікаў паэта і прачытала некалькі вершаў народная артыстка рэспублікі М. Захарэвіч.**

**Свае пераклады твораў юбіляра**

**на рускую мову запрапанаваў прысутным член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Генадзь Рымскі. Верш, прысвечаны паважанаму Сяргею Іванавічу, прачытаў У. Скарынкін. Старэйшы беларускі мастак Я. Ціхановіч падарыў даўняму сябру гравюру — партрэт Якуба Коласа.**

**Вечарыну міла аздаблялі прэм'ернымі песнямі на словы юбіляра пявунні з радзімы Якуба Коласа — вакальны квартэт “Святлана”. Адну мелодыю на раялі сыграла ўнучка Сяргея Іванавіча Маша.**

**З асаблівай увагай і цікаўнасцю слухалі прысутныя самога віноўніка ўрачыстасці.**

**С. ІВАНЧЫК**

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

## Музею ў Смольні — 30 гадоў



**Сядзібу гэтую даўно ведаюць беларусы. Яна адбіта ў творах песняра. Тут упершыню сустрэўся ён з Купалам. Гэта першае ўласнае прыстанішча сям'і Міцкевічаў. Не было ў жывых Міхала. Дзядзька Антось купіў у вёсцы Яршы хату, разабраў яе і прыгнаў па Нёмане ў Смольню. Зіму 1910 года сям'я сустракала ў сваім родным куце.**

**Шмат падзей сплыло з таго часу. Тут не стала ў 1918 годзе славутага дзядзькі Антося, у 1929 — Коласавай маці, Ганны Юр'еўны. Доўга заставаўся гаспадаром хаты малодшы брат народнага паэта Іосіф Міхайлавіч.**

**Новы этап у гісторыі Смольні пачаўся 8 чэрвеня 1967 года, калі ва ўрачыстай абстаноўцы на сядзібе адкрыўся філіял музея Якуба Коласа. Спачатку ён размяшчаўся ў адным чатырохпакаёвым каменным будынку. Пазней мемарыяльнай стала хата, у якой жыў Іосіф Міхайлавіч, былі пабудаваны хлеў і гумно.**

**Тысячы людзей пабывалі ў гэтым запаведным кутку беларускай зямлі. Тут ладзяцца паэтычныя, музычныя святы.**

**К. СЦЕПАНЮК**

Алесь БЕЛЬСКІ

# Размаітасць фарбаў

## АПАВЯДАННЕ-96: НЕКАЛЬКІ ШТРЫХОЎ ДА ПАРТРЭТА ЖАНРУ

ДЛЯ АПАВЯДАННЯ год 96-ы быў надзіва ўраджайны і плённы. Па маіх сціплых падліках ён прынёс нашай літаратуры недзе каля 200 твораў, надрукаваных у перыёдыцы і кнігах прозы. Дзесяткі апавяданняў змешчаны ў “ЛіМе”, “Полымі”, “Маладосці”, “Крыніцы”, “Беларусі”. Апавяданне, навела, абразок — вядучыя жанры ў часопісе маладых літаратараў “Першацвет”. Ахапіць усе творы, сказаць літаральна пра кожнага з аўтараў не ўяўляецца магчымым і не ўваходзіць у маю задачу. Проста як чытач, крыху дасведчаны ў літаратуры, хацеў бы падзяліцца сваімі ўражаннямі, меркаваннямі ад знаёмства з творамі ў тых выданнях, якія набываў, а таксама браў у рукі ў чытальных залах нашых бібліятэк.

Відавочна, што сёння — і тут, мусіць, няма перабольшання — усе літаратары намагаюцца ісці шляхам мастацкасці, прафесіяналізму, не баяцца эксперыментальных твораў, жанраў дэтэктыву ці фантастыкі і г. д. Моладзі, напэўна, зараз грэх сердаваць на няўвагу ці прыцясненне з боку старэйшых. Прыклад — маладыя аўтары літаратурнага руху “Бум-Бам-Літ”, якія сваім мадэрновым грукаценнем і эпатажам ужо паспелі павесяліць нас са старонак многіх выданняў (“Культура”, “ЛіМ”, “Першацвет”, “Наша ніва”, “Беларуская маладзёжная” і інш.). Зрэшты, празаічныя тэксты “бумбамлітаўцаў” нехта ўспрымае глыбакадумна, аналітычна, і калі ласка, бо і ў плане самавыяўлення, і ў плане слоўных формаў тут ёсць на што звярнуць увагу. Зусім непрымальным мне бачыцца літаратурны сталінізм, калі ваяўніча нешта не прымаецца або рашуча навязваецца альтэрнатыўнае (кірунак, сістэма, стыль і г. д.) ці, наадварот, зацята, злосна і бяздумна абараняецца кансерватыўнае, тое, што зжывае сябе, як, скажам, звыкла-падзейная апісальнасць, старыя банальныя схемы і стэрэатыпы.

Апавяданне, як і верш, лічыцца жанрам надзвычай аператыўным і мабільным. Увогуле мы прывыклі, што літаратура — гэта перадусім люстэрка рэчаіснасці, яна павінна паспяваць за часам, падымаць вострыя сацыяльныя пытанні, несці высокія ідэалы... Але папытаем у сябе, ці заўсёды, сядаючы за пісьмовы стол, пісьменнік перш за ўсё думае пра тое, каб яго твор вырашаў нейкія праблемы, нёс гуманістычны пафас і. да т. п.? Творца вычувае сваю душу, ідзе ад чалавека, яго адчуванняў, тыпізуе, стварае слоўнавобразны тэкст, з якога вынікае многае іншае. Рускі пісьменнік Саша Сакалоў на пытанне “...які-небудзь маральны пафас літаратура нясе для цябе?” адказаў так: “Магчыма. Хаця падобныя катэгорыі на розум мне ніколі не прыходзяць... Бродскі і я незалежна адзін ад другога, але амаль у адных і тых жа выразах выказалі думку, што літаратура не аб жыцці... <...> Літаратура — аб некаторых працэсах у душы мастака, яна — прадукт яго свядомасці і гэтым усведамленнем абмяжоўваецца...” У нашым жа літаратуразнаўстве і крытыцы трывала ўсталяваўся наступны погляд: “Адной з актуальных задач беларускай прозы па-ранейшаму з'яўляецца паглыбленне духоўнага зместу мастацкіх вобразаў і літаратуры ў цэлым, паглыбленне маральных, філасофскіх пошукаў пісьменніка і герояў яго твораў...” (“Полымя”, 1996, N 6, с. 274). Такое патрабаванне можна выказваць літаратуры заўсёды, але яно, на мой погляд, не закранае сутнаснае, тое, з чаго пачынаецца творчае самавыяўленне. Пры ўсёй спрэчнасці першага выказвання ў ім нельга не адчуць рацыянальнага зерня, разумення прыроды мастацтва слова. Бо душа і інтэлект пісьменніка не павінны залежаць ад нейкіх установак, каб імкнуцца па цудадзейнай указцы да маральнасці і духоўнасці, яны проста павінны выяўляць чалавечае пачуццё, думку, перажыванне, псіхалагічна праўдзіва гаварыць, па-мастацку даносіць да нас штосьці важнае, уражальнае. Усё ж літаратура не столькі адбітак часу, сацыяльных праблем і г. д., колькі экзістэнцыя духу, і ў гэтым сэнсе беларускую мастацкую прозу яшчэ чакае больш глыбокі прарыў. Сацыяльная ж аснова літаратуры таксама важная, але чалавеказнаўчая, даследчыцкая, моўна-выяўленчая — больш першасная. Там, дзе ёсць жывы чалавек, жывая думка, паўнакроўная ці паўнаважкая мова і стыль, там ёсць і літаратура.

Вядома, я зусім не збіраюся сцвярджаць, што літаратура не вучыць, не дае пэўныя маральныя ўрокі. Але ж прапаведніцтва ў творы — і тут я не адкрываю Амерыкі — гэта не толькі зададзены пафас, аўтарскае павучанне, а і ўменне надаць думцы “падводнае цячэнне”, запрасіць да роздуму, суперажывання. Чытаючы апавяданне А. Кірвеля “Збавенне”, яшчэ раз пераканаўся ў слушнасці слоў Ф. Іскандэра пра тое, што літаратура маральна-гуманістычнага зместу з'яўляецца своеасаблівым мастацкім каментарыем Бібліі. На некалькіх старонках празаік здолеў намаляваць карціну душэўных пачуццяў чалавека, яго лёс, без навязлівага дыдактызму, прамалінейнасці выявіць думкі маральна-духоўнага парадку. Імя А. Кірвеля яшчэ нягучнае ў беларускай літаратуры, але яго творчасць — цікавая і арыгінальная з'ява, што красамоўна пацвярджае і апавяданне “Збавенне”, і зборнік прозы “Човен Харона”, які колькі год таму выйшаў з друку ў “Бібліятэцы “Маладосці”.

Зараз я нават не прыгадаю, якія кнігі маладых празаікаў выдалі летась нашы дзяржаўныя выдавецтвы. І секцыі крытыкі, і секцыі прозы, мусібыць, варта было б адвесці асобнае пасяджэнне, прысвечанае выдадзеным у літаратурным дадатку “Маладосці”, празаічным кніжкам хаця б за апошнія два-тры гады. А тут і “Першацвет” у паасобных нумарах даў магчымасць маладым заявіць пра сябе першым зборнікам мастацкіх твораў.

Як яшчэ адна ілюстрацыя хрысціянскай ісціны, прапаведніцтва Боскага ўспрымаецца апавяданне П. Савоські “Матрос з яхты “Штандар”. Нават у эпіграф празаік выносіць словы з Евангелля: “Истинно, истинно говорю вам: верующий в Меня имеет жизнь вечную”. Нічога благога не магу сказаць пра намеры празаіка раскрыць сілу малітвы і Божай падтрымкі. Але ў апавяданні П. Савоські няма аналізу пачуццяў героя, жывых чалавечых жэстаў, драматызму адкрыцця ці спазнння ісціны. Твор цалкам апісальны, нецікавы, тут, як бы сказаў К. Чорны, няма “ўнутранай біяграфіі героя”. Аднак магчымасці больш удумлівага псіхалагічнага пісьма празаік дэманструе ў апавяданні “Падсвечнік”, якое па-добраму абнадзейвае. У творы раскрываецца драма самотнага чалавека, адарванага ад роднага вясковага свету.

“Чалавек — гэта вір...” (М. Зарэцкі). Вір самага таемнага, загадкавага, з чым звязаны розныя па сваёй накіраванасці і афарбоўцы пачуцці, безумоўна, імкнулася раскрыць наша беларуская проза. Ці ўсё тут яна разгледзела і выявіла як належыць, да канца глыбока? Думаецца, не ўсё, бо чалавек — істота надзвычай складаная, супярэчлівая і ў канкрэтных абставінах раскрываецца па-рознаму. Ды і як мага паўней сказаць пра чалавека, яго ўнутраны свет

---

*Артыкул падрыхтаваны на аснове выступлення на сумесным пасяджэнні секцый прозы і крытыкі СП Беларусі*

# “Лісткі прабіваюцца з болем на волю”

## ІМПРЭСІЙНЫЯ РАЗВАГІ ПАВОДЛЕ ПАЭЗІІ АЛЕГА САЛТУКА

**I**

***Жаўрука адштурхнула праталка —***
***Песню выдыхні ўсю спярша!***
***І зямля небу блізкаю стала,***
***І бліжэй да зямлі —***
***Душа!***

З прыходам вясны штосьці дзіўнае адбываецца з душой: то яна замірае ў чаканні чагосьці прыемна неспадзяванага, то імкне ў неба следам за шчырай жаўруковай песняй, якая звініць непераможным гімнам красуні-вясне. Прырода абуджаецца ад зімняга сну, зямля поўніцца новымі мацярынскімі сіламі.

***На руках у дакторкі-вясны***
***Уздыхае зямля-парадзіха.***

Набухаюць, прыгрэтыя ласкавым сонцам, пупышкі, каб потым у адзін з майскіх ранкаў падарыць свету вечнае дзіва — зялёныя лісцікі, у якіх тоіцца тое, што з'яўляецца першаасновай зямнога жыцця.

***Мацярынства салодкую боль***
***На бярозе адчула пупышка.***

Як чалавек нараджаецца з болем, так і кожны лісцік пры з'яўленні на свет адчувае гэты непазбежны пакутны боль, што сведчыць аб непарыўнай сувязі чалавека і акаляючага асяроддзя.

***З кожнай пупышкі,***
***Як з маці дзіця,***
***Лісткі прабіваюцца з болем***
***На волю.***

Вядома, як паводзяць сябе людзі ў хаце ці ў радзільным доме, калі чакаюць нараджэння новага чалавека: гавораць шэптам, ледзь чутна ступаюць па падлозе, каб гаворкай ці стукатнёй не турбаваць жанчынупарадзіху. Зямля таксама абцяжарана родамі. І прырода паводзіць сябе так, як і людзі:

***Уздыхае зямля.***
***Перуны***
***Не грымяць, каб яе не палохаць.***

І вось пракоціцца першы гром угары, здрыганецца зямля — і

***Раніцой на маладой зары***
***Страпянуцца ў зернях немаўляты.***

І як шчаслівая маці корміць грудным малаком сваю дарагую крывіначку, так і зямелька поіць жыццядайнымі сокамі маладзенькую рунь:

***Уздыхне расчулена зямля,***
***Сокамі напоіць узыходы.***

У кволенькіх парастках, якія выганяць сцяблінкі, узнімуць насустрач сонцу каласы і падораць чалавеку зярняты, закладваюцца асновы неўміручасці чалавечага роду.

***Неўміручасць роду і народа***
***У маленькай прыгаршчы зярнят.***

**II**

Адшчыраваўшы на весновай сяўбе, чалавек спадзяецца на багаты плён сваёй працы. За паўсядзённымі клопатамі не заўважаецца хуткі бег часу. І раптам прыкмячаеш, што ўжо “у ветлых далях дагарае лета”... Наступае жніўная пара — часіна непаўторная ў сваёй светласці і святасці.

***Жніво і жнівень. Жыта і жыццё.***
***Мудрэюць людзі, і зямля мудрэе.***

ПРОЗА

Вітаўт ЧАРОПКА

# LA BAGATELLE* СА СМЕРЦЮ



АДНОЙЧЫ, у сябрыне пісьменнікаў за хмельным трункам, загаварылі пра смерць. Так ці інакш, але кожны літаратар што-небудзь пісаў ці проста казаў аб пераходзе чалавека на той свет. Гэтым разам высакамудрыя творцы, паказаўшы адзін аднаму наяўнасць у сабе філасофскага дару, дагаварыліся, што цяжка ў жыцці — лёгка ў труне. Арыгінальная думка!

Калі кажуць пра смерць, дык не забываюцца і пра бессмяротнасць. Гуляка і бабнік, аматар выпіць і закусіць Вітберг заўважыў, што паколькі эліксір неўміручасці так і не вынайшлі, дык адзін шанц стаць бессмяротным — гэта палюбіць смерць, а яшчэ лепш, калі смерць палюбіць цябе. Сам ён не адмовіўся б выкарыстаць гэты шанц.

Калі позним вечарам літаратары разыходзіліся з бара пансіяната (а справа адбывалася ў Жэневе на Міжнародным літаратурным сімпозіуме) па сваіх пакоях, да Вітберга падышоў невядомы мужчына. Ягоны ўзрост было цяжка вызначыць: стройная пастава магла сведчыць на яшчэ маладыя гады, але сівізна ў валасах і глыбокія складкі на лбе ўказвалі на сталы ўзрост — ужо не малады, але не стары.

— Вы сапраўды хацелі б стаць бессмяротным? — спытаўся ён.

Пытанне здалося Вітбергу недарэчным, таму на мужчыну ён паглядзеў, як на дзівака.

— Я не раіў бы вам.

— Чаму? Я не адмовіўся б ад бессмяроцця, але, на жаль, яго няма, — расчаравана развёў рукамі Вітберг і пайшоў да дзвярэй. Далей размаўляць з гэтым дзіваком было б глупствам, толькі дарэмна губляць час.

— Калі патрэбна мая дапамога, дык знойдзеце мяне на гарадскіх могілках, — крыкнуў мужчына ўслед яму.

Аднак Вітберг, гуляючы па вечаровых вуліцах горада, забыўся пра сустрэчу з гэтым дзіваком. На нейкай вуліцы паміж старымі дамамі адбывалася нешта падобнае на карнавал. Выстаўленыя ў вокны дзве музычныя калонкі грукацелі рытмічнымі дэцыбеламі і пад іх гук скакала і выгіналася людская маса, апранутая ва ўсялякае рыззё, нават у шынялі былой савецкай арміі. Узоры папуаскіх ці індзейскіх матываў леглі белымі і чырвонымі фарбамі на тварах. Той-сёй начапіў на твары маскі. Два хлопцы глыталі з вялікіх бутэлек спірт і пырскалі гаручай вадкасцю на паходні, і з іх вуснаў вылятылі вогненныя фантаны. Вітберг стаў каля сцяны дома, уздоўж якой сядзелі проста на бруку дзяўчаты і хлопцы з цыгарэтамі ў зубах і бутэлькамі піва ў руках. Моладзь весялілася. Вітберг быў ужо ў такім узросце, калі скакаць пад музон яго не цягнула, але рана яшчэ яму было на пакой. Ён застаўся на карнавале. Спаць не хацелася, ды і вопыт латаратара навучыў яго, што самае цікавае і незвычайнае адбываецца па начах. І вось, здавалася, ягонае чаканне апраўдалася. Да Вітберга падышла жанчына, зняла з твару маску і па-сяброўску, без акалічнасцей папрасіла закурыць. Вітберг дастаў пачак і пачаставаў дзяўчыну цыгарэтай. Пазнаёміліся. Яе звалі Марынай. Так пачалася гэтая la bagatelle.

Яны блукалі па вузкіх вуліцах старога месца і напаўнялі ягоную сонную ціш гучнымі галасамі. Вітберг жартаваў, распавядаў показкі і думаў, як бы завалачы Марыну да сябе ў ложак.

Выйшлі да вялікага сабора Святога Пятра, стромкія гатычныя вежы якога ўзнесліся па чорную сінечу начнога неба. Марына адчыніла вялікія металічныя дзверы, і яны ўвайшлі пад высокае скляпенне храма. Яна павяла яго праз прасторную залу, асвечаную цьмянымі ліхтарамі, і ён паслухмяна крочыў за ёй. І што б ні адбылося, хай адбудзецца — гэта будзе незвычайным і ніколі не паўторыцца.

Па вузкай вінтавой лесвіцы яны падняліся на галерэю вежы. З птушынай вышыні глядзеў Вітберг на агні горада, яскравае святло шыльдаў і вітрын, бляск хваляў Жэнеўскага возера. Відовішча чароўнае, калі разумееш, што ёсць свет і ёсць ты, і свет гэты для цябе і ты для яго. Не трэба ў гэтую хвіліну ніякай мудрагелістасці, бо ты адчуваеш сваю веліч чалавека.

— Я сёння шчаслівы! — урачыста ўсклікнуў Вітберг.

— Ніхто не можа назваць сябе шчаслівым раней смерці, — адказала павучальна Марына.

— Ну і што такое смерць? Пакуль мы ёсць, няма смерці, а калі ёсць смерць, дык нас няма!

Вітберг ускочыў на каменныя парэнчы балюстрады і, патэтычна узмахнуўшы рукой, агучыў тое, што прынесла яму на язык натхненне:

— Жыццё ідзе і можна казаць, што ўсё было дарэмна і было не так і было не гэтак. А калі пройдзе, калі растане ў імгле, можна казаць, што і гэта было дарэмна, і было не гэта, і было не тое. А калі смерць настане, дык будзеш ужо маўчаць, што ўсё было і гэтак, і так, і не так!.. Эй, а смерць побач.

Марына падышла да балюстрады:

— Дурань, ты можаш зваліцца і не паспееш зразумець, што было так, а што не так.

— Дурням і закаханым спрыяе Бог. А я закаханы ў цябе!

Вітберг саскочыў з балюстрады на галерэю і стаў насупраць Марыны. Перад ім была жанчына, прыгожая і прываблівая, і яна магла стаць ягонай.

— Ты не ведаеш, хто я такая.

— Мне ўсё роўна. Ты для мяне самая-самая!

Пасля ў сваім пакоі ў пансіянаце Вітберг частаваў Марыну амбрнезіяй, як ён называў гарэлку. На яго здзіўленне, Марына ніколі не спытала гэтага напою. Таму, прапаноўваючы ёй vovles-vous goutev de la vodka**, Вітберг растлумачыў, што пасля двухсот, а лепш трохсот грам гэтага боскага напою адчуваеш сябе нібыта на якім-небудзь Авалоне — шчаслівым і радасным. Ён і паказаў, як п'юць амброзію — не па глыточку, а залпам. Марына выпіла за ім і вохнула.

— І гэта напой неўміручасці! Дзіўныя людзі, прагнуць бессмяроцця, усе жадаюць падмануць смерць. То нейкі Жунчэнь прыдумвае магчымасць дасягнуць бессмяротнасці праз фалас. Усё гэта лухта пра мужчынскую сілу янь і жаночы пачатак інь. То шукаюць эліксір вечнасці, то гатовы загартоўваць сябе ў полымі. Неўміручасць! Ха-ха-ха! Ім жахліва ўявіць свет без сябе. А смерць — гэта вялікі дар...

Марына не дагаварыла. Гучны грукат у сцяну, якой служыла пафарбаваная ў белы колер фанерная перагародка, спыніў яе маналог.

— Колькі можна? Спыніце гэты базар! Я спаць хачу, — крычаў незадаволены з-за перагародкі рускі пісьменнік Валодзя Блізнякоў, які лічыў сябе чарговым геніем "единой и неделимой".

Вітберг моўчкі вылаяўся. Вось жа пашчасціла з суседам! Варта было ўбачыць яго згорбленую няўклюдную паставу, якуцкі скуласты твар, на якім чырванелі болькі, падслепаватыя, лупатыя вочкі, якія мітусіліся за лінзамі акуляраў, каб зразумець, што за чалавек перад вамі. Сапраўдны вахлак: не мыўся, насіў смярдзючыя шкарпэткі і прапах кіслым потам, але затое колькі гонару і фанабэрыі — ён рускі пісьменнік.

— Хто гэта такі? — спытала Марына.

— Яскравая асоба.

— Я ведала яшчэ адну яскравую асобу — Люцыпара, — засмяялася Марына.

— Прашу не абражаць мяне! — пагрозліва зарыкаў з-за сценкі Валодзя. — Я разбяруся зараз...

За сцяной пачуліся крокі. Геній рускай літаратуры выбег на калідор і праз імгненне забарабаніў кулакамі ў дзверы пакоя:

— Я выламаю дзверы! Я навучу паважаць мяне!

Вітберг адчыніў дзверы. Раззлаваны сусед узвышаўся над ім выродлівай галавой і нервова ўсхліпваў, настроены біцца за сваё права спакойна жыць. Ён зірнуў у люстэрка, што вісела каля ўвахода.

— Ясна, маральная распуста. Гарэлка, баба, — спуджана ўсклікнуў апошняе "баба" Валодзя і адступіў назад.

Вітберг зачыніў за сабой дзверы.

— Гэта жах! Яна падобная на смерць, — шэптам выдыхнуў Валодзя.

— Што ты нясеш? Прыгажэйшай жанчыны я не сустракаў.

— Я аўтарытэтна заяўляю, што яна страшная, як смерць. Паглядзі на яе. Няўжо ты такі п'яны?

— Ты для мяне не аўтарытэт, — раззлавана кінуў яму Вітберг.

Але калі Вітберг вярнуўся ў пакой і зірнуў мімаходзь у люстэрка, дык пахаладзеў ад неверагоднага відовішча. З люстэрка на яго паглядала жахлівая старая пачвара; зморшчаны і кашчавы твар, пакрыты сінечай, выклікаў агіду. Нешта змрочнае і зласлівае было ў яе халодным позірку. Сапраўды, смерць. Вітберг спуджана зірнуў на Марыну і ўбачыў на ложку ружовашчокую маладую прыгажуню, яна ветла ўсміхалася яму. Спакуслівa рассунутыя каленкі маглі прымусіць любога мужчыну забыцца на ўсялякія сумненні. Ці мала што памроіцца пасля гарачай амброзіі, а прыгажуня — вось яна, рэальная і амаль ужо даступная. І Вітберг гатовы быў згадзіцца, што адбітак у люстэрку — здань, каб у пакоі не запахла азонам, змяшаным з нейкім невядомым вострым і непрыемным пахам. Нешта было тут не тое. А Марына чароўна ўсміхалася яму і чорныя яе вочы чакальна паглядалі на яго.

— Слаўна пагулялі, пара і адкланяцца. Не будзем перашкаджаць чалавеку, які хоча спаць, — прамовіла насмешліва Марына, паднялася з ложка, на якім сядзела, і падышла да дзвярэй. — Ты праводзіш мяне?

Вітберг зірнуў у люстэрка, зноў убачыў замест прыгажуні кашчавы твар старой пачвары.

— Не пужайся, я твая смерць і прыйшла па цябе.

Каб Вітберг быў простым чалавекам, ён не паверыў бы з'яўленню смерці ў іпастасі прыгажуні і палічыў бы падобную заяву за няўдалы розыгрыш, але ён быў сачыніцель сюжэтаў і ведаў, што лепшы сюжэт заўсёды прыдумае жыццё. Дык чаго баяцца? Калі яшчэ яму гэта пашчасціць паразмаўляць са смерцю!

— Ха-ха-ха, — рассмяяўся Вітберг. Вось мой шанц стаць неўміручым! — Ну пайшлі, дарагая. Ты мне падабаешся.

І яны пайшлі. Хаця Вітберг і храбрыўся, аднак усё ж уключыў мазгі і вырашыў проста ўцячы ад Марыны. Яна вяла яго па вузкіх цёмных вуліцах, па якіх і днём было б боязна хадзіць. Вось зараз Вітберг сапраўды ўстрывожыўся.

— Смерць, калі ты мая смерць, дык, можа, ты падаруеш мне неўміручасць? Ведаеш, як добра было б? Ох, як мы пагулялі б...

— Навошта табе неўміручасць? У кожнага ёсць свой кон, які прадвызначыў дзень, калі да яго павінна прыйсці смерць. А кон не зменіш. Ты павінен сёння памерці і ты памрэш сёння.

Вітбергу стала не па сабе. Ён спыніўся і асуджана чакаў, як, яму здавалася, апошняга свайго імгнення. Па вуліцы крочыла да іх нейкая чорная постаць. Можа, яна неяк дапаможа яму? Смерць зняважліва ўсміхалася, у цемры блішчэлі яе вочы.

— Не бойся.

— Я не баюся, — непаслухмяным языком прамовіў Вітберг. — Шкада толькі, што не ўбачу, як будуць плакаць па мне блізкія і знаёмыя. Пэўна, смешнае відовішча. Такім дарагім і родным я стану для іх, столькі пра мяне выдатнага насачыняюць. Дык чаму не памерці дзеля гэтага? За гэта я гатовы нават пацалаваць цябе, мая мілая. — Вітберг абняў Марыну за талію і прытуліў да сябе. І тут металічная тонкая захлыска (падобна, што гітарная струна) абвіла ягоную шыю. Ззаду нехта натужна засоп.

— Забі яго! — ускрыкнула Марына.

Вітберг адчайна супраціўляўся. Прага да жыцця вымагала яго да напружання ўсіх сіл. Але жалезная захлыска ў моцных руках невядомага перахапіла дых. Перад вачыма мітусілася постаць смерці.

— Забі яго! Забі!

Падкасіліся калені і, губляючы свядомасць, Вітберг паваліўся на зямлю. На нейкае імгненне струна на шыі аслабла, глыток свежага паветра вярнуў сілы. Дзве схіленыя над сабой постаці ўбачыў Вітберг, і высока ў небе поўня і зоркі свяцілі яму. У Вітберга было імгненне, каб выратавацца. Ён нагой ударыў па чорнай постаці і ўскочыў на ногі. Што моцы кінуўся бегчы па вуліцы. А ўслед яму ляцеў насмешлівы крык Марыны:

— Усё роўна нікуды не ўцячэш ад смерці!

Нават у пансіянаце, дапіўшы да дна бутэльку амброзіі, Вітберг не змог супакоіцца. Як бы там ні было: ці сапраўды ў абліччы прыгажуні да яго прыйшла сама смерць, ці яго нехта па-д'ябальску бязлітасна і жахліва разыграў, ці Марына была проста звычайнай наводчыцай у свайго сябра-крымінальніка, Вітберг разумеў, што канец гэтай гісторыі адбудзецца сёння днём. Хаця... Вітберг прыгадаў таго дзіўнага чалавека, які прапаноўваў яму дапамогу. Не, ён не дзівак і невыпадкова адбылася сустрэча з ім. Штосьці тут было таямнічае. Містычнае. Хтосьці хацеў перапісаць старонку ягонага жыцця, каб выкрасліць з яе дзень смерці.

Апоўдні Вітберг прачнуўся ад цяжкага сну. Чырвоны шнар на шыі ад металічнай захлыскі напамінаў яму пра начны выпадак. Калі за ноч не акачурыўся, дык, дасць Бог, і днём пратрымаецца, і тады ракавое сёння кане ў Лету. Вітберг прыняў душ, папіў кавы і адчуў сябе лепш. Цяпер не такім ужо безнадзейным уяўлялася яму ягонае становішча. Неверагодным здавалася, што ён малады, поўны сіл, з прагай жыцця ў сэрцы павінен сёння памерці. Гэта так ненатуральна.

Яскравае сонца сустрэла Вітберга на вуліцы. Горад жыў рэальнасцю — рухаліся аўто, снаваліся людзі, гудзелі маторы, гучалі людскія галасы, сонечныя промні ззялі на вітрынах і шыбах вокнаў. І гэтая звычайная рэальнасць адмаўляла ўсялякую прысутнасць смерці ў свеце, дзе пануе жыццё, а тым больш яе міфічнае ўвасабленне ў жаночым вобразе.

На могілках Вітберг прайшоўся па цэнтральнай алеі ўздоўж мармуровых помнікаў. Таго, каго ён шукаў, не ўбачыў. Можа, дарэмна прыйшоў сюды?

Каля аднаго помніка Вітберг спыніўся. На шэрым камені з груба абчасаным верхам прачытаў "Jarce Lvis Borges". Чырвоны верас рос вакол магілы, пасярод якой зелянела трава. Сціпла і проста. А тут жа ляжаў вялікі містыфікатар стагоддзя. Цікава, што прымусіла Борхеса прыехаць у Жэневу паміраць? Пэўна, гэты горад уяўляўся яму незвычайным, калі ён даверыў яму сваю славу і бессмяротнасць. І тое, што Вітберг сам трапіў сюды, уяўлялася яму невыпадковым.

— І гэта так.

Вітберг уздрыгануўся ад гэтага знаёмага голасу. За спіной стаяў той, каго ён шукаў, — дзіўны чалавек, на чыю дапамогу і спадзяваўся.

— Усё ў свеце, кожная з'ява мае свой патаемны сэнс, сваё прызначэнне. Як казаў адзін філосаф: "Усё, што адбываецца, ад самага вялікага і да самага нікчэмнага, адбываецца па неабходнасці", — прамовіў мужчына.

Вітберг і не ведаў, як прызнацца, што ён сустрэўся са смерцю і вось цяпер шукае паратунку ад яе. Ці не смешна прагучыць ягоны аповед? Яны моўчкі пайшлі ўздоўж могілак.

— Як дзіўна! — усклікнуў Вітберг.

На магільнай пліце, каля якой яны праходзілі, было выбіта імя <u>Мікалай</u>. Ні гадоў жыцця, ні эпітафіі — толькі імя.

— Чыя ж гэта магіла? Памёр чалавек і пакінуў пасля сябе імя. А хто ён?

— Гэта мая магіла, — спакойна адказаў мужчына.

*(Працяг на стар. 12)*

**Любоўная інтрыжка.*
***Ці не жадаеце паспрабаваць гарэлкі.*

## Лялька — гэта не проста цацка

**Лялька — гэта твар краіны. Культурныя традыцыі, звычкі, пэўныя эталоны, увасобленыя ў паменшаную копію чалавека-жыхара. Кожная краіна мае сваю тэхніку вырабу, свае прыёмы, пранесеныя праз стагоддзі.**

**Японія — адна з нямногіх краін, якая дагэтуль захавала унікальныя традыцыі вырабу лялек. Матэрыялы — дрэва, папера, тканіна, гліна. Усё дапамагае лялькам стаць не толькі цацкаю, але і відам мастацтва.**

**Пра ўсё гэта была магчымасць даведацца гамяльчанам і мінчанам падчас выставак японскіх лялек. Іх ладзілі пасольства Японіі і Японскі фонд. Імпрэзы дапамаглі нам зазірнуць не толькі ў мастацкі свет, але і ў душу народа, дзе фантастычна спалучаюцца мінулае і сучаснасць, гісторыя і будучыня.**

**Стагоддзямі склалася, што лялькі — неад'емны атрыбут двух радасных святаў - хінамацуры (свята дзяўчынак) і кадома-но хі (свята хлопчыкаў). Ва ўсіх дамах, дзе ёсць дзяўчынкі, 3 сакавіка, на хінамацуры, на спецыяльных шматпрыступкавых падстаўках (хінаданах) выстаўляюць лялькі — імператар з імператрыцаю, музыкі, слугі, воі, сучасныя персанажы. Самыя выкшталцоныя, дарагія, вядома ж — імператар з імператрыцаю ў багатых уборах. Тут жа — мініяцюрныя сервізы, пачастункі, прадметы побыту. Падрыхтоўка ўсяго вымагае не толькі майстэрства, але й ведання адпаведнай эпохі, звычаяў, падрабязнасцяў жыцця.**

**Цікава, што лялькі перадаюцца ў спадчыну цягам многіх пакаленняў, уваходзяць у пасаг нявесты. Такія наборы — адна з самых дарагіх сямейных рэліквій. З ёй сям'я развітваецца толькі ў самыя крытычныя часіны жыцця.**

**А на 5 мая, калі адзначаюць не толькі свята хлопчыкаў, але і Дзень дзяцей, ладзяць шматлікія лялькавыя кірмашы, выстаўкі. Калі дома, дзе ёсць хлопчыкі, на высокіх шастах вывешваюцца папяровыя або пашытыя з тканіны вымпелы-карпы. А ў дамах галоўная лялька — хлопчык, які рыхтуецца да свайго першага бою. Сваім мячом альбо дзідаю ён гатовы перамагчы усіх ворагаў, прынесці шчасце і радасць іншым.**

**Шкада, праўда, што выстаўкі ў Беларусі былі нядоўгі час — цудоўныя лялькі чакалі ў Кіеве. Але, пэўна ж, будуць новыя сустрэчы з самабытнымі лялькамі Японіі, з самабытнаю культураю гэтага народа.**

Крысціна КУРЧАНКОВА

## Напрыканцы сезона



**Чэхаўскай "Чайкай" заканчваюць тэатральны сезон акцёры Гомельскага абласнога драматычнага тэатра. А пастаўку яе на тутэйшай сцэне Рыд Таліпаў — рэжысёр, які мае вялікі вопыт работы за мяжой, у прыватнасці, у Аўстрыі. На гомельскіх акцёраў ён звярнуў увагу ў час леташняга тэатральнага фестывалю ў Мінску.**

*На здымку: акцёры Сяргей Пазняк, Наталля Дзяберына і Мікалай Пало, занятыя ў спектаклі.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

МУЗЫКА

# Толькі той не памыляецца, хто...

***"Кампазітары Беларусі" — новы даведнік, прэзентацыя якога адбылася ў Саюзе беларускіх кампазітараў. Але яшчэ да гэтай урачыстай падзеі пачалося характэрнае для музыканцкіх колаў кулуарнае абгаварэнне доўгачаканай кнігі. Абмеркаванне ў кулуарах (што, зноў жа, характэрна) часцяком складаецца з прэтэнзій да аўтараў, рэгістрацыі іхніх памылак і да т. п. На прэзентацыях жа звычайна пануюць кампліменты. Каб унікнуць таго й другога, мы сустрэліся з аўтарамі даведніка, музыказнаўцамі Таццянай Мдзівані ды Раісай Сергіенкай і пагаварылі пра іхнюю працу, якая, безумоўна, сталася адметнаю з'явай у сённяшняй беларускай культуры.***

**— Пяць тысяч кніжак пад назваю "Кампазітары Беларусі" выйшла ў свет... Камусьці падалося, што гэтага нават замнога: маўляў, згадваецца творчасць дзевяноста кампазітараў, з якіх не ўсе дажылі да нашага часу, дык ці шмат знойдзецца жадаючых мець новы даведнік? А вось мне здаецца, што выдадзенага тыражу на ўсіх жадаючых можа і не хапіць. У хатняй бібліятэцы кожнай культурнай беларускай сям'і можа знайсціся месца для новага даведніка — побач з энцыклапедыямі ды слоўнікамі. Не кажучы пра тое, што на сённяшні дзень у яго няма канкурэнтаў сярод настольных кніг для нашых музыказнаўцаў, выкладчыкаў беларускай музыкі, студэнтаў спецыялізаваных навучальных устаноў... Зацікавіліся даведнікам і літаратары, чый плён супрацоўніцтва ў сферы вакальнай музыкі адзначаецца на яго старонках. І крытыкі, аўтары творчых партрэтаў, рэцэнзій, спісы якіх таксама тут ёсць...**

**Словам, дзякуй вам, Таццяна Герасімаўна ды Раіса Іванаўна: кніга многім патрэбная. І хто б ні ўзяў яе ў рукі, адразу ж зважае на прывабнае афармленне, годны паліграфічны ўзровень выдання і... на нязвыклую для нашых традыцыйных даведнікаў структуру. У прадмове вы пазначаеце сваю працу як працяг зробленага ў свой час музыказнаўцам Дзмітрыем Жураўлёвым. У яго апошнім даведніку (1978 г.) прадстаўлены асобы і кампазітараў, і музыказнаўцаў; з тых белетрызаваных артыкулаў досыць падрабязна вынікае, з якога асяроддзя паходзіць творца, як складваўся ягоны шлях у музычным мастацтве... А тое, што вы сціпла пазначылі як "працяг", выглядае зусім інакш: персаналіі падаюцца не ў алфавітным парадку; няма поўных датаў нараджэння — толькі год; ёсць спроба індывідуальных творчых характарыстык і адсутнічае поўны "паслужны спіс"...**

**Таццяна МДЗІВАНІ.** На задуму кнігі паўплываў дэфіцыт уяўлення пра беларускае музычнае мастацтва. У нас не ведаюць беларускую музыку, не ведаюць сваіх кампазітараў, — а гэта трэба ведаць, слухаць і шанаваць. Таму мы зрабілі акцэнт на **творчых** партрэтах. Што датычыць біяграфічных звестак — зразумела, яны з'яўляюцца вызначальнымі ў творчым станаўленні кампазітара, аднак гэта прадмет асобнай размовы. Нас жа цікавіла сама творчасць, і думалася, што гэта ж будзе цікава і аматарам музыкі, і прафесіяналам. Бо дагэтуль няма 2-га тома беларускай музычнай літаратуры, а той падручнік, які ёсць, ужо надта састарэў, у ім нічога няма пра сённяшнюю беларускую музыку. Мы пастараліся запоўніць гэты прагал, змясціўшы ў даведніку максімум звестак пра кампазітараў, даўшы поўны спіс іх твораў, а таксама літаратурных прац, артыкулаў у перыёдыцы, калі такія ёсць. Даём і спіс літаратуры пра кампазітараў, у тым ліку публікацый у газетах і часопісах. Натуральна, мы не мелі на мэце ахапіць усё, імкнуліся выбраць найбольш паказальнае. У раздзеле публікацый, напрыклад, спасылаемся на цэнтральныя выданні былога СССР, замежныя, вядучыя беларускія і галіновыя — "ЛіМ", "Мастацтва".

А нязвыклы парадак размяшчэння артыкулаў у даведніку абумоўлены імкненнем паказаць, як стваралася сучасная беларуская кампазітарская школа, што адбывалася ў нашай музычнай творчасці пачынаючы з 1979 года. Таму самы першы артыкул прысвечаны яе сённяшняму патрыярху — Анатолю Васільевічу Багатырову. А далейшыя размешчаны паводле храналогіі ўступлення кампазітараў у творчы саюз.

**Раіса СЕРГІЕНКА.** Я хачу падкрэсліць, што ва ўмовах адсутнасці адпаведнага падручніка мы імкнуліся зрабіць кнігу, па якой можна было б вывучаць сучасную беларускую музыку. Яе проста не ведаюць — нават, дайце веры, у асяроддзі Акадэміі музыкі!

**— Імкнучыся зрабіць тое, што ніхто да вас не рабіў, вы ўсё ж, відаць, арыентаваліся на аналагічную літаратуру?**

**Р. С.** Канечне, мы знаёміліся з досыць рознай даведачнай літаратурай: пра кампазітараў Літвы, Латвіі, пра кампазітараў — лаўрэатаў прэміі камсамола, глядзелі аналагічную амерыканскую кніжку. Але эталона для сябе так і не знайшлі. Там, напрыклад, дзе даваліся творчыя партрэты кампазітараў, было, я сказала б, зашмат "лірыкі", а поўны спіс твораў, як правіла, адсутнічаў; не было спасылак на літаратуру пра кампазітараў. Словам, нам хацелася не столькі "распісаць" творцаў, колькі даць чытачу пэўныя арыенціры, пазначыўшы асноўныя вехі творчасці. А сабраць належныя звесткі і потым зрабіць строгі адбор, захаваўшы пры гэтым індывідуальны падыход да кожнай прадстаўленай у даведніку асобы, аказалася справай нялёгкай.

**Т. М.** Дадам, што даведнік Саюза кампазітараў Латвіі навёў нас на думку дапоўніць беларускі тэкст кароткімі анатацыямі на англійскай мове. Гэта пашырае кола патэнцыяльных чытачоў даведніка.

**— Дазвольце мне "злавіць" вас на супярэчнасці. У пачатку кнігі зроблена заўвага: паводле жадання кампазітараў некаторыя творы ў спіс не ўключаны. Як жа наконт "поўнага спіса"?**

**Р. С.** А тут атрымалася вось што. Працуючы над кнігай, мы зразумелі дзіўную рэч: аказваецца, не толькі ў музычных установах не ведаюць творчасць беларускіх кампазітараў. Самі кампазітары не ведаюць уласную творчасць! Сваімі пытаннямі мы нібыта прымусілі іх перагледзець хатнія архівы, упарадкаваць зробленае, успомніць, што і калі было напісана, правесці жанравую класіфікацыю. Аказалася, ёсць творы, кшталту "Камуністы, наперад!", якія самі аўтары лічаць кан'юнктурнымі і не хочуць бачыць у друкаваным спісе. Калі нашы спробы пераканаць, што гэта — не загана, а ўсяго толькі знак гісторыі, якую мы разам перажылі, былі марныя, даводзілася просьбы аўтараў улічваць. Не трапілі ў канчатковы спіс і тыя творы, што кампазітары нібыта "выкраслілі" з уласных набыткаў: маўляў, напісаў калісьці, а цяпер гэтага няма — і ўсё! Такіх прэцэдэнтаў было нямнога, але яны былі...

**Т. М.** Увогуле ж, мы надзвычай удзячныя кампазітарам за дапамогу ў працы і за цярплівасць. Уявіце сабе, колькі часу давялося ім выдаткаваць, каб адказаць на мноства нашых пытанняў, колькі тэлефонных званкоў — мусіць, мільён! — вытрываць! Яны не скардзіліся тады нават, калі бясследна знікла завізаваная кампазітарамі мая частка рукапісу і давялося ўсё аднаўляць, турбаваць сваіх суразмоўцаў зноў... Ды ад каго б яшчэ, як не ад саміх кампазітараў, атрымалі б мы найдакладную — з першых рук — інфармацыю?

**— Кніга досыць доўга ішла да чытача, і час, на жаль, зрабіў відавочнымі пэўныя недахопы. Кампазітары, якіх вы называеце маладымі, наблізіліся да 40-гадовага ўзросту. Чыесьці значныя дасягненні не паспелі трапіць на старонкі даведніка. Пайшоў з жыцця Ігар Палівода, член Саюза кампазітараў, але ягонага імя ў ліку творцаў няма... Можна патлумачыць, чаму ў кнігу не ўключаны артыкулы пра Мікалая Аладава, Мікалая Чуркіна, Яўгена Цікоцкага, напрыклад: вы пісалі толькі пра тых, чый жыццёвы шлях працягваўся і пасля 1978 года (год выдання працы Жураўлёва). Але чаму тады вы не зрабілі больш поўным дадатак пра кампазітараў, вядомых у перадваенны перыяд і з-за розных прычын на доўгі час "забытых"? Цудоўна, што тут ёсць звесткі пра Алеся Карповіча, Міколу Равенскага, Міколу Куліковіча-Шчаглова. Здаецца, побач маглі б быць фігуры Самохіна, Анцава, пра якія не пісаў і Жураўлёў...**

**Р. С.** Заўвага прынцыповая. Сапраўды, мы палічылі важным апублікаваць перадусім звесткі пра тых асоб, якія вымагалі своеасаблівай "рэабілітацыі". Сапраўды, можна было б напісаць і пра Анцава, фігуру, вядома, палітычна бездакорную. Вартая ўвагі таксама творчасць Эльзы Зубковіч — і матэрыялы досыць разгорнутыя пра яе ёсць...

**— І яшчэ такія вось "дробязі". Разумею, што вашу творчую працу стрымлівалі жорсткія вытворчыя межы, строгія патрабаванні да аб'ёму тэксту і да т.п. І ўсё ж, думаю, не толькі мне хацелася б замест (ці, калі хочаце, апроч) пераліку ганаровых званняў або дэпутацкіх абавязкаў творцы мець перад вачамі ягоны "паслужны спіс". Калі, напрыклад, кампазітар доўгі час узначальваў музычную частку нацыянальнага тэатра, або працаваў музычным рэдактарам на кінастудыі, або кіраваў вакальнай студыяй, інструментальным ансамблем, узначальваў вядучую музычную навучальную ўстанову, — гэта мае быць адлюстравана ў кароткай біяграфічнай даведцы, што папярэднічае нарысу творчасці. Здаецца, не варта было адмаўляцца ад дакладных дат нараджэння. Хаця б таму, што для ўдзелу ў міжнародных семінарах і самых розных конкурсах прынцыповае значэнне мае ўзрост кампазітара: да 35-ці гадоў ён "ходзіць у маладых", а пасталее хаця б на суткі — ужо зусім іншы статус.**

**Т. М.** Калі б можна было ўсё прадугледзець ды ўлічыць!.. Ды і ў працэсе падрыхтоўкі рукапісу да друку не ўсё ад нас, як вы здагадваецеся, залежала. Заяўку ў выдавецтва "Беларусь" мы падалі ў 1988 годзе. Потым вельмі хутка, пару месяцаў папрацаваўшы, зрабілі рукапіс, што называецца, "чарнавы". Ну, а потым... Уявіце сабе, колькі было розных вытворчых прыгод, калі "гатовую прадукцыю" мы атрымалі толькі сёлетняй вясною! Перачыталі пяць (!) карэктур, і штораз камп'ютэр выдаваў процьму памылак... Але ў сваім патрыятычным намеры — зрабіць кнігу пра кампазітараў лепшай за аналагічныя выданні Расіі, Літвы, Латвіі, — мы абапіраліся на шчырую зацікаўленасць супрацоўнікаў выдавецтва. Велізарную працу агорала рэдактар Валянціна Мікалаеўна Лучанок. З жаданнем зрабіць "лепшую ў свеце" кнігу дапамагаў дырэктар выдавецтва Мікалай Аляксеевіч Кавалеўскі: гожы эстэтычны выгляд выдання (высакароднае афармленне вокладкі, добрая папера), можна сказаць, ягоная заслуга. Адзінае што — "зэканомілі", відаць, на працы рэтушораў, скарыстаўшы ў шэрагу артыкулаў даўнія, друкаваныя 20 гадоў таму, фотаздымкі. І англійскі тэкст хацелася падаць у большым аб'ёме, але гэта "цягне" большыя вытворчыя выдаткі.

**Р. С.** Важна іншае: ужо ў друкарні нам дазволілі ўмешвацца ў гатовы тэкст, з тым каб дадаць назвы некалькіх новых значных твораў у музычна-тэатральных і сімфанічных жанрах.

**— Вы так зжыліся-зрадніліся з гэтай кніжыцай і як ніхто іншы адчуваеце, што зроблена "па максімуму", а што магло б атрымацца лепш... У вас, вядома ж, засталося мора нескарыстанай інфармацыі, за якой — непаўторныя ўражанні ад сустрэч з творцамі, эмоцыі, кур'ёзы, "моманты ісціны"... Вам не хацелася б з часам перагледзець свае запісы, прадоўжыць працу — ці то ў новым, "выпраўленым і дапоўненым", выданні даведніка, ці то ў новым, пазбаўленым умоўнасцяў навуковага выдання, дакументальна-літаратурным рукапісе?**

**Т. М.** Заяўкі на працяг працы ў выдавецтва паступілі. Але не ад нас. І гэта радуе: хтосьці хоча паспрабаваць прайсці праз нашы пакуты і дамагчыся лепшага выніку. Што да нас... Назапашаны матэрыял, сапраўды, абавязвае. Магчыма, ён увасобіцца ў нейкія серыі мастацтвазнаўчых нарысаў або навукова-асветніцкіх артыкулаў. Усё залежыць ад таго, як гэта будзе спалучацца з нашымі навуковымі, педагагічнымі планамі. Пакуль мы проста шчаслівыя тым, што завяршылі агромністую цяжкую працу, якая аказалася многім патрэбнай. Кнігай зацікавіліся, у гандлёвай сетцы яна не затрымалася. Думаю, трапіць і ў навучальныя ўстановы, і ў бібліятэкі...

**Р. С.** А калі ўзнікне патрэба ў дадатковым накладзе, яго надрукуюць — з улікам заявак, якія могуць падаваць бібліяфілы праз кнігарні.

**— З маленства маю звычку гартаць энцыклапедычныя выданні ды слоўнікі. Вось і ваша кніга патрапіла ў кола маіх хатніх сяброў, сяды-тады сама просіцца ў рукі. Гартаю, зважаю на ўсё новыя дэталі... Памылкі? Але ж вядома, што не памыляецца той, хто нічога не робіць. Дзякуй вам шчырае, Таццяна Герасімаўна ды Раіса Іванаўна, за зробленае. І дзякуй за гэтую размову.**

С. БЕРАСЦЕНЬ

ТЭАТР

# Як звянчак эксперымента

Глядацкія выгоды на берлінскім "Дон Кіхоце" тэатра ОРФ (як і з'яўленне яго самога ў Мінску) забяспечыла рупнасць Інстытута Гётэ. У праграмках (брашурах!) да спектакля пададзены і падрабязны пераклад тэксту, і размова з рэжысёрам Сузанай Трукенброд, і нават нямецкі водгук на "Дон Кіхота", датаваны леташнім вераснем. Глядацкія выгоды не абмежавалі і ахайныя драўляныя лаўкі, чые седалы-прыступкі ўтварылі зручныя паверхі для прагляду. Лаўкі, а на іх, адпаведна, гледачы, месціліся на самой сцэне, так што ўсе драбніцы ды адценні дзеяння ўзбуйняліся: паспрабуй, не "ўзбуйніся" за пяць крокаў ад гледача. Сцэна Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі, дзе Дон Кіхот са спадарожнікамі "здзяйсняў" свае подзвігі, сціснулася да памераў студыйнай пляцовачкі. Светлавое абсталяванне працавала напоўніцу. Каласнікі трымалі драўляныя пацурбалкі (лес без карэння) ды драўлянага "каня" на двух ланцугах — на гэтым лятаючым кані рыцар кшталціў свае прыгоды. ("Конь", па шчырасці, упадабляўся тарану, якім яшчэ за Дон Кіхотам лупілі ў брамы асаджаных аб'ектаў, і падабенства гэтае яшчэ бухнула па ўражаннях у фінале).

30 мая сцэнічнаю пляцоўкай зрабіўся і вялікі праход між радамі партэра (каб хто выпадкова не сеў у крэсла ды не пашкодзіў выканаўцам засяроджвацца, а гледачам — успрымаць, рады заслалі цёмным аксамітам). Там, у вялікім партэрным праходзе, асталявалі рыштаванні з ячэямі, куды і сталі ўсе чатыры акцёры. І стаялі, пакуль публіка асталёўвалася і ацэньвала свае выгоды.

Здаецца, вырашэнне рэжысёра грунтавалася на прынцыпе раптоўных нападаў — на гледачоў, на веліканаў, на львоў, на млыны і да т.п. Постаці ў ятках заварушыліся і пасунуліся на пляцоўку. "Наперад, наперад", — гучала з вуснаў чатырох. Гучала менавіта так і тое, што я напісала: стараннямі перакладчыка ў нямецкую тэкставую плынь трапілі беларускія фразы, завучылі іх бездакорна, так што рух Сервантэсавых герояў у часе і прасторы набыў сцэнічную пазначанасць. Дон Кіхот, Санча і дзве "паненкі", Расінанта ды Шэрая, кабылка ды асліца (рэжысёру, як высветлілася, рупіла падкрэсліць трывушчасць), у абадраным камуфляжы, з заплечнікамі ды дзідаю паволі пераадолелі ўзараную паласу чорнай зямлі. Паласа выдавала на міннае поле. За ім пачыналася леташняе жаўталісце з пасохлымі галінкамі й травою, над імі віселі абсечаныя ствалы (з імі хутка возьмецца гуляць Расінанта): партызанская зона? Там Дон Кіхот выпорваў кавалак нейкага выбуховага прыстасавання і рабіў з яго шлем. Там Санча разжываўся кавалкам круглай бляшанкі і прыстасоўваў яе пад шчыт. "Паненкі" нічога не шукалі. Бо мусілі тупацець "платформамі" абутку, пачэсвацца, уздрыгваць, пахрапваць, матляць валасамі (Расінанта) ды ўнурваць голеную галаву (Шэрая). Расінанта часам вынаходліва ржала, імітуючы коніка; Шэрая маўчала, як, напэўна, павінен маўчаць асёл. У фінале абедзве загаварылі, і Расінанта назвала сябе Дульцынеяй, але заяву рыхтавала няўцямна.

Дзіўная рэч! Пад рукою быў пераклад і можна было адсачыць кожную рэпліку ў сцэне. Пад нагамі хадзілі акцёры і расказвалі, і паказвалі рух — вось едуць, вось ідуць, брыдуць, цягнуцца, сунуцца. Уяўныя небяспекі Дон Кіхота не краналі зусім: літаратурна абазнаная публіка больш цікавілася іх акцёрскім выяўленнем. Думалася: крый Божа, каб у сцэнічным лесе трапілася якая міна або граната, — да сёння ж далежваюць. Узараная чорная зямля формай нагадвала сэрца. Кабылку ды асліцу то навязвалі, то адвязвалі, то пускалі пасвіцца. Дон Кіхот махаў дзідаю, перамагаў ільва ў зацямненні, стукаў дзідаю ў лодку (доўбленае бярвенца) ды на драўляным "кані" разам з кампаніяй перапраўляўся бліжэй да партэра. А бліжэй да партэра месціліся курыныя пёркі, адмыслова выкладзеныя; у фінале героі іх падкідалі, утвараючы вельмі прыгожую мізансцэну. Ці то раптоўнага снегу, ці то арэчаўлення мараў...

Дзіўная рэч! Гэта — трынаццаты спектакль Сузанны Трукенброд. Прынцыповае адмаўленне ад пісання п'есы. Літаратурная падстава — сцэнарый. Фрагменты. Кавалкі. Аскепкі. У кліпе яны стракацяць, утвараючы ілюзію ўнутранага руху, а на сцэне, ля глядацкіх ног, цягнуліся. Нерваваўся ў інтанацыях Дон Кіхот, пакрыкваў, роў, а нас запэўнівалі, што Людвік Цік падаў самы рамантычны пераклад Сервантэса на нямецкую, значыць, герой ОРФа мусіць быць такім самым. Рамантычным. І, заяўляючы, адрыналі літаратурную крыніцу... Засыпалі яе леташнім лісцем? Адасабляліся ад яе ўзаранай паласой зямлі?..

Беларуская публіка, здаецца, мела ўсе падставы прыгадваць свайго знаёмца Кіхота. Ён уваходзіць нават у школьную праграму.



Аб'ёму, жыцця, трапяткой і смешнаватай перакананасці ва ўласнай рацыі, кахання, нарэшце, бракавала яго нямецкаму варыянту. Сцэнічнаму асяродку — закончана сучаснай эстэтыкі (прадстаўленае мы ўжо ацанілі ў сямідзесятых). Акцёрскаму выкананню — інтанацыйнае дакладнасці. Відовішчу — атмасферы. Ці хоць бы якога прысмаку... іншасвету, які так бараніў Дон Кіхот. Які так нялёгка, але так па-майстэрску ўтвараюць і бароняць у тэатры лепшыя з лепшых. Спектакль тэатра ОРФ, безумоўна, цікавы — як звянчак магчымага эксперымента. Але — звянчак мусіць-такі счапіцца з ланцугом. Інакш у ім мала карысці. І сэнсу.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

МУЗЫКА

# "А якія ў мяне цудоўныя слухачы!"

***Рэгулярна па выхадных днях сталічная філармонія ладзіць дзённыя канцэрты для маленькіх слухачоў. Гэта шматгадовая традыцыя, на шчасце, не знікла ў наш неспакойны час. Не перавяліся і энтузіясты, гатовыя трымаць сувязь з дзецьмі са сцэны канцэртнай залы, несці ім сваё мастацтва і Слова пра яго. Асаблівая і адказная місія ўскладзена на музыказнаўцу-лектара, які дапамагае дзецям зразумець музыку, — навучыць іх слухаць і думаць, асацыіраваць і суперажываць. Абуджае ў іх захопленага, успрымальнага да Прыгажосці паклонніка Высокагаў мастацтве, а значыць — і ў жыцці.***

Сярод невялікай колькасці лектараў Беларускай дзяржаўнай філармоніі — гэта пасада рэдкая і ганаровая, — асабліва любімы шырокай дзіцячай аўдыторыяй Анатоль Парэцкі. Напэўна, няма ніводнага дзіцяці, якое калі-небудзь не пабывала б тут на канцэртах для школьнікаў, каму б не запомніўся гэты добры, разумны, абаяльны чалавек, — канферансье, каментатар, інтрыгуючы апавядальнік, а часам — тлумачальнік і настаўнік. Вопытны лектар, А. Парэцкі ўмее лёгка і нязмушана працаваць з дзецьмі розных узростаў і гаварыць на самыя розныя тэмы, якія ён прыдумвае сам у адпаведнасці з праграмай канцэрта.

Лектар — гэта перш за ўсё артыст, але асаблівага кшталту. Штуршком да пераўвасаблення і акцёрства для яго робіцца не роля, зададзеная нейкім сцэнарыем, а ўласна музыка — самае неканкрэтнае мастацтва, якое складана паддаецца слоўнай інтэрпрэтацыі. Нездарма стала крылатым выказванне Р. Шумана: "Там, дзе канчаецца слова, пачынаецца музыка".

Спрэчкі наконт неабходнасці слоўнага перакладу музычнага твора не аціхалі ніколі. Даверу ды інтуіцыі, эмоцыі ў працэсе разумення музыкі супрацьпастаўляецца ідэя аналітычнага яе тлумачэння, апасродкавання ейнай эфемернай сутнасці праз сумежныя мастацка-вобразныя светы: высокага Слова, колеравай гамы карціны, асацыяцыі з прыродай. Шмат небяспечнага тут для музыказнаўцы: хаця б не сказіць звычайным пералікам фактаў, міжвольным спрашчэннем ці знарочыстай суб'ектыўнасцю "нешта" — жывую і трапяткую душу музыкі. А перад дзецьмі адказнасць лектара-каментатара ўзрастае ў шмат разоў. Бо дзеці адкрываюць бездань музычнай прыгажосці ўпершыню, а ўсё першае ў жыцці — найбольш уражвае і пакідае след на будучае.



*Анатоль Парэцкі з юнымі ўдзельнікамі канцэрта*

Дзіця свята верыць аўтарытэту дарослага лектара-ўсяведа, які гэтак прыгожа гаворыць пра таемную музыку. Анатоль Парэцкі не толькі павучае і тлумачыць, але і ўцягвае ў сатворчасць: запрашае дзяцей спяваць разам з артыстам, а часам — і граць на дзіцячых немудрагелістых інструментах. Ён імправізуе і фантазіруе, праяўляючы бліскучую эрудыцыю, падпарадкоўваючы факты сваёй ідэі.

Відаць, новы творчы перыяд у дзейнасці А. Парэцкага пачаўся тры гады таму, калі ўзнікла ідэя ладзіць дзіцячыя тэматычныя канцэрты сіламі навучэнцаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Гэта вядомая навучальная ўстанова заваявала сабе сталы аўтарытэт высокім узроўнем прафесійнай падрыхтоўкі юных талентаў. Многія з выхаванцаў ліцэя ўжо ў раннія гады робяцца лаўрэатамі розных выканальніцкіх конкурсаў, стыпендыятамі Міжнароднага дзіцячага фонду "Новыя імёны". Канцэртная дзейнасць для такіх дзяцей — патрэба і неабходнасць, а асабліва прэстыжна і адказна іграць на вядучай канцэртнай сцэне рэспублікі — філарманічнай. І зусім гарманічна спалучаюцца інтарэсы юных артыстаў і такой жа юнай аўдыторыі. А вось функцыі стварэння неабходнай творчай скаардынаванасці паміж выканаўцамі і слухачамі бярэ на сябе лектар-музыказнавец.

Анатоль Парэцкі — адзін з ініцыятараў такіх канцэртаў. Ідэя рэгулярных тэматычных праграм юных музыкантаў нараджалася ў згодзе з адміністрацыяй ліцэя — завучам А. Гужалоўскай і дырэктарам І. Кузьменкам. Пачалі стварацца канцэртныя брыгады, якія актыўна выступалі разам з А. Парэцкім і ў Мінску, і ў Гомелі, Гродне, Віцебску, Маладзечне, Полацку. І ўсюды — з нязменным поспехам.

А далей — новая думка: арганізаваць рэгулярныя абанементныя канцэрты на сцэнах рэспубліканскай філармоніі і ліцэя. (Першы такі абанемент з'явіўся пару гадоў таму і складаўся з шасці канцэртаў-лекцый на тэму "Дзіцячыя і юнацкія гады любімых кампазітараў"). Кожнаму канцэрту папярэднічае праслухоўванне музыказнаўцам і педагогамі ліцэя кандыдатаў на ўдзел. Юныя музыканты лічаць сваё выступленне ў гэтых канцэртах ганаровым і адказным. Лектар, зыходзячы з прапанаванага рэпертуару, фантазіруе і кампануе будучую гутарку са сцэны. Атрымліваецца ж у выніку не акадэмічная лекцыя, а жывы маленькі спектакль.

Летась А. Парэцкі назваў свой лекторыят "Усёй сям'ёй на канцэрт". Гэта агульная рубрыка па сутнасці — неабдымная. Музыказнавец насычае яе самым розным зместам, вынаходзіць розныя канкрэтныя тэмы ў залежнасці ад рэпертуару навучэнцаў ліцэя: "Казкі пра музыку", "Музыка і прырода" і інш.

Ён не проста тлумачыць слухачам музыку — ён творыць адмысловы вобразны свет сілай свайго слова, няпростага, небудзённага, але і не напышлівага. Яго аповед аказваецца надзіва даступным, захапляльным, часам інтрыгуючым. Анатоль Давыдавіч любіць расказваць казкі, у якіх дзейнічаюць народныя музыкі, інструменты, чароўная магія музычнага гучання. Ёсць у яго і займальныя гісторыі з жыцця кампазітараў, пра стварэнне прадстаўленых у праграме п'ес, пра асаблівасці выканання на тым ці іншым інструменце. Умее ён і ў слове ўзнавіць атмасферу нейкай далёкай культурнай эпохі з яе спецыфічнай музычнай традыцыяй.

Ён любіць аўдыторыю, разумее псіхалогію дзіцяці, яго патрэбы, умее прыцягнуць да сябе ўвагу маленькіх слухачоў. А разважаючы пра сваю працу, раз-пораз паўтарае: "А якія ў мяне цудоўныя слухачы!"

Так, Анатоль Парэцкі вучыць дзяцей слухаць музыку. У той жа час ён робіць вялікую добрую справу для музыкантаў-пачаткоўцаў, бо папулярызуе іх поспехі, дапамагае ліцэістам далучацца да сапраўднай прафесійнай канцэртнай дзейнасці.

Напраўду, не хлебам адным жыве чалавек. На шчасце, нягледзячы на цяжкасці штодзённасці, не гасне ў беларускіх людзях агеньчык энтузіязму і творчага натхнення, любові да мастацтва, памкнення да духоўнасці. І ці не сведчанне таго — адухоўленае супрацоўніцтва дарослага мудрага апавядальніка-музыканта з дзецьмі-выканаўцамі і са слухачамі, удзячнымі за радасць адкрыцця для сябе музыкі і сябе — у ёй...

**Ніна СЦЯПАНСКАЯ**

# АРТ-сесія-97

Ужо па традыцыі ў сярэдзіне мая ў Палацы ААТ "КІМ" адбылася чарговая мастацкая акцыя — "Арт-сесія-97". Шостая па ліку, яна засведчыла прыхільнасць сёлетняга пакалення студэнтаў мастацкіх спецыяльнасцяў віцебскіх ВНУ да эксперыментаў з формай, колерам, лініяй. Сярод твораў, адзначаных журы на чале з мастаком Аляксандрам Дасужавым, найбольш цікавымі з'яўляюцца габелен "Па матывах афрыканскай маскі" Марыны Ласьмінскай, дэкаратыўная кампазіцыя "Паляўнічыя" Дзіны Даніловіч, аб'ёмная канструкцыя "Усё ёсць ва ўсім" Наталлі Петракоўскай, семіятычны макет кнігі Таццяны Кулевіч, трыпціх "Гульня" Любові Брылёвай. Лаўрэатамі "Арт-сесіі" гэтага года таксама сталі Вольга Міцкевіч, Вікторыя Крупская, Вольга Хахлова, Аліна Усцінкова, Андрэй Піскун. За выключэннем апошняга з названых, які прадстаўляе мастацка-графічны факультэт віцебскага універсітэта, усе астатнія лаўрэаты — студэнты 2—5 курсаў аддзялення дызайну тэхналагічнага універсітэта.

Зразумела, што гэта сесія — не апошняе выпрабаванне на творчым шляху маладога пакалення мастакоў, а значыць сапраўдны талент абавязкова праявіць сябе яшчэ не раз.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

РЭПЛІКА

# Ян Арлазораў вучыць рэжысёра

Ток-шоу "Карамболь", як вядома, любіць заезджых зорак эстрады. Іх вылоўліваюць падчас гастроляў і садзяць за столік, каб задаць некалькі пытанняў. І вось чарговы ўдзельнік перадачы Ян Арлазораў прама ў эфіры пачаў вучыць рэжысёра.

— Дзе тая камера, якая на мяне працуе? Я не бачу яе, — не стрываў вядомы майстра гумару.

Дзівак! Ён не ведае, што на нашым родным тэлебачанні тэлекамеру настаўляюць, як рулю стрэльбы. А потым тэлеаператар ідзе курыць, а рэжысёр з асістэнтам абмяркоўваюць рэдакцыйныя альбо сямейныя праблемы. Нічым іншым нельга растлумачыць, чаму ў большасці перадач (у тым ліку трансляцыях) камера такая статычная і непаваротлівая.

— Абляніліся, мужыкі! — не сказаў, але, напэўна, падумаў Ян Арлазораў...

**Г. К.**

## З любоўю да роднай зямлі

Барысу БЕЛЯЖЭНКУ — 60

**Барыс Беляжэнка нарадзіўся ў вёсцы Промыслы Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і служачага. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі на працягу 1955—57 гадоў працаваў старшым піянерважатым Новікаўскай сярэдняй школы. Служыў на Балтыйскім ваенна-марскім флоце, потым вярнуўся да педагагічнай працы: працаваў настаўнікам, дырэктарам Дома піянераў і школьнікаў. У 1965 годзе скончыў завочна філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а ў 1970 — Мінскую вышэйшую партыйную школу. У 1965—68 гадах загадваў Чашніцкім райана, працаваў намеснікам старшыні Чашніцкага райвыканкама. З 1970 года — у апараце Віцебскага абкама партыі, а з 1980 года — у рэдакцыі абласной газеты "Віцебскі рабочы".**

**У перыядычным друку дэбютаваў у 1959 годзе творамі на рускай мове, але потым перайшоў на беларускую. Выдаў зборнікі вершаў "Крыгалом" (1973), "Жытнёвае поле" (1977), у часопісе "Маладосць" апублікаваў паэму "Свята пумы". Выступае і як празаік. У лепшых творах паэт пранікнёна піша пра родную Віцебшчыну, пра людзей, якіх добра ведае і якіх шчыра любіць.**

**Віншуем Барыса Паўлавіча з юбілеем. Зычым яму здароўя, шчасця і далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!**

## "Спакой на зямлі і на нябёсах"

**Мастацкая выстава з такой назвай прадставіла віцебскаму гледачу жывапісныя і пластычныя эксперыменты адразу некалькіх мастакоў, што ўваходзяць у творчае аб'яднанне "Аршыца". Арганізаванае ў 1990 годзе, асноўнай канцэптуальнай ідэяй сваёй дзейнасці яно абвясціла адзінства эстэтычных і культурных поглядаў па шэрагу праблем сучаснага мастацтва, скіраванасць на "стварэнне індывідуальнай інтуітыўнай духоўнай прасторы, паралельнага свету, існуючага ў падсвядомасці аўтара". У экспазіцыі, разгорнутай у выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў, зусім не раўназначныя па мастацкіх якасцях вялікія пано Анатоля Жураўлёва, захапляючыя супрацьстаяннем святла і ценю кампазіцыі Барыса Іванова, этнаграфічныя па вобразным ладзе габелены і інсталяцыі Алеся і Генадзя Фалееў, жывапісныя творы Вячаслава Барысоўскага, Сяргея Фомчанкі, Анатоля Марышава.**

**М. ЦЫБУЛЬСКІ**

## Славянскія тэатральныя сустрэчы



**Гасціннасцю, цяплом бэзавых вечароў і ўвагай гледачоў сустрэў Гомель удзельнікаў 4-га Міжнароднага фестывалю "Славянскія тэатральная сустрэчы". Акрамя традыцыйных прадстаўнікоў з суседніх Бранскай і Чарнігаўскай абласцей,у цяперашнім фестывалі бралі ўдзел маскоўскі драматычны тэатр імя Гогаля, санкт-пецярбургскі "Класічны тэатр", кіеўскі Малады і мінскі драматычны тэатр імя Я. Купалы.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Дзень свабоды, дзень любові" кіеўскага Маладога тэатра.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## ПАЭЗІЯ

Алесь ПІСАРЫК



●

*Дзядзька Васіль смерці прасіў.*
*Надоліўся зла чалавечага.*
*І чарку — як свечку гасіў,*
*Каб сэрцу палегчала...*

*Як боль — медалёў не насіў:*
*Сляпілі лясныя пагосціны...*
*А як аднарукі касіў!*
*Хлопцы зайздросцілі!*

*З-пад спрытнай сякеры сасна*
*Жывіцай крутой залівалася.*
*Адпетая ў песнях вайна —*
*За камні хавалася...*

*Надзённыя беды — крыжы*
*У памяці неўміручыя.*
*Не змог іх сусед перажыць,*
*Памёр, каб не мучыцца.*

●

*Прыпадаюць душой да зямлі мужыкі.*
*Залаціцца дабро з-пад мазольнай рукі...*

*У пашане сявенька і дзедаўскі плуг.*
*Загасціла каса на някошаны луг.*

*Дзе стагі жураўлінае неба ўзнялі —*
*Там вясёлкі вянок пану-жніўню сплялі.*

*Бач, як выладзіў стол*
*гаспадар малады:*
*За параду ў жыцці —*
*вам па чарцы, дзяды!*

*Азярына прысніла птушыны адлёт.*
*Лета звозіць снапы*
*на багаты ўмалот...*

*Не чутно, як заходзіцца болем спіна.*
*Не прачнулася б*
*Слотная ў небе струна.*

●

*З вачэй і сініцу прагоніць*
*Зажураны сэрцам мароз*
*За чыстае поле, за гоні,*
*Да ўмёрзлых у неба бяроз.*

*Успомніць сівыя быліны:*
*Тут князь на сваю весялосць*
*Натрапіў на голас каліны*
*І выпіў яе маладосць...*

●

*Мой ясень заліўся тугой.*
*Як ноч запальнічкаю чыркне —*
*Распаліцца ў сэрцы агонь,*
*З якім давяраўся дзяўчыне.*

*Вяртае душу цішыні*
*Музыкам забытая флейта.*
*Мае пацалункі — вярні,*
*Вярніся сама ў маё лета.*

●

*Каб не дакараць сябе самога,*
*Слухайце, як плачуць салаўі!*
*Хараство жаночае — ад Бога,*
*Ад кветоў — мелодыя любві.*

*Аднаму надасць такія сілы,*
*Што ажно захочацца спяваць.*
*А астатнім, як бы ні прасілі —*
*Не дазволіць нават цалаваць...*

*У якую б не спяшаў дарогу,*
*А душу пяшчотай распалю.*
*За тваю бяссонную трывогу*
*Я цябе мілую і люблю.*

●

*У вачах тваіх — заклён кахання,*
*І яно ўсялілася ў душу,*
*Як пяшчоты чыстае дыханне,*
*Будзь са мной, адзіная, прашу.*
*Ты душу даверам наталіла.*
*Заплылі ў пачуцці салаўі.*
*Ты зару надзеі распаліла*
*І сама згарэла ад любві.*

# LA BAGATELLE СА СМЕРЦЮ

*(Працяг на стар. 9)*

— Як — ваша магіла? — вось тут ужо Вітберг нічога не разумеў. — Дзіўна, вы што — нябожчык ці загадзя сабе магілу падрыхтавалі?

— Як бачыце, я жывы чалавек. Значыць, падрыхтаваўся да смерці загадзя. Я веру, што калі-небудзь памру. Згадзіцеся, што прыемна прыходзіць на сваю магілу. Такое ўяўленне, што трапляеш у будучыню, дзе цябе не павінна быць, але табе падаравана рэдкая магчымасць убачыць свет пасля сваёй смерці. Цябе няма, але ты — ёсць.

— Гэта проста насмешка са смерці, — раззлавана адказаў Вітберг, упэўнены, што мужчына проста дурачыць яго.

— Не, гэта жаданне адчуць сябе смяротным, — адказаў Мікалай.

— Хочаце сказаць, што вы бессмяротны, — іранічна заўважыў Вітберг.

— Так, — сціпла мовіў Мікалай. — Я бессмяротны. Хаця і не Вечны Жыд.

Вітберг не ведаў, як успрымаць ягоныя словы. І Мікалай зразумеў ягоную разгубленасць.

— Не, я не прыдумаў эліксір неўміручасці і, як герой Борхеса, не дабраўся да горада бессмяротных. Усё даволі трывіяльна. Некалі, вельмі даўно, мне здавалася, што сапраўднае жыццё — па-за гісторыяй. Мой унутраны, творчы свет, маё Я патрабавалі прарыву ў вечнасць. Я хацеў бессмяроцця. Аднойчы ў сяброўскім хаўрусе я па п'янай дурноце прызнаўся, што гатовы палюбіць смерць, толькі б яна зрабіла мяне бессмяротным. І вось у гэтым горадзе на карнавале я сустрэўся са смерцю і палюбіў яе...

Аповед Мікалая ўразіў Вітберга сваім падабенствам на ягоную асабістую гісторыю. Цяпер Вітберг ужо не сумняваўся, што Марына — смерць.

— І яна палюбіла вас? — спытаўся ён.

— Яна любіць толькі сябе, а бессмяроцце яна падаравала таму, што гэта задавальняе яе самалюбства. Ёй патрэбны трубадур, які багатварыў бы яе і чый талент належыў бы ёй.

— Вам можна толькі пазайздросціць.

— А чаго зайздросціць? — шчыра здзівіўся Мікалай. — Нічога новага ў жыцці для мяне ўжо няма. Калі-нікалі ты вызваляешся ад мрой, ад падману і пазнаеш нікчэмнасць і пустату ўсяго. Не вельмі прыемны занятак — гадамі назіраць за бясконцай плынню дробных, нікчэмных думак і людскіх клопатаў. Я пазнаю не веліч, а нікчэмнасць усяго. Каб быць шчаслівым, я павінен быў адмаўляцца ад свайго Я, ад сябе, быць другім, але, на жаль, памяць пражытага — гэта цяжар, які не скінеш з плеч. Калі нават — прага да жыцця ўгасае, дык і талент, свядомасць становяцца непатрэбнымі, бо гэта — толькі сродак для рэалізацыі жаданняў і волі. Жыццё здаецца мне доўгім сном. Час спыніўся для мяне. А я ўсяго цень свайго былога Я. Вось гэтая магільная пліта дазваляе адчуць сябе смяротным, самім сабой. Бессмяротнасць — гэта доўгае жыццё па-за часам без сэнсу і без цікавасці да яго. Цябе няма, але ўся трагедыя ў тым, што ты ёсць, — казаў сумна Мікалай, казаў тое, што не зразумеў, а адчуў сэрцам і душой.

— У мяне зусім іншыя праблемы. Я павінен сёння памерці. А хочацца жыць. Дапамажыце.

— Смерць усясільна, але яна бяссільная перад імгненнем. Яна можа падараваць неўміручасць, але жыццё — ніколі... Можа забраць тваё жыццё, але імгненне ніколі — імгненне, якое можа выратаваць тваё жыццё. І што табе параіць? Ты павінен сцерці са старонкі лёсу — імгненне сваёй смерці. Загінуць, але.. нарадзіцца зноў, ужо без сваёй долі, у якой не вызначаны дзень тваёй смерці.

Вітберг не надта і зразумеў, што нагаварыў яму неўміручы чалавек. Нічога сабе парада — загінуць, але нарадзіцца зноў. Нейкая метафізіка. А ён чакаў дакладных парад, якія можна было б практычна выкарыстаць. Такім чынам, яму засталося ці змірыцца і чакаць з'яўлення смерці, ці падначаліцца сваёй інтуіцыі і ратавацца. Ясна было адно: яму трэба перажыць сёння — дзень сваёй смерці, дзвюм смерцям не бываць, значыць другога дня смерці ў яго не будзе. Толькі лёс не падманеш. Вось яно, зачараванае кола.

Некалькі гадзін Вітберг блукаў па вуліцах горада. Да сябе ў пансіянат ён не вярнуўся. Хай ужо смерць яго шукае. Толькі трывожнае пачуццё небяспекі падказвала яму, што за ім неадступна крочыць чорная постаць ягонага забойцы. Таму Вітберг трымаўся сярод людзей. Пад вечар ён выйшаў да нейкай прыгараднай станцыі. Халадок жаху прабег па ягонай спіне. У канцы перона стаяла Марына. Вось так, ад смерці ён не ўцёк. Марына з пераможнай усмешкай пагразіла яму пальцам. Інстынктыўна Вітберг павярнуўся назад, насустрач яму з другога канца перона крочыў чалавек у чорным плашчы і капелюшы, насунутым на вочы. Гэта была пастка. Вакол — ніводнай чалавечай душы. Адзіны шлях да ўцёкаў — гэта праз рэйкі, і Вітберг саскочыў з перона на каляіну. Але спыніўся, уражаны. На суседнім пероне ўзвышалася постаць Марыны. Ён азірнуўся назад. Чалавек у чорным памахаў яму рукой. Уцякаць не было куды. Ён асуджана стаяў сярод чыгуначнай каляіны, не ведаючы, што рабіць. Нават словы, што загучалі ў вакзальным рэпрадуктары, не ўспрымаліся ім. Здагадаўся, што нешта крычаць яму, папярэджваюць яго. На перон з будынка выбег служачы і панічна залямантаваў, паказваючы рукамі за ягоную спіну. Вітберг зірнуў у той бок. З-за павароту бясшумна з'явіўся цягнік. Ні грукату колаў, ні папераджальных сігналаў — ляцеў на шалёнай хуткасці проста на яго. Дык вось яна, смерць! Нейкую долю хвіліны Вітберг глядзеў зачаравана на выцягнуты лыч лакаматыва і выгнутыя на павароце вагоны — падобна было, што жалезны цмок крадзецца да яго, сваёй ахвяры. Яшчэ імгненне — і ён накрые яго. Заставаліся лічаныя метры. І перад самым носам лакаматыва Вітберг ірвануўся з месца. Ён не адчуваў пад нагамі зямлі — ці бег праз рэйкі, ці адным скокам пераадолеў іх. На гэта спатрэбілася імгненне, нават імгненне імгнення. У той момант, калі правая нага дакранулася да перона, ззаду ўжо ляцеў цягнік, ударыўшы яго пругкай хваляй паветра ў спіну. Як ён паспеў прыняць левую нагу, не ведае, толькі, калі і яна прызямлілася на перон, цягнік праскочыў станцыю. Вітберг убачыў, як нервова дрыжэлі акуляры ў руках служачага станцыі.

— Не спакушай смерці. — Ты сёння другі раз нарадзіўся. Ну шчасліўчык. Доўга будзеш жыць.

Пэўна, ён меў рацыю. Доўгі век наканавана яму пражыць. Марыну з яе чорным памагатым Вітберг не ўбачыў на пероне — зніклі. Ён засмяяўся. І толькі пазней, калі Вітберг пайшоў са станцыі, страх, як боль пасля анестэзіі, запульсаваў у ягонай свядомасці. Перад вачыма ўзнікаў жалезны цмок, які мчаўся на яго. І як Вітберг ні праганяў гэтую здань, яна метадычна ажывала перад ім. Ён прысеў на лаўку. Цяпер ён ясна зразумеў, што яго выратавала доля імгнення. Ён павінен ужо быць нябожчыкам, але ён жывы. Так і сядзеў ён на лаўцы, аж да таго часу, пакуль стрэлкі гадзінніка не сустрэліся на дванаццатай гадзіне, каб пачаць адлічваць новыя суткі. Сёння скончылася.

Бессмяротнага чалавека Вітберг больш не сустрэў. Наступным днём у надзеі сустрэцца з ім ён прыйшоў на могілкі. На магільнай пліце, пад якой Мікалай спадзяваўся знайсці апошні супакой да архангельскай трубы, ляжалі кветкі і вянок. Вытаптаная трава каля пліты і свежая зямля маглі сведчыць толькі адно — Мікалая ўжо пахавалі. Словы ягоныя збыліся. І тады Вітберг зразумеў, што стаў неўміручым. Яго няма, але ён ёсць!

*Мінск, 1997 г.*

ПОГЛЯД

***Кожны раз, калі нешта пішу, грызуць сумненні — а ці дастасуецца гэта да "ЛіМа", ці ўпішацца ў ягоны кантэкст і фармат. Вось і зараз маю тую ж праблему, бо і тэма "не вельмі беларуская", і памер опуса набліжаецца да крытычнага. І ўсё ж спадзяюся, што для многіх чытачоў гэта будзе цікава, бо Рэрых — асоба нестандартная, складаная, а для Беларусі дык нават экзатычная.***

***Такім чынам, сёння ў гасцях Мікалай Рэрых. Пераклады ягоных тэкстаў — уласнаручныя.***

Нагодай да гэтых нататак стала выстава Юрыя Маскаленкі з Гомеля, якую цяжка назваць чыста мастацкай: большасць прадстаўленых работ уяўляюць сабой ілюстрацыі да вучэння Мікалая і Алены Рэрыхаў. Здавалася б, у самога Рэрыха даволі жывапісных палотнаў для візуалізацыі сваіх складаных метафарычных тэкстаў, але вось і ў паслядоўнікаў узнікла жаданне яшчэ раз, больш асучаснена праілюстраваць асобныя моманты вучэння.

ці для самога мастака? Для мяне ж "невідочнае" стала відавочным: у Хрыста і Будды, аказваецца, адна Маці, праўда, пакуль толькі духоўная. Гэты цікавы факт пацверджаны і ў адным з тлумачальных тэкстаў, і ў іншых работах.

Такая небясспрэчная эклектыка, на якую коса глядзяць артадаксальныя хрысціяне, канешне, не вынаходніцтва Ю. Маскаленкі, а адна з галоўных заканамернасцяў рэрыхаўскага светапогляду, якую я і паспрабую

# Мікалай Рэрых

## ПАРТРЭТ НА ФОНЕ ІМПЕРСКАГА ЗАХОДУ

Васіль АЎРАМЕНКА

Сам жанр паўтарэння галоўных тэм і догмаў Настаўніка выключае сур'ёзныя мастацкія адкрыцці, але паўтарэнне — маці вучэння. У рэшце рэшт, нашчадкі, "праядаючы" творчую спадчыну першазаснавальніка, не проста будуюць яму п'едэстал, а самі становяцца ў ім камянямі. Вось на такі "камень" і прэтэндуе згаданая выстава Ю. Маскаленкі.

Тонкі алейны гладкапіс, халаднаваты і прыглушаны, часта зроблены на дзюралевых пласцінках, саступае насычанаму тэмпернаму жывапісу самога Рэрыха, які да таго ж мае не літаратурна-кабінетныя, а пленэрныя вытокі. Але старанная натуралістычнасць у спалучэнні з прыёмамі сюррэалізму, багатай містычнай і рэлігійнай атрыбутыкай ды з эфектамі "драпін на фарбаваным алюмініі" робіць пэўнае ўражанне на правінцыйнага гледача. Людзі адразу бачаць, што намалявана "прыгожа і гладка", да таго ж усе гэтыя "тонкія сферы", "вочы ў небе", "касмічныя завіхрэнні" — нечаканы кантэкст з гнюснасцю сённяшняга жыцця. Вось яна, здавалася б, сапраўдная высокая духоўнасць — экзатычная, незразумелая і далёкая ад нас. Хаця чаму — далёкая? Ёсць тут і добра знаёмыя рэчы: праваслаўныя абразы, партрэты святых, царкоўных дзеячаў. А вось і сам Хрыстос разам з Буддай дэманструюць кожны сваё, прычым Хрыстосаў тэкст выкрывае "фальшывых пракокаў", але ўсмешлівы Гаўтама абыякавы да такіх празрыстых намёкаў: у яго ёсць свая ісціна, і калі глядач мае добры зрок, то лёгка яе можа прачытаць. Але яшчэ цікавей будзе прачытаць назву гэтай праграмнай карціны: "Невідочнае"! Незразумела толькі для каго — для простага гледача

агледзець з сённяшніх беларускіх прыцэмкаў.

Літаратурна-духоўная спадчына Рэрыха — не простая з'ява. Яна быццам бы жыве сама ў сабе, па ўласных законах і з цяжкасцю паддаецца знешняму аналізу і каментарыю. Большасць яго тэкстаў уяўляе сабой замкнёныя, герметычныя сістэмы, перапоўненыя абстрактнымі, малазразумелымі вобразамі. Асабліва гэта тычыцца "Жывой Этыкі", дзе выкшталцоная, метафарычная гульня і бясконцая повязь знаёмых і незнаёмых слоў ствараюць уражанне нейкай нечалавечай, касмічнай размовы пра ўсё і ні пра што. Такое ўражанне, што ідзе перадача інфармацыі з аднае "тонкай сферы" ў другую, мінуючы чалавека, які застаецца на сваёй "фізічнай зямлі" і няўцямна лыпае вачыма: "Навошта ўсё гэта?"

Справа ў тым, што большасць тэкстаў Рэрыха пазабаўлены хоць якіх гістарычных, геаграфічных, побытавых ці эмацыянальных прыкмет, за якія звычайна можа зачапіцца чалавек, праз іх увайсці ў твор і прымерацць яго да сябе. Пазачасавасць, пазагістарычнасць, абстрактны гіперсімвалізм робяць яго нечытэльным, нямасавым, неактуальным. Калі гляннуць на Біблію, перанасычаную жывымі побытавымі замалёўкамі, рэальнымі падзеямі ды сацыяльнымі рэцэптамі свайго часу, то становіцца зразумела, што ў вечнасць можна трапіць толькі праз сучаснасць, вялікае — скласці з малога, агульнае — з індывідуальнага. Якраз сучаснага, малога, індывідуальнага і бракуе рэрыхаўскім празаічным опусам. Чаго не скажаш пра паэзію. Тут прысутнічае і жывы герой, і натуральныя эмоцыі, часавыя і побытавыя прыкметы. Амаль тыя ж вобразы і сімвалы, тая ж герметычнасць тэксту, а ўсё ажывае, становіцца зразумелым і дзейсным, блізкім і патрэбным — спускаецца на зямлю. У гэтым вінаваты не столькі "цуд паэзіі", а хутчэй тое, што тут увасоблены інтымныя аўтарскія рэфлексіі Мікалая Рэрыха.

З аўтарствам эзатэрычнай прозы значна складаней. Звычайна Рэрых ужывае слова "мы". Што гэта? Вялікая самапавага? Сааўтарства з жонкай? Ці яшчэ з кім? Ёсць і такое меркаванне, што аўтар падобных тэкстаў як асоба, індывідуальнасць — знікае, ператвараецца ў медыума, праваднікa "вялікіх ідэй" з іншых сфер і сусветаў. Але ці патрэбны тыя ідэі, што з імі рабіць у гэтым свеце? Вось маленькі прыклад: "Мастацтва з'яднае чалавецтва... Яно ёсць сцяг будучага сінтэзу. Мастацтва — для ўсіх" ("Брама будучыні").

— Якія цудоўныя словы! — скажа чытач.

Але замест слова "мастацтва" пастаўце любое іншае — прыгажосць, экуменізм, Internet, сусветная эканоміка, барацьба за мір, за чысціню прыроды і г. д. — і ўсё таксама будзе справядліва, пераканаўча і... памылкова. Бо тое ж мастацтва, прыгажосць ці што іншае могуць з'яднаць ці выратаваць, а могуць падзяліць ці загубіць. Прыўкрасная Алена, Юдзіф ці райскі забаронены плод — класічныя прыклады згубнай прыгажосці. А, напрыклад, авангарднае мастацтва выклікала ў Мікалая Канстанцінавіча зусім не "інтэграцыйныя" жаданні. Яго недвухсэнсоўныя выказванні пра "всяких малевичей-шагалов" у лепшым выпадку жорстка размяжоўвалі, а ў горшым — пазбаўлялі права называцца мастацтвам новыя плыні XX стагоддзя.

Увогуле ў М. Рэрыха былі даволі арыгінальныя светапоглядныя перакананні, якія знайшлі адлюстраванне і ў літаратурнай, асабліва публіцыстычнай спадчыне. Першае з іх — засяроджанасць на мінулым, рэтраграднасць і кансерватызм, які часта хаваецца за абстрактна-футурыстычную тэрміналогію, але ярка праяўляецца ў непрыманні дасягненняў заходняй цывілізацыі — культурных, тэхналагічных, духоўных.

Другая рыса — невыпраўны расійскі патрыятызм у яго вялікадзяржаўнай, месіянерскай форме. Фактычна ён быў рамантыкам імперыі — не столькі матэрыяльнай, колькі духоўнай, ідэальнай; будаўніком "Сусветнага Парадку" і "Касмічнай Іерархіі", гарачым прыхільнікам тэорыі "Масква — трэці Рым". Рэрых фактычна — бадай, слепа — верыў у Расію, у яе цэнтральнае месца ў сусветнай гісторыі. Нават у Расію савецкую, у СССР. Проста дзіўна, што чалавек, які прэтэндаваў на званне прарока, не заўважаў, якое зло прынёс камунізм ягонаму народу. Не ведаў ці мо не хацеў ведаць, але ў час, калі на Радзіме знішчаліся і храмы, і людзі, і культура, ён усім сваім аўтарытэтам бараніў як "нападак" і "паклёпу" новы сацыялістычны лад. Хутчэй за ўсё ён быў простым смяротным, які не пазбег памылак, і вялікім ідэалістам, які за ўласнай марай пра дзяржаву святла, мудрасці і вечнай прыгажосці не заўважаў супярэчлівай і пачварнай рэчаіснасці, бо яна не ўваходзіла ў яго ідэальныя схемы. Вядома, што вялікія летуценнікі і фанатычныя ідэалісты на практыцы могуць нарабіць шмат бяды. На шчасце, М. Рэрых увасабляў свае праекты толькі ў літаратуры ды жывапісе, і больш удала, на маю думку, — у апошнім.

Усё ж варта ўвагі яго навуковая і грамадская дзейнасць, волат духоўнага развіцця і асветніцтва. Тое ж, што сёння называюць вучэннем Рэрыхаў (вялікі ўдзел у ім і жонкі Алены) — ёсць класічны постхрысціянскі праект, які на глебе праваслаўнай і індыйскай традыцый паспрабаваў сінтэзаваць новую экуменічную ідэю, па-свойму цікавую, але не пазбаўленую хібаў.

Галоўны з іх — эзатэрычнасць, недасяжнасць для простага, паспалітага люду. Цяжка чалавеку сярэдняму, постсавецкаму, стоячы дзвюма нагамі ў зямным брудзе, узнесціся да касмічных метафар "Агні Ёгі", спасцігнуць тонкае хітрасплясенне ейных думак. Хаця для пэўнага кола інтэлектуалаў яно будзе і духоўным апірышчам, і клубам "прасветленых", і нават своеасаблівай рэлігійнай сектай. Я ж лічу, што спадчына Рэрыха шырэй гэтых ідэалагічных рамак.

"Эстэтствуючая" і проста думаючая публіка можа адкрыць у ёй для сябе нямала цікавага. Мяне, напрыклад, затрымала карціна Ю. Маскаленкі з вялізнай плантацыяй лотасаў у суправаджэнні такога тэксту: "Зямныя кветкі — адзіная сувязь жывая зямлі з Небам. У стварэнні кветкавай пыльцы як бы асаджаюцца крышталі праны. Не жартуючы можна сказаць, што ў кветках асядае неба на зямлю" ("Свет вогненны", ч. І). А што такое кветкі? Эўрыка! Гэта ж ні што іншае, як прылада для размнажэння, інакш кажучы — палавыя органы раслін! Значыць, не жартуючы можна сказаць, што rima pudendi і penis — ёсць натуральныя чалавечыя кветкі, сперма — крышталі праны, і нездарма жанчына сімвалізуе зямлю, мужчына — неба, а каханне — яднанне зямлі з небам. Вось чаму паганскі культ фаласа — культ неба, а сучаснае з'яўленне яго ў мастацтве — вяртанне да нашых забытых каранёў. Вось чаму мы так любім і ўзносім кветкі — бо не можам адкрыта абагаўляць кветкі больш блізкія і жаданыя. Атрымліваецца, што сімвал стаў для нас мацней за сутнасць.

Гэтая рэмінісцэнцыя можа цягнуцца бясконца, як сама любоў ці шлях да ісціны, але я хацеў бы зноў вярнуцца да Рэрыха і скончыць свой опус ягонымі словамі: "Хто ведае — шукае. Даведаўшыся — знаходзіць. Знайшоўшы — здзяйсняе лёгкасці авалодвання. Авалодаўшы, пяе песню радасці..." Гэта і пра нас. І хоць да радасці вельмі далёка, пошукі, аднак, пачаліся...

*г. Магілёў*

ВЫСТАВЫ

# Сваё месца ў свеце

Мабыць, ніводны від мастацтва не ўплывае так на грамадскую свядомасць, як манументальная скульптура. У гэтым сэнсе яна можа паспрачацца нават з кінематографам і, бадай, з тэлебачаннем. Можна колькі заўгодна тлумачыць людзям, што Ульянаў-Ленін быў кепскім чалавекам, але помнік, да якога ўсе прызвычаіліся, будзе пераконваць усе аргументы. Гэта добра разумелі бальшавікі, калі нішчылі помнікі мінулага і ладзілі на людных месцах сваю "манументальную прапаганду". У спадчыну ад Савецкага Саюза нам засталася тысячы помнікаў, мемарыяльных комплексаў і памятных знакаў, але толькі адзінкі з іх мы можам назваць сваімі, беларускімі.

Крыху лепей справы ў станковай пластыцы. Але і тут наўрад ці можна гаварыць пра наяўнасць нацыянальнай школы. Бракуе традыцыі, бракуе наватарства.

Уладзімір Слабодчыкаў (ягоная выстава працуе зараз у Палацы мастацтваў) — адзін з нямногіх беларускіх скульптараў, чыё мастацтва я назваў бы традыцыяй, адаптаванай да сучаснасці. Яшчэ калі ён лічыўся маладым мастаком, ягоная творчасць была заўважана крытыкай і гледачамі. Скульптуры Уладзіміра Слабодчыкава вылучаліся цеплынёю і нечаканаю трактоўкаю звыклых для савецкага мастацтва тэм. Пра тую ж вайну (хто да гэтай тэмы толькі ні звяртаўся!) ён здолеў сказаць сваё і сваімі словамі. Не абмінаў увагаю мастак і "вечныя" тэмы



— каханне, жаноцкасць, мастак і свет. І гэта ва Уладзіміра атрымлівалася выразна, пераканаўча, па-свойму.

Гэтая персаналія для мастака — новы творчы этап. Пераход ад натхнёнай апавядальнасці ды выверанай знакавасці. Яскравы прыклад — скульптура "Прысвячэнне Шагалу", іншыя творы метафарычна-міфічнага зместу. Тут, дарэчы, ёсць небяспека, што, зарыентаваўшыся на знакавасць, мастак можа нешта страціць у пластычнасці, што ён адыдзе ад уласна пластычных пошукаў. Час пакажа... Адно пасля прагляду выставы можна казаць упэўнена: гэта не



даніна модзе, гэта сучасная пластыка. І прыйшоў да гэтага мастак эвалюцыйным шляхам.

І яшчэ адна скульптурная выстава працуе зараз у Мінску. У "Доме Бембеля" (музеі сучаснай беларускай скульптуры). Персаналія Аляксандра Стралкова. Ён, як і Уладзімір Слабодчыкаў, выкладае на кафедры скульптуры Беларускай акадэміі мастацтваў. Толькі, у адрозненне ад свайго старэйшага калегі, мае значна меншы творчы і выкладчыцкі вопыт. Бо не так даўно сам быў студэнтам нашай акадэміі. У экспазіцыі нават прадстаўлены ягоныя курсавая і дыпломная работы. Па маладосці гадоў Аляксандр Стралкоў, думаецца, імкнуўся "объять необъятное". Яго цікавілі і глабальныя праблемы экалогіі (што адбілася ў ягонай дыпломнай рабоце), і Хрыстовыя пакуты як адлюстраванне крыжовага шляху чалавецтва (курсавая работа). Сёння ён мудра сябе абмежаваў. Тое, у чым ён сапраўды майстар — гэта анімалістыка. У вывах розных жывёлін адбілася і ягоная любоў да прыроды, да "братоў нашых меншых", і здольнасць да псіхалагічнага аналізу. Гэта не проста птушкі і звяры. Гэта менавіта партрэты, дзе ёсць характар, псіхалагізм. Ягоныя арлы, алені, сабакі — асобы ў чалавечым сэнсе гэтага слова. Пад кожны "партрэт" ён спецыяльна падбірае матэрыял, найбольш адпавядаючы вобразу — мармур, бронзу, кераміку, каваную медзь.

На такую выставу гараджанам трэба хадзіць з дзецьмі. Як у заапарк. Каб адчуць сваю адказнасць і зразумець сваё месца ў свеце.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*На здымках: "Раўнавага"; "Прысвячэнне Шагалу" (сілумін, граніт).*

## Гераіня плюс...

**...Плюс нямала іншых музыкантаў, партнёраў па мастацтве. Усе яны зладзілі днямі канцэрт у Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы ў Мінску. Проста добры, з разнастайнай і дынамічна выкананай праграмай канцэрт меў дзве адметнасці.**

**Па-першае, гэта быў своеасаблівы імянінны вечар Мінскага абласнога камернага хору "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута. Хору споўнілася 5 гадоў, і з дапамогай вядучай канцэрта музыказнаўцы Вольгі Савіцкай публіка мела магчымасць пераканацца, якімі плённымі былі гэтыя гады ў творчым жыцці калектыву. Папаўненне рэпертуару, абнаўленне канцэртных праграм. Вандроўкі па краіне, у Германію, Польшчу. Лаўры міжнародных фестываляў. Мэтанакіраваная папулярызацыя беларускай харавой музыкі — і той, што зусім нядаўна вернута ў наш культурны ўжытак, і той, што пішацца сёння. Хор "Sonorus" не зблытаеш з іншымі "братамі па жанры" хаця б таму, што з нядаўняга часу гэта ўжо не толькі пеўчы калектыў, а капэла кшталту колішніх еўрапейскіх музыканцкіх гуртоў, распаўсюджаных у даўнія часы на Беларусі: хор ды аркестр.**

**Па-другое, хор і аркестр "Sonorus" зладзіў своеасаблівы бенефіс маладой сваёй салісткі — дыпламанта конкурсу імя Л. Александроўскай Таццяны Пятровай. Уладальніца прыгожага, глыбокага сапрана, шчырая і артыстычная, была яна сапраўднай гераіняй вечара. Ёй нават не выпадала адпачыць: канцэрт ішоў без антракта, і невялікі перапынак, падчас якога ўладкоўваліся артысты хору ды аркестранты, спявачка скарыстала, каб "перавесці дух" і змяніць сцэнічны строй.**

**У суправаджэнні піяністкі Ірыны Целяпнёвай выштукоўвала яна прыўкраснасць італьянскага бельканта (арыі з опер В. Беліні, Дж. Пучыні), стварала найтанчэйшыя абразкі ў рускай рамансавай лірыцы (С. Рахманінаў, М. Чарапнін), працінала пачуцці публікі драматычнымі перажываннямі, зашыфраванымі ў звівах інтанацый ды капрызлівасці рытмікі твораў Э. Гранадаса, А. Шонберга. А яшчэ — намалявала кранальны партрэт сваёй гераіні ў арыёза Наташы з оперы С. Пракоф'ева "Вайна і мір" ды ўзнавіла прыгожы і трагічны маналог Ірыны (опера Д. Смольскага "Сівая легенда").**

**З хорам ды аркестрам "Sonorus" салістка Таццяна Пятрова выконвала самую розную заходнюю музыку. Гучалі арыя з араторыі Г. Гендэля "Месія", Соль мажорная імша Ф. Шуберта (уражвалі ансамблі з тэнарам Вячаславам Рудневым ды басам Алегам Гардынцом; спалучэнне лірыка-драматычнага сапрана з мяккім, далікатным басам у дуэце Т. Пятровай з А. Гардынцом), а таксама найпапулярныя "Ave Maria" І. С. Баха — Ш. Гуно і "Дым" Дж. Керна.**

**Была ў таго канцэрта яшчэ адна адметнасць: для выпускніцы Беларускай акадэміі музыкі Таццяны Пятровай ён стаўся экзаменам на прафесійную сталасць. Мяркуючы па тым, як шчыра віншавалі калегі ейнага педагога — народную артыстку Беларусі Ірыну Шыкунову, іспыт маладой спявачкі прайшоў паспяхова.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## У студэнтаў свята



**У Віцебску прайшоў IV рэспубліканскі фестываль "Студэнцкая вясна". Пяць дзён прадстаўнікі вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі прымалі ўдзел у конкурсах малюнкаў і фотаздымкаў, засядалі ў творчых лабараторыях, праводзілі экалагічную акцыю "Дрэвы памяці", удзельнічалі ў канцэртах і конкурсах, віктарынах і гульнях.**

**На здымку: студэнты Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута (злева направа) Аксана Гаўрусёва, Вадзім Туркоў, Наталля Гасціншчыкава, Канстанцін Пацей, Ігар Асіповіч і Вольга Ясюкевіч.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# "Не ўяўляюць гістарычнай каштоўнасці..."

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ЛЁС АФІЦЭРАЎ ВОЙСКА ПОЛЬСКАГА

БЫЛО...

***Лёс польскіх афіцэраў, інтэрніраваных у СССР пасля ўступлення 17 верасня 1939 года часцей Чырвонай Арміі на тэрыторыю Польшчы, доўгія гады быў забароненай тэмай. У апошнія гады з'явілася магчымасць зазірнуць у раней закрытыя сховішчы і выявіць, што цалкам яны не захаваліся. Смаленскі архіў НКУС, напрыклад, у гады вайны захапілі гітлераўцы (цяпер ён у ЗША). У гады Вялікай Айчыннай загінулі многія матэрыялы. У савецкіх фондах двойчы — 1947—48 і 1956—57 гадах — праходзілі "чысткі" матэрыялаў па гэтай праблеме. Знішчаны многія тысячы дакументаў (напрыклад, амаль чатыры тысячы асабістых спраў са Старабельскага лагера і інш.). Усё гэта, а таксама яшчэ няпоўнае выяўленне архіўных матэрыялаў не дае магчымасці стварыць цэласную карціну. І пакуль пытанняў больш, чым адказаў на іх.***

Што ж канкрэтна было вядома пра інтэрніраваных у 1939 годзе польскіх ваеннаслужачых з савецкіх і польскіх матэрыялаў? Агульная іх колькасць — не вызначана, указвалася прыкладна на падставе ўспамінаў. Уяўленне аб метадах фармавання лагераў досыць прыблізнае. Пра лёс салдат існавалі толькі агульныя здагадкі. Пра лёс афіцэраў вядома толькі па катынскіх магілах. Ці можа там быць 10-12 тысяч забітых, як аб'явілі гітлераўцы ў 1943 годзе, не вызначана. Вядома толькі, што ўсе пахаваныя ў Катыні былі расстраляны.

Але сёння за аснову пры вызначэнні часу іх гібелі бярэцца час спынення перапіскі са сваякамі, дадзеныя эксгумацыі 1943 года, рэчавыя доказы, знойдзеныя ў 1943 г. на трупах, але ў 1945 годзе знішчаныя фашыстамі.

У Войску Польскім у маі 1939 года было 18,5 тысячы афіцэраў, у корпусе аховы межаў — 846, у рэзерве — 60 тысяч, у адстаўцы — 12 тысяч. У выніку разгрому амаль мільённай польскай арміі ў верасні — кастрычніку 1939 г. гітлераўскія войскі ўзялі ў палон каля 18 тысяч афіцэраў і 400 тысяч салдат. Частка польскай арміі змагла пайсці ў Румынію, Венгрыю, Літву, Латвію.

Другая частка польскіх войскаў здала зброю Чырвонай Арміі. У верасні 1940 г. у газеце "Красная звезда" былі апублікаваны частковыя дадзеныя аб іх колькасці — 181 тысяча салдат, прыкладна 10 тысяч афіцэраў.

Высніць агульную колькасць інтэрніраваных цяжка. У дакументах ёсць сведчанні саміх інтэрніраваных аб тым, што многія адразу ж былі адпушчаны дамоў. У лагеры было зняволена 130242 ваеннаслужачыя, уключаючы перададзеных у 1940 г. з Прыбалтыкі. Лёс як асобных людзей, так і цэлых катэгорый інтэрніраваных, тэрміны знаходжання ў лагерах не былі вызначаны адразу і не ва ўсім залежалі ад савецкага боку.

У кастрычніку 1939 г. праходзілі перамовы паміж намеснікам наркама замежных спраў СССР В. Пацёмкіным і германскім паслом у Маскве фон Шуленбургам аб абмене насельніцтвам, інтэрніраванымі і ваеннапалоннымі, таму органы НКУС пастаянна вылучалі сярод інтэрніраваных тры групы. Да першай належалі асобы, якія жылі на тэрыторыях, што адышлі да СССР; да другой — тыя, што жылі на землях, якія адышлі да Германіі; да трэцяй — на тэрыторыях, якія адышлі да Літвы.

У распараджэнні Берыі ад 3 кастрычніка 1939 г. гаварылася аб роспуску па дамах усіх салдат — жыхароў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Некаторыя катэгорыі салдат — этнічных палякаў — належала сканцэнтраваць у Казельскім і Пуціўльскім лагерах да асобнага распараджэння.

Паследавала ўказанне Берыі аб падрыхтоўцы дакументаў і фарміраванні каманд інтэрніраваных для перадачы германскім уладам у адпаведнасці з пастаянным месцам жыхарства. Органам НКУС належала не вызваляць афіцэраў пад выглядам салдат.

У сярэдзіне кастрычніка 1939 г. урад СССР вырашыў правесці абмен з Германіяй ваеннапалоннымі і інтэрніраванымі. Былі ўстаноўлены пункты перадачы: адзін на Беларусі і два на Украіне. Германія прымала ваеннапалонных, "калі яны жылі ў нямецкай сферы ўплыву". Усяго на тэрыторыю Польшчы было рэпатрыявана 42492 чалавекі, якія "выказалі жаданне выехаць", як сказана ў савецкай зводцы 1941 года. Бо калі пачалася адпраўка інтэрніраваных да месца жыхарства, многія адмовіліся ехаць пад уладу нямецка-фашысцкіх акупантаў.

19 лістапада 1939 г. выйшла ўказанне Берыі аб зборы пакінутых (ці не прынятых Германіяй) афіцэраў у Старабельскім, Асташкаўскім і Казельскім лагерах.

У Старабельску Варашылаўградскай вобласці ў былым манастыры і шэрагу будынкаў у горадзе, дзе жылі палкоўнікі і генералы, на 14 кастрычніка 1939 года было 7045 чалавек: 4813 радавых, 2232 афіцэры (калі лагер стаў афіцэрскім, колькасць афіцэраў павялічылася да 3974 чалавек). Змешчаныя ў лагер актыўна і арганізавана патрабавалі ад савецкіх уладаў выканання міжнародных канвенцый аб ваеннапалонных і інтэрніраваных і г. д. Аднак органы НКУС "раскрылі" там тайную антысавецка-нацыяналістычную арганізацыю.

Асташкаўскі лагер, размешчаны на адным з астравоў возера Селігер (востраў Столбны, былы манастыр Нілава Пустынь), функцыянаваў з 28 верасня 1939 г. На 10 кастрычніка 1939 г. у Нілавай Пустыні было 184 афіцэры, 6938 радавых з "савецкіх ваяводстваў" і 1913 — з этнічнай Польшчы. Потым у Асташкаве сабралі выключна чыноў паліцыі, жандармерыі, корпуса пагранічнай аховы, асаднікаў і г. д. На 1 снежня 1939 года ў лагеры налічвалася 5963 чалавекі, з іх паходзілі з этнічнай Польшчы — 3848, з заходніх абласцей СССР і Літвы адпаведна 1919 і 196.

Казельсі лагер размяшчаўся за дзвесце кіламетраў ад Смаленска. Да 1 лістапада 1939 года Казельск-І быў змешаным перасылачным лагерам на 8843 чалавекі. Прыкладна 6,2 тысячы чалавек утрымлівалася ў асноўным лагеры, 2,6 тысячы — у філіяле, размешчаным у Опцінай Пустыні.

Пасля адпраўкі салдацкіх эшалонаў на Захад у лагер пачалі прывозіць афіцэраў. І лістапада прыйшоў эшалон у дзве тысячы чалавек, 3 лістапада — паўтары тысячы. Лагер стаў чыста "афіцэрскім". У сувязі з тым, што лагеры былі перагружаны, нарадзілася чарговая прапанова кіраўніцтва НКУС аб "далейшай разгрузцы лагераў". Для гэтага ў лютым 1940 г. было прынята рашэнне адпусціць усіх асоб старэй за 60 гадоў, усіх хворых, інвалідаў, усіх афіцэраў запасу з савецкіх абласцей — у мірным жыцці аграномаў, урачоў, настаўнікаў, інжынераў і тэхнікаў (усяго 700-800 чалавек).

У гэты час і адбываецца завязка будучай трагедыі. Звернемся да дакумента — пісьма Берыі да Сталіна.

"ЦК ВКП(б), таварышу Сталіну. У лагерах для ваеннапалонных НКУС СССР і турмах заходніх абласцей Украіны і Беларусі ў цяперашні час утрымліваецца вялікая колькасць былых афіцэраў польскай арміі, былых работнікаў польскай паліцыі і разведвальных органаў, членаў польскіх нацыяналістычных к-р партый, удзельнікаў выкрытых к-р паўстанцкіх арганізацый, перабежчыкаў і інш. Яны з'яўляюцца заклятымі ворагамі савецкай улады, перапоўненымі нянавісці да савецкага ладу.

Ваеннапалонныя афіцэры і паліцэйскія, знаходзячыся ў лагерах, спрабуюць працягваць к-р работу, вядуць антысавецкую агітацыю. Кожны з іх толькі і чакае вызвалення, каб мець магчымасць актыўна ўключыцца ў барацьбу супраць савецкай улады. Органамі НКУС у заходніх абласцях Украіны і Беларусі раскрыты шэраг к-р паўстанцкіх арганізацый. Ва ўсіх гэтых к-р арганізацыях актыўную кіруючую ролю ігралі былыя афіцэры былой польскай арміі, былыя паліцэйскія і жандармы.

У лагерах для ваеннапалонных утрымліваецца ўсяго (не лічачы салдат і унтэр-афіцэрскага складу) — 14736 былых афіцэраў, асаднікаў і разведчыкаў...

У турмах заходніх абласцей Украіны і Беларусі ўсяго ўтрымліваецца 18637 арыштаваных (з іх 10685 палякі), у тым ліку:

Былых разведчыкаў і жандармаў — 5141;

Былых афіцэраў — 1207;

Былых памешчыкаў, чыноўнікаў — 347;

Членаў розных к-р і паўстанцкіх арганізацый і рознага к-р элемента — 5345;

Перабежчыкаў — 6127.

Зыходзячы з таго, што ўсе яны з'яўляюцца закаранелымі, невыпраўнымі ворагамі савецкай улады, НКУС СССР лічыць неабходным..."

Якія меры лічыў неабходнымі НКУС — крыху ніжэй.

Недаступнасць дакументаў, якія тычацца савецка-германскіх перамоў адносна польскіх праблем, не дае магчымасці ў поўнай меры асвятліць гэтыя самыя праблемы. Тым не менш, да нейкага пагаднення бакі прыйшлі. З сярэдзіны красавіка 1940 г. аднавілася перасяленне бежанцаў і немцаў.

Мы не ведаем даты нарады ў Кракаве, таму не можам супаставіць паслядоўнасць падзей, якія адбываліся ў Савецкім Саюзе і ў лагерах інтэрніраваных. Па дакументах, а правільней, па паслядоўнасці падзей, можна меркаваць, што ў сакавіку "у вярхах" СССР вырашалася пытанне аб далейшым існаванні лагераў.

У 1940 г. рушылі афіцэрскія лагеры. З Казельска першы эшалон выйшаў 3 красавіка, другі — 6 красавіка, са Старабельска першы — 5 красавіка 1940 г.

Зусім нядаўна стала вядома, што санкцыю на знішчэнне тысяч ні ў чым не вінаватых людзей дало Палітбюро ВКП(б). Звернемся да гэтага дакумента.

"Усесаюзная Камуністычная Партыя (бальшавікоў) N II 13/144

5 сакавіка 1940 г. тав. Берыя

44. Пытанне НКУС СССР

1. Прапанаваць НКУС СССР:

1) Справы аб утрымліваемых у лагерах для ваеннапалонных 14700 чалавек былых польскіх афіцэраў, чыноўнікаў, памешчыкаў, паліцэйскіх, разведчыкаў, жандармаў, асаднікаў і турэмшчыкаў,

2) а таксама справы аб арыштаваных і ўтрымліваемых у турмах заходніх абласцей Украіны і Беларусі ў колькасці 11000 чалавек розных к-р шпіёнскіх і дыверсійных арганізацый, былых памешчыкаў, фабрыкантаў, былых польскіх афіцэраў, чыноўнікаў і перабежчыкаў — разгледзець у асаблівым парадку, з прымяненнем да іх вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

2. Разгляд спраў правесці без выкліку арыштаваных і без прад'яўлення абвінавачання, пастановы аб заканчэнні следства і абвінаваўчага заключэння — у наступным парадку:

а) на асоб, якія знаходзяцца ў лагерах для ваеннапалонных, — па даведках, прадастаўленых Упраўленнем па справах ваеннапалонных НКУС СССР,

б) на асоб арыштаваных — па даведках са спраў, прадастаўляемых НКУС УССР і НКУС БССР.

3. Разгляд спраў і вынясенне рашэння ўскласці на тройку, у складзе т. т. Мяркулава, Кабулава і Баштакова (начальнік 1-га Спецаддзела НКУС СССР)".

Непасрэдна прысуд аб расстрэле больш за 20 тысяч афіцэраў польскай арміі быў вынесены Асаблівай нарадай НКУС СССР, на падставе рашэння Палітбюро ЦК ВКП(б) у красавіку 1940 г.

Следства, праведзенае ў 1990—1992 гадах следчай групай Галоўнай ваеннай пракуратуры СССР, выявіла, што не толькі ў равах Катыні ляжаць афіцэры польскай арміі. Прынамсі, афіцэры — паняцце занадта агульнае, яно не дае поўнага ўяўлення аб тым, хто быў прызначаны да ліквідацыі. Дзве трэціх інтэрніраваных складалі афіцэры запасу: інжынеры, настаўнікі, адвакаты, урачы, выкладчыкі, ліцэісты, студэнты, святары (капеланы). Генерал Уладзіслаў Андэрс пісаў: "Масква ажыццяўляла план абезгалоўлівання грамадства". Калі ўлічыць, што ў той жа час з Польшчы дэпартаваліся сем'і асуджаных на смерць, сумненняў не застаецца: знішчаўся цвет нацыі.

Прычым у Катыні пахаваны толькі тыя афіцэры, якія знаходзіліся ў Казельскім лагеры. Дзе завяршыўся крыжовы ход іх таварышаў з лагераў у Старабельску і Асташкаве, не было вядома да нядаўняга часу. Сёння ўстаноўлены і месцы іх пакарання, і месцы пахавання — лесапаркавая зона ў Харкаве і пасёлак Меднае ў Цвярской вобласці. Ёсць падставы меркаваць, што частка з іх расстраляна ў Курапатах, а таксама ў раёне станцыі Тайга (цяпер Кемераўская вобласць РФ).

Заканчэнне справы па знішчэнні больш за 20 тысяч чалавек адзначылі ў Маскве. 26 кастрычніка 1940 г. з'явіўся сакрэтны ўказ за подпісам Берыі аб узнагароджанні работнікаў НКУС за паспяховае выкананне спецыяльнага задання месячным акладам. У спісе значылася 143 прозвішчы: афіцэры дзяржбяспекі, наглядчыкі, вахцёры, шафёры. Узнагарода — "заслужаная". "Мы не ўпраўляліся працаваць, спалі ўсяго па тры гадзіны", сведчыў у сваіх паказаннях наш зямляк Мітрафан Сырамятнікаў, старшы па корпусе харкаўскай унутранай турмы НКУС. Яму можна верыць: ён і ягоныя калегі капалі магілы, грузілі трупы на машыны, замотвалі шынялямі галовы забітых, каб не крывавілі...

У лясных масівах, якія належалі харкаўскаму НКУС, выкопвалі вялікія ямы з тым разлікам, каб у іх маглі ўехаць заднім ходам крытыя грузавікі. Не адзін год сюды звозілі трупы расстраляных у падвалах НКУС. Аднак калі раней дзённай "нагрузкай" было да дзесятка трупаў, то на зыходзе красавіка 1940 г. пачалі прывозіць сюды ледзь не поўныя кузавы...

Пры правядзенні эксгумацыі знайшлі боты і галёшы з маркіроўкай "Чырвонага трохкутніка". Гэта — нашы. Відаць, перад расстрэлам людзей прымушалі распранацца да гала. Знішчэнне суайчыннікаў праводзілася прадумана — каб не пакідаць слядоў. Але вось галёшы ператварыліся ў рэчавыя доказы...

Польскіх афіцэраў, па ўсёй верагоднасці, спяшаліся забіць хутчэй — толькі гэтым можна растлумачыць тое, што іх не падверглі прыніжальнай працэдуры распранання. Знойдзена мноства прастрэленых чарапоў. Ёсць сляды куль і ў касцях ног. Крыміналісты тлумачаць гэта тым, што пасля зачытання прысуду многія з тых, каго прывозілі жывымі, спрабавалі ўцячы. Іх касілі з кулямёта па нагах, а потым ужо дабівалі з нагана...

Пасля падзей 1940-га прайшло амаль 29 гадоў, калі з'явіўся вельмі важны для следства дакумент, змест якога стаў вядомым зусім нядаўна. Узновім фрагменты з яго:

"Асаблівая папка

Зусім сакрэтна

Таварышу Хрушчову М. С.

У Камітэце дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў СССР з 1940 года захоўваюцца ўліковыя справы і іншыя матэрыялы на расстраляных у тым жа годзе палонных і інтэрніраваных афіцэраў, жандармаў, паліцэйскіх, асаднікаў, памешчыкаў і г. д. і г. д. асоб былой буржуазнай Польшчы. Усяго па рашэннях спецыяльнай тройкі НКУС СССР было расстраляна 21857 чалавек, з іх: у Катынскім лесе (Смаленская вобласць) 4421 чалавек, у Старабельскім лагеры паблізу Харкава 3820 чалавек, у Асташкаўскім лагеры (Калінінская вобласць) 6311 чалавек і 7305 былі расстраляны ў іншых лагерах і турмах Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі...

Для савецкіх органаў усе гэтыя справы не ўяўляюць ні аператыўнай цікавасці, ні гістарычнай каштоўнасці. Наўрад ці яны могуць уяўляць сапраўдную цікавасць для нашых польскіх сяброў. Наадварот, якая-небудзь непрадбачаная выпадковасць можа прывесці да расканспірацыі праведзенай аперацыі з усімі непажаданымі для нашай дзяржавы вынікамі...

Зыходзячы з выкладзенага, уяўляецца мэтазгодным знішчыць усе ўліковыя справы на асоб, расстраляных у 1940 годзе па названай вышэй аперацыі...

Старшыня КДБ пры СМ СССР Л. Шалепін

3 сакавіка 1959 года".

Дагэтуль застаецца не выяўленай прамая сувязь паміж ліквідацыяй лагераў і праблемай дэпартацыі, комплексам савецка-германскіх адносін перадваенных гадоў. Новая абстаноўка ў свеце, прызнанне прыярытэту агульначалавечых каштоўнасцей ствараюць умовы для сур'ёзнага гістарычнага і прававога даследавання справы пра афіцэраў польскай арміі з мэтай пераадолення тых негатыўных напластаванняў, якія нам пакінула гісторыя. Да змрочных старонак гісторыі адносіцца і лёс інтэрніраваных у СССР афіцэраў польскай арміі.

Сказаць праўду пра іх лёс неабходна дзеля таго, каб не толькі ліквідаваць яшчэ адну "белую пляму" навейшай гісторыі, але і зняць палітычны аспект гэтай праблемы.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

ПАМЯЦЬ

# Ад вытокаў радаводных...

У Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы прайшла вечарына, наладжаная ў гонар 50-годдзя народзін Міколы Дзяшкевіча, таленавітага пісьменніка, удумлівага і руплівага даследчыка, былога старшага навуковага супрацоўніка Дома Купалы.

На вечарыну памяці прыйшлі сябры і паплечнікі М. Дзяшкевіча, навукоўцы музея, студэнты педагагічнага універсітэта імя М. Танка, яго ўдава Ніна Сяргееўна.

У асабістай справе М. Дзяшкевіча, што захоўваецца ў фондах музея Янкі Купалы, з аўтабіяграфіі даведваемся, што нарадзіўся пісьменнік 11 мая 1947 года ў вёсцы Пагор'е Карэліцкага раёна. У 1954 годзе хлопчык пайшоў у першы клас Астухоўскай сярэдняй школы, якую паспяхова скончыў у 1965 годзе. У гэтым жа годзе юнак паступіў на бібліятэчны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Будучы студэнтам 4-га курса, М. Дзяшкевіч прыйшоў працаваць у музей Янкі Купалы. Быў залічаны на пасаду навуковага супрацоўніка з месячным выпрабавальным тэрмінам. Але ўжо літаральна праз месяц тагачасны дырэктар музея Янка Шарахоўскі накіроўвае афіцыйны ліст на імя рэктара інстытута з просьбай размеркаваць студэнта-выпускніка М. Дзяшкевіча на працу ў музей, бо праявіў сябе Мікола за гэты час надзвычай працавітым, дасведчаным навукоўцам, у якога ўжо быў назапашаны немалы літаратурны багаж. Менавіта ў гэты час у сувязі з 90-годдзем народзін Янкі Купалы музей распачаў распрацоўку бібліяграфіі і летапісу жыцця і дзейнасці Янкі Купалы. І таму музею быў надзвычай неабходны падрыхтаваны бібліёграф з вышэйшай адукацыяй.

М. Дзяшкевіч ставрае бібліяграфію Янкі Купалы, заводзіць шматлікія навуковыя карткі, апрацоўвае фондавыя матэрыялы, піша шэраг артыкулаў, нарысаў, рэцэнзій. Гэтая праца прыносіла яму сапраўдную асалоду. Станаўленне яго як творцы, як пісьменніка, даследчыка адбылося праз святую любоў да Купалы, да яго неўміручай спадчыны, да роднай мовы, да Бацькаўшчыны.

З хваляваннем я трымаю ў руках "Зводную справаздачу Дзяшкевіча М. А. (снежань 1969 — студзень 1971)". Гэты дакумент на трох машынапісных лістах — яскравае сведчанне таго, што М. Дзяшкевіч — першы з даследчыкаў, хто адшукаў матэрыялы гістарычнага значэння пра радавод сям'і Луцэвічаў, пра сацыяльнае становішча продкаў Купалы. Так, у ЦГА БССР ім была знойдзена двухтомная справа Мінскага дэпутацкага сходу пра шляхецкае паходжанне роду Луцэвічаў, дзе на 65-ым лісце пададзена схема радаводнага дрэва продкаў Купалы. У гэтай жа справе знаходзяцца выпісы з метрык літаральна ўсіх Луцэвічаў і "Указ яго імператарскай вялікасці" ад 23 верасня 1864 года, паводле якога Луцэвічы перададзены ў саслоўе мяшчан гор. Мінска. Дзякуючы іменна гэтай "Справе" карпатлівы даследчык прасачыў увесь даволі заблытаны і няпросты шлях роду Луцэвічаў.

Працуючы ў архівах Мінска, Ленінграда, М. Дзяшкевіч знайшоў геадэзічны план вёскі Вязынкі і прылягаючых да яе мясцін, апісанне вёсак Вязынкі, Ліпянёў, Гурнавічаў, Сялядчыкаў, Заслаўя, Паморшчыны, Радашкавіч, Каменя. У "Справах Мінскай мяшчанскай управы" М. Дзяшкевіч знайшоў запіс сямейнага спіса Луцэвічаў 1883 года і запіс пра тое, што 15 верасня 1907 года Купалу той жа мяшчанскай управаю быў выдадзены бестэрміновы пашпарт. Пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, былы дырэктар музея Янкі Купалы, прыгадваў:"Сярод вядомых мне купалазнаўцаў я не рызыкну назваць каго-небудзь другога, хто быў бы такім самаахвярным, як Мікалай Аляксандравіч". І сапраўды, з вялікім запалам і багаццем задум браўся малады чалавек за даследаванні. Яго настойлівая праца па прапагандзе творчасці Янкі Купалы, па паглыбленні крыніц, што тычацца паэта, дала значны плён. М. Дзяшкевіч шмат ездзіў па Беларусі з лекцыямі пра Янку Купалу, наведваючы бібліятэкі, школы. Вандроўкі далі магчымасць напісаць яму цікавую працу "Янка Купала і развіццё бібліятэчнай справы ў Беларусі". Нельга не згадаць і артыкул М. Дзяшкевіча пра Купалаўскі тэатр, які ён вельмі любіў і якому аддаў значную частку свайго жыцця. Таленавітым, непераўзыдзеным экскурсаводам помняць М. Дзяшкевіча многія навукоўцы музея. У кнізе водгукаў — шматлікія ўдзячныя запісы самых розных людзей, якія адкрылі для сябе Купалу тут, у музеі, па-новаму пачулі яго вершы і паэмы.

Маладога навукоўца ніхто ў музеі не называў Мікола, а толькі Мікалай Аляксандравіч, бо яму былі ўласцівы сапраўдныя інтэлігентнасць, эрудыцыя, сціпласць, далікатнасць, шчырасць, шчодрасць, чалавечая спагада, увага і павага да другіх, духоўная моц і душэўная дабрыня. Гэтыя якасці выклікалі агульную да яго прыхільнасць. Пляменніца Янкі Купалы Я. Рамаиоўская прыгадвае, што даследчык часта распытваў яе пра незабыўную цётку Уладзю, Уладзіславу Францаўну Луцэвіч. Яго вельмі ўразіла, што, будучы ўжо хворай, яна працавала да апошняга дня, апошнім часам не заўсёды могучы падняцца на другі паверх музея. Калі ёй далікатна прапаноўвалі дапамогу, яна адказвала: "Я сама". У летапіс, які хацеў ажыццявіць М. Дзяшкевіч пад назвай "Я сама", быў укладзены глыбокі філасофскі сэнс: сама Уладзіслава Францаўна ўсё свядомае жыццё непакоілася, руплілася, працавала ў імя Вялікага Купалы.

Не паспеў напісаць гэту працу Мікалай Аляксандравіч. Раптоўная, жорсткая смерць забрала апантанага даследчыка ў росквіце і на ўзлёце творчых і жыццёвых сіл. Было ж яму толькі 24 гады! Ён загінуў у хвалях



Нёмана ў родных мясцінах, ратуючы пляменніцу.

У маладога вучонага была запаветная мара: стварыць манаграфію пра шматбаковую і шматгранную дзейнасць Янкі Купалы. Тытанічная задума, якая таксама засталася недаробленай...

Калі сябры, блізкія, паплечнікі выступалі са словам пра Міколу Аляксандравіча, у зале стаяла шчымлівая цішыня. Доктар філалагічных навук Арсен Ліс параўнаў Міколу Аляксандравіча з Палуянам, гэтай таксама трагічнай зоркай на небасхіле айчыннай літаратуры. "Культурны асяродак Беларусі страціў сапраўдны, вялікі талент, адметную Асобу, Творца на ніве беларускасці, якім быў Мікола Дзяшкевіч", — зазначыў А. Ліс.

Ва ўспамінах дырэктара музея Жаны Дапкюнас гучала горыч, шкадаванне, што не паспелі запісаць Міколавы экскурсіі. З непрыкрытым болем успаміналі М. Дзяшкевіча яго сябры — кандыдат філалагічных навук Мікола Мацюх, намеснік генеральнага дырэктара "Белаўтатурыст" Іван Турэйка...

У 1991 годзе ўбачыла света адзіная кніга Міколы Дзяшкевіча "Ад вытокаў радаводных...". Гэта — рукатворны помнік даследчыку. Праца, якой закрыта яшчэ адна белая пляма на літаратурнай карце Беларусі.

**Л. ДАВІДОЎСКАЯ,**
**загадчыца масава-асветніцкага аддзела Літаратурнага музея Янкі Купалы**

*Аўтар фота М. Дзяшкевіча — Зянон ПАЗНЯК*

# "Багацце й хараство твае прыроды"

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

М. Багдановіч і В. Ластоўскі шлях станаўлення беларускай мовы разумелі як ачышчэнне нацыянальнай душы ад чужародных напластаванняў. У гэтым дзеячы адраджэння бачылі першапачатковую ўмову станаўлення нацыянальнага стылю і заадно абвяшчалі нацыі перад агульначалавечай культурай. "А чым больш, — пісаў у 1927 г. К. Чорны, — нацыянальных асаблівасцяў мае гэтая культура, тым больш гэта ўзбагачае тыя нацыянальныя элементы, з якіх ствараецца агульная чалавечая культура".

Шлях да чалавецтва ляжыць праз шлях да сябе. На першым этапе павінна быць вырашана задача ўзнаўлення і натуралізацыі дэфармаванай нацыянальнай самасвядомасці, мовы і наогул усёй культурнай дзейнасці. Характэрны ў гэтых адносінах вершы У. Жылкі:

*Ёсць рукапісы,*
*змест якіх сцярты ледзь знаць*
*Ці нат другі напісан тэкст бязбожна.*
*Іх палімпсестамі прыната*
*здаўна зваць,*
*І першы іхні змысл пайме не кожны.*

*Краіна родная!*
*Так сталася й з табой.*
*Багацце й хараство твае прыроды*
*І прошласць слаўную змяшаў*
*чужак з гразёй*
*І словы вывеў гідкія для зводу.*

*Але працоўны дух,*
*разбіўшы мур турмы,*
*Здалеў вяковы бруд паганы змесці,*
*І з дзіўнай любасцю чытаем тое мы,*
*Што захавалася на палімпсесце.*
*(1921)*

Беларуская філасофія мовы, як і філасофія культуры, складваецца на экзістэнцыяльнай аснове. Яе вытокі пачынаюцца ў агульнаеўрапейскіх кірунках развіцця неарацыяналістычнага пазнання. Паспяховае вырашэнне практычных праблем моўнай палітыкі залежыць ад узроўню сучаснай тэорыі. Дзяржаўная моўная палітыка сёння ў Беларусі носіць папуліцкі характар і не мае пад сабою навукова-філасофскага грунту. Пашырэнне ў школе і дзяржаўным жыцці бульварна-канцылярскага жаргону, які ў Беларусі выдаецца за рускую мову, можа мець два сумныя вынікі. Тутэйшае рускамоўнае насельніцтва Беларусі актыўна спрые вульгарызацыі рускай мовы, разбурае яе сінанімію і семантычны змест. "Балбатня" фарміруе "тутэйшых" — маргіналаў, якія разам з мовай даўно страцілі "незвычайную духоўную сілу", а заадно і "здольнасць да непераможнай дзейнасці" (Чорны). Гэтых страт не можа кампенсаваць блатны ці канцылярскі жаргон. Не можа кампенсаваць іх і засвоеная рафінаваная чужая мова. Сотні год русіфікатарства — пераканаўчы доказ таму, што ў рускамоўным асяроддзі Беларусі не могуць з'явіцца ні "Новая зямля", ні "Василий Теркин", ні "Война и мир", ні "Аблава", ні "Сон на кургане".

Другі вынік русіфікатарства таксама відавочны. Выцясненне беларускай мовы са школы і дзяржаўнага жыцця вядзе да выраджэння і здзічэння масавага грамадства. Яго жыццёвым прынцыпам становіцца гімн "А нам всё равно". Дзяржаўная палітыка нігілізму ў адносінах да мовы карэннай нацыі можа быць зразумелай толькі пры адной умове: дзяржаве непатрэбна культура і культурны народ. За такую палітыку беларускі народ ужо аднойчы плаціў жыццём цэлых пакаленняў.

Перад нацыянальнай інтэлігенцыяй Беларусі сёння стаяць вельмі адказныя задачы. Задача тэарэтычнага плана — гэта афармленне нацыянальнай філасофіі і філасофіі культуры ў прыватнасці. Практычная задача — асветніцкая: укараненне здабыткаў сваёй культуры ў кола духоўных інтарэсаў чалавека масы. Без вырашэння гэтых задач далейшая культурная жыццядзейнасць беларускай нацыі наўрад ці магчыма, хоць духоўны патэнцыял нацыі і надзвычай высокі. Ва ўсякім разе дастатковы для таго, каб стварыць на карысць сабе і людзям нацыянальную культурасофскую школу ў духу неарацыяналізму.




# Змяняць сябе — няпростая справа

***У нас у гасцях — журналісты, супрацоўнікі часопіса "Беларусь" Валянціна ШЫМАНОВІЧ і Іван ЖДАНОВІЧ. У мінулым годзе яны па перыметры абышлі ўсю Беларусь і назвалі сваё падарожжа "кругасветкай". З яго і пачалася наша размова.***

**— Як узнікла задума падарожжа па Беларусі?**

**І. Ж.** Мы з Валянцінай у 1995 годзе здзейснілі паломніцтва ў Полацк, духоўны цэнтр Беларусі. Помнячы, што У. Жылка называў Вільню "беларускай Меккай", я назваў бы Полацк беларускім Іерусалімам. Было жаданне далучыцца і да зямлі Еўфрасінні, і да полацкай даўніны. І вось, на падыходзе да вёскі Арэхаўны...

**В. Ш.** Было цудоўнае надвор'е, любімы намі час заходу сонца — пяшчотная вельмі пара. Якраз тады ўзнікла думка прайсці пешшу праз усю Беларусь. Думка абрастала дэталямі, падрабязнасцямі і праз год вярнулася да нас ў выглядзе канкрэтнага плана.

**І. Ж.** Пачаць сваю "кругасветку" мы вырашылі таксама ад Еўфрасінні. Ад яе, можна сказаць, мы атрымалі "дабро", і ад Друі — з усімі нашымі рэчамі на самаробнай калясцы і генштабаўскімі картамі — пайшлі ўжо пешшу. Гэта было на Вялікдзень. Штодзень праходзілі па 25—30 кіламетраў. З Друі — на Гродна, на Брэст праз пушчу, праз усё Палессе, потым на Самахвалавічы, на Лёзна, на Расоны... Усяго 2800 кіламетраў — па веласіпедным спідометры. 120 дзён шляху.

**— Самы час запытацца ў Валянціны, як даўся жанчыне такі нялёгкі маршрут?**

**В. Ш.** Я спраўлялася. У Івана багаты турысцкі вопыт, ён сапраўдны мужчына, і я адчувала сябе абароненай. "Валя, беражы нашы ногі", — нязменна паўтараў ён, і я берагла. Не дай бог у кеды трапіць пясчынка... Нельга сказаць, што ўсё было ідылічна. Ішло псіхалагічнае падладжванне, і тут проста непазбежны дробныя непаразуменні. Лічыцца, што больш за 20 дзён людзям непажадана знаходзіцца разам. А тут 4 месяцы!

**І. Ж.** І здароўе нас, дзякаваць Богу, не падвяло. Калі ў чалавека ёсць мэта, то ніякая хвароба яго не бярэ. Тое самае, дарэчы, справядліва і адносна народа.

**В. Ш.** Трэба сказаць, што з прадуктамі таксама праблем не было асаблівых. Мяса, рыбы, алкаголю мы не ўжываем. Што з сабой узялі, што па дарозе куплялі, што людзі давалі — і грошай не хацелі браць. Адзін трактарыст пад Лоевам штодзень прыносіў нам слоік малака. А аднойчы, калі было асабліва цяжка, з'явілася "хуткая дапамога" — "КАМАЗ". Вадзіцель, распытаўшы нас і не прыдумаўшы, чым падтрымаць, далікатна апусціў мне 20 тысяч проста ў кішэньку.

**І. Ж.** Колькі людзей цікавых сустрэлі па дарозе! У Нароўлі, напрыклад, жыве сям'я, што пераехала з чарнобыльскай зоны. Паблізу ад хаты ў іх дуб расце, дык на тым дубе, на пляцоўцы, збудавана міні-хатка.

**В. Ш.** Сапраўдная хатка на аднаго чалавека. З вокнамі на раку, з канапкай... Для душы, як сказаў гаспадар. Некалі ён марыў стаць лётчыкам, дык хоць так бліжэй да неба.

**— Мінуўся год з пачатку вашага падарожжа, і, мабыць жа, асэнсаваны яго вынікі. Што вы для сябе адкрылі ў ім?**

**І. Ж.** Для мяне гэта быў час самаспазнання. У нас тры агульныя сшыткі дзённікавых запісаў, у іх каля сотні вершаў. Была магчымасць засяродзіцца на сабе, на сваіх адчуваннях. Здараліся дні, калі мы не сустракалі ніводнага чалавека. Кожную думку, кожнае ўражанне можна было "пакруціць", павярнуць неяк асабліва, зірнуць на іх з розных бакоў. На машыне, на ровары падарожнічаць — не тое. А пешкі ўбіраеш у сябе кожную драбніцу.

**— Па сутнасці гэта суцэльная медытацыя.**

**І. Ж.** Так. І вершы ўсе з медытацыі. Сны былі цікавыя. А аднойчы мы рашыліся на "марш-кідок" у 80 кіламетраў, на паўсутак. Праверка на выжываемасць. І калі я пасля адключыўся, то было ўражанне, што я ў нейкім іншым вымярэнні.

**В. Ш.** На працягу падарожжа з падсвядомасці выплывала і добрае, і благое. Мы спазнавалі свет як бы адзін праз аднаго. Свет і сябе саміх. Гэта паглыбленне ў падсвядомасныя глыбіні. Гэта ўнутраная работа.

**— Я ведаю, што многія людзі хацелі б працаваць над сабой, але не ведаюць — як, у іх проста няма методык. Што б вы параілі такім людзям?**

**В. Ш.** Першае — гэта быць шчырымі з самімі сабой. Не баяцца пачуць непрыемную праўду. Нам падабаецца, калі нас гладзяць "па поўсці", а калі супраць — чалавек бунтуе. Бунтуе наша эгаістычная прырода, тое, што нас раздзяляе.

**І. Ж.** Другое. Увесь час у нас унутры павінен быць назіральнік. Я і сына вучу: "Што ні робіш — фіксуй, назірай за сабой, пытайся, чаму я раблю тое, а не гэта". Каб у любы момант свядома асэнсоўваць свае ўчынкі.

**В. Ш.** ...а не проста плысці па цячэнні. Сусвет стварыў чалавека разумным для разумнай работы, як сказаў хтосьці з мудрых. Многае мы робім аўтаматычна, не задумваючыся.

**І. Ж.** ...І не бачым знакаў, якіх шмат вакол нас. Прыглядацца да знакаў — гэта трэцяе. Заўсёды выбіраць свой шлях па іх. Калі ты рухаешся ў адным патоку — будуць сустракацца добрыя людзі. Калі ў другім — людзі і рэчы вакол будуць іншымі. Свет — гэта люстэрка нас саміх, трэба адно бачыць, заўважаць падказкі.

**В. Ш.** Мы прыйшлі ў нашым падарожжы да адной — здавалася б, простай — ісціны: трэба адпавядаць таму, што ты дэклараеш (у вершах, напрыклад). Паэты, філосафы, нагогул усе творцы — толькі праваднікі. І калі ты не будзеш адпавядаць сваім дэкларацыям — будзеш "біты", інфармацыйны канал проста закрыецца.

**— І тады мы пачынаем скардзіцца, што "не пішацца"?**

**І. Ж.** Чалавек — істота шматпланавая. Прыйдзе час — і ты мусіш адпрацоўваць нейкі іншы план жыцця, службовы абавязак, напрыклад. Трэба аддаваць сям'і, аддаваць дзяржаве, канал творчасці можа закрывацца і ў такім выпадку. Не назаўсёды, пэўны час. Пра такія рэчы болей расказала б астрапсіхолаг Вольга Ібрагімава.

**В. Ш.** Ёсць і яшчэ адзін момант, пра які варта паразважаць. Жанчына часта спазнае, спасцігае сябе праз мужчыну, і наадварот.

**І. Ж.** Жанчыны больш чуйныя да тонкіх вібрацый, яны лягчэй успрымаюць іх. Нам застаецца толькі "счытаць" з яе інфармацыю. Што мужчыны з поспехам і робяць і лічаць сябе пры гэтым адкрывальнікамі. Тут дазволю сабе прачытаць некалькі строф са свайго верша:

*Ты — крыніца, я — ручай...*
*Між бясконцасці святлістай*
*Ты бруіш крыніцай чыстай,*
*Я — цяку ў засмяглы край.*

*Дзе бярэ пачатак ток?*
*З глыбіні бруіць крыніца...*
*Ты — жывая таямніца,*
*Пругкай Вечнасці глыток.*

*І па ложы ручая*
*Пачынае бег вадзіца*
*Каб да рэчкі далучыцца.*
*Без цябе змялею я.*

Такім чынам, мужчына моцны ў рацыё, а жанчына — у інтуіцыі.

**— Але на практыцы дамінуе звычайна галава, тое самае рацыё...**

**І. Ж.** І мы пажынаем плады гэтага скрыўлення. Бо інтуіцыяй, ад Бога можна адчуць тое, да чаго не дойдзе глуздамі ніводзін разумнік.

**— Ад паэзіі пяройдзем да тэмы больш празаічнай. Наколькі я зразумела, вы вегетарыянцы. Ад харчавання залежыць не толькі наша фізічнае здароўе, але і "вартасць" духоўнай арганізацыі?**

**І. Ж.** Так. Кожная ежа, як вядома, мае сваю энергетыку. Адна справа — яблык, які вырас на сонцы, другая справа — бульба, якая вырасла ў зямлі, і трэцяя справа — энергетыка свініны, што ўяўляе сабой трэцюю ступень перапрацоўкі. Людзям з вытанчанымі духоўнымі структурамі не патрабуецца шмат ежы. Яны здольны браць энергію — прану — непасрэдна з паветра, з сонца. Акрамя таго, не варта забываць, што мяса — гэта мясакамбінат, гэта кроў, гэта забойства. А забіваць нічога нельга, у тым ліку ідэі. Любая ідэя, нарадзіўшыся, павінна раскрыцца і састарэць сама сабой. У нашым грамадстве ёсць людзі, нават лідэры, якія жывуць старой камуністычнай ідэяй — ідэяй, якая не перашкаджала ў людзях выхоўваць бязбожнасць, няшчырасць, падазронасць, страх. Аднак і гэтую ідэю нельга падаўляць. Трэба супрацьпаставіць ёй новую, стваральную канцэпцыю, а не ўступаць у спрэчкі.

**В. Ш.** У прынцыпе вельмі нямногія могуць змяняць нешта ў жыцці. Часам дастаткова таго, што чалавек жыве ў суладдзі са светам. У кожнага свой шлях, свая праграма. Змяняць сябе — вельмі няпростая справа.

**— Калі чалавек самаўдасканальваецца, працуе над сабой, ці не азначае гэта, што ён адгароджваецца ад рэчаіснасці? Прасцей кажучы, ці не эгаіст ён?**

**І. Ж.** Кожны з нас — як маленькая цаглінка, з такіх цаглінак і будуецца храм нашага жыцця. Чаму старажытныя храмы такія трывалыя? Таму што кожную цаглінку апрацоўвалі рукамі; абчэсвалі, укладалі, мацавалі нават яйкамі. Так і з намі ўсімі. Калі кожны будзе дасканалым, моцным, то гэткім жа будзе і наша грамадства. Так што самая галоўная наша работа — якраз над сабой. Мы ж не ў ізаляцыі жывём. Мы ўплываем на тых, хто побач, перадаём ім сваю перакананасць. Так і ў вёсках, якія мы абышлі: мы глядзелі на людзей, але і людзі глядзелі на нас. Маё пажаданне інтэлігенцыі — ісці ў народ, ад імя якога мы спрабуем гаварыць. Здалёку слова не даходзіць.

**— Калі вы ўжо схадзілі "ў народ", кантактаваліся з ім зблізку, то што вы пра гэты народ можаце сказаць?**

**В. Ш.** Я сама ўкраінка, 20 год назад прыехала на Беларусь і адносна нядаўна загаварыла па-беларуску. У гэтым мне "Роднае слова" дапамагло, дзе мы з Іванам працавалі. Я супраць той думкі, што беларусы — забітыя, цёмныя людзі. У іх магутны патэнцыял закладзены, светлы прычым. Мне думаецца, што проста яны сабе цаны не ведаюць. Ёсць сіла прыродная, ёсць чысціня, але і асцярога таксама.



Не коснасць, не, — нерухомасць нейкая. Здаецца, дай штуршок — і абудзіцца сіла неймаверная, як у таго Іллі Мурамца.

**І. Ж.** Адчуваецца ўвесь час няверʼе ў сабе, шуканне знешняга аўтарытэту. Там, дзе не хапае годнасці, часам праяўляецца фанабэрыя. Сапраўды не ведаюць цаны — ні сабе, ні сваёй культуры, ні мове. Таму пажадана паўтараць зноў і зноў, што ў кожным з нас закладзены Божы пачатак. Іншага шляху няма.

**— У аднаго знакамітага чалавека спыталі, чаму ён не балатаваўся ў Вярхоўны Савет. Той адказаў: "Народа няма"...**

**І. Ж.** Народ такі, які ён ёсць, і на сённяшні дзень іншым быць не можа. Так казаць — усё роўна як наракаць, чаму я не нарадзіўся ў царскай сям'і. Існуе мноства сфер дзейнасці, дзе можна рэалізаваць сябе. Можна падарожнічаць, пісаць кнігі, весці гурток у школе, вучыць замежныя мовы... Зусім неабавязкова займацца палітыкай. Яна па сутнасці "на любіцеля". І яшчэ раз паўтару: калі да справы не падключана сэрца, калі яна не сагрэта любоўю — поспеху не чакай.

**З гасцямі размаўляла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ПІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Міхась ЗАМСКІ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 12.6.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 3393/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12